

***Вандалін Аляксандравіч Шукевіч*** *(1852-1919),*
*член-карэспандэнт Кракаўскай акадэміі навук, беларускі археолаг, этнограф, нарадзіўся і жыў у вёсцы Нача Лідскага павету (сучасны Воранаўскі раён).*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 60 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2012 г.


## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі былая гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Здымак С. Судніка.*


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1940**
**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2012 г.**
**Часопіс надрукаваны 15.01.2013 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792









**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Кроніка Ліды



29 - 30 верасня ў Жодзіне на XI конкурсе маладых эстрадных выканаўцаў “Белазаўскі акорд” 1-е месца заняла **Вольга Трафілава** салістка ВІА “Шкляры” з песняй “Прамень майго жыцця”.



4 кастрычніка ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 у мікраpаёне Маладзёжны быў адкрыты памятны куток **Ларысы Геніюш**. Тут устаноўлены знаёмы ўсім бюст паэткі работы скульптара М. Інькова, развешаны банэры з вершамі і адкрыта выстава твораў.



З 11 па 14 кастрычніка ў Маскве праходзіла XIV аграпрамысловая выстава “Залатая восень”. **ДП “Мінойтаўскі рамзавод”** атрымаў дыплом пераможцы і залаты медаль 1-й ступені за плугі ПНО 3-35 і ППО 8-45-01.






У сярэдзіне кастрычніка ў Лідзе надрукавана кніга з матэрыяламі краязнаўчай канферэнцыі **“Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух”**. У кнізе ёсць артыкулы лідскіх аўтараў.



Больш за дзесяць клубаў сярэднявечнай рэканструкцыі ("Dies Magna" з Ліды, "Арыдан" і "Кром" з Гародні, "Ордэн Паўночнага храма" з Наваградка, "Ваяр" са Слоніма, "Шляхецкая застава" з Баранавіч і інш.) сабраў у Лідзе 20 кастрычніка рэгіянальны фэст сярэднявечнай культуры "Ваярскія гульні".

30 кастрычніка ляснічы Фалькаўскага лясніцтва ДЛГУ “Лідскі лясгас” **Эдуард Масюк** узнагароджаны медалём “За працоўныя заслугі”.






У сярэдзіне лістапада ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны” выдала насценныя календары фарматаў А-4 і А-3 з выявамі Лідскага замка.



24 лістапада “Міс Прынёмання - 2012” стала лідзянка **Ксенія Карсюк.**




У пачатку снежня ў Лідскай друкарні выйшла кніга **“Зональный государственный архив в г. Лиде. Краткий справочник по фондам (1944 - 2011)”**. Складальнікі: Чарняўская Марыя Эдвардаўна, Алякіна Алена Пятроўна, Мартынаў Арцём Мікалаевіч і інш. 276 ст. Наклад 100 асобнікаў.

14 снежня 2012 г. у мікрараёне Гастэла прыняў першых пакупнікоў універсам гандлёвай сеткі "Алмі".





14 снежня 2012 г. у рамках праекту "Камунікацыя без межаў - стварэнне транспартнай турысцка-інфармацыйнай сеткі" ў Лідзе па адрасе: Замкавая, 8 адкрыўся Турысцка-інфармацыйны цэнтр.

# Лідскія юбіляры 2012 года
# Вандалін Шукевіч
## *160 гадоў з дня нараджэння*

**Вандалін Аляксандравіч Шукевіч** (1852-1919) нарадзіўся і жыў у вёсцы Нача Лідскага павету (сучасны Воранаўскі раён). Атрымаўшы пачатковую адукацыю дома, працягваў вучобу ў Вільні. Пад уплывам лекцый прафесара Іосіфа Юндзіла зацікавіўся праблемамі антрапалогіі, старажытнай гісторыі, заалогіі. У1872 годзе малады Шукевіч вяртаецца ў Начу. Спачатку арганізуе гурток маладых гаспадароў, а затым пераключаецца на заняткі археалогіяй і этнаграфіяй. Аб'ектамі вывучэння становяцца грунтовыя і кургановыя пахаванні ля вёсак Нача, Пузелі, Апонаўцы, Тоўцішкі, Сабакінцы, Дварчаны і іншых, што знаходзяцца на тэрыторыі сучасных Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў Гарадзенскай вобласці. Ён першы з беларускіх археолагаў раскапаў дзесяткі курганоў і каменных магіл тыпу жальнікаў XIII-XIV стст. Затым поле яго дзейнасці пашыраецца. Вучоны даследуе помнікі археалогіі ў Віцебскай губерні: каля Віцебска, Лепеля, возера Дрысвяты, у Троцкім павеце (суч. Літва). З часам ён назбіраў вялікую калекцыю археалагічных і нумізматычных прадметаў, матэрыялаў антрапалогіі, якія выклікалі вялікую цікавасць у тагачаснага вучонага свету.

Большая частка знойдзенага ім трапіла ў музеі Варшавы, Вільні, Кракава, Масквы і Санкт-Пецярбурга. Шукевіч піша такія гістарычныя працы, як "Каменныя курганы ў Лідскім павеце", "Двары, замкі, палацы", "Старажытныя каралеўскія лясы ў Літве", "Нарысы аб Белай Русі" і інш. Акрамя таго, даследчык займаўся збіраннем і апрацоўкай вуснай народнай творчасці, выдаў некалькі прац фальклорна-этнаграфічнага характару.

Найбольш вядомыя з іх "Народныя вераванні і абрады (забабоны, прымхі, прадказанні і інш.), сабраныя ў Віленскай губерні", "Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага народа, легенды і паданні", "Старажытныя лекавыя сродкі". Вучонага выбіраюць членам-карэспандэнтам Кракаўскай акадэміі навук. Памёр В. Шукевіч напрыканцы 1919 года і быў пахаваны ў сямейнай капліцы непадалёку ад роднай сядзібы. На сёння капліца адрэстаўравана і падтрымліваецца ў поўным парадку

Вандалін Шукевіч у пачатку XX стагоддзя, калі на павестку дня паўстала пытанне беларускага нацыянальнага адраджэння, падтрымаў гэтыя працэсы і насуперак польскай большасці даказваў выгаду для Польшчы сяброўскіх адносін паміж польскім і беларускім нацыянальнымі рухамі.




Найбольш поўную інфармацыю пра Вандаліна Шукевіча можна знайсці ў кнізе прафесара, доктара археалогіі Мар'яны Магдалены Бломберг - выдатнай вучонай з Лодскага ўніверсітэта. З'яўляючыся па прафесіі археолагам, яна ўсебакова асвяціла дзейнасць Вандаліна Шукевіча, як археолага, на Лідскай зямлі. Прафесар Бломберг падрабязна аналізуе археалагічныя дасягненні Шукевіча, які сам сябе ацэньваў вельмі сціпла, насуперак меркаванням археолагаў да сённяшняга дня, высока ацаніўшы яго археалагічныя здабыткі. У кнізе паказваецца, якую значную ролю адыграў Шукевіч у культурным жыцці Віленшчыны XIX і XX стагоддзяў. Вандалін Шукевіч змяшчаў свае артыкулы ў "Літоўскім кур'еры" ("Kurier Litewski"), "Віленскім пасланцы" ("Goniec Wilenski"), "Віленскай штодзённай газеце" ("Dziennik Wilenski"), "Польскай газеце" ("Gazieta Polska"). З'яўляўся старшынём шматлікіх навуковых аб'яднанняў, як, напрыклад, у таемным "Таварыстве прыхільнікаў старажытнасці і чалавеказнаўства". Кніга выдадзена Таварыствам польскай культуры на Лідчыне" ў 2010 г.

***Вандалін Шукевіч***

# Пра беларускую асвету

Пытанні так зв. нацыянальныя, а як у нас: літоўскае і беларускае, якія падымаюцца на старонках газет, выстаўляюцца ў такіх рознаколерных і адвольных асвятленнях і разглядаюцца найчасцей не цераз прызму навуковай нейтральнасці, а праз павелічальнае шкло рознародных пачуццяў, таму з такога іх асвятлення ўдаецца атрымаць не шмат карысці. Звычайна, гаворачы аб гэтых пытаннях, мы распальваемся, не можам ўтрымаць абавязковай у такіх выпадках раўнавагі. Некаторыя "нават выходзяць з сябе" з абурэння ад смеласці "нейкіх там" беларусаў або ліцвінаў пачуваць у сабе нацыянальную адметнасць. Альбо наогул ігнаруюць справу, прымаюць у такім выпадку тон іранічна - з'едлівы, стараючыся высмяяць кожны рух, скіраваны на ажыццяўленне мараў аб самастойнасці. Наколькі такая методыка паводзінаў правільная - не будзем на тым спыняцца. Здаецца ўсё-такі, што не спрычыніцца яна для раз'яснення сітуацыі і ўладкавання стасункаў паміж бакамі, Наадварот, можа толькі падрыхтаваць грунт пад пасеў непаразуменняў і ўзаемнай непрыязні.

Не туды дарога, шаноўныя панове! Пытанні такога значэння, як тыя, якія гавораць пра цэлую будучыню народаў, не адсоўваюцца нейкай дасціпнай фразай або больш-менш трапным нацягненнем гістарычных фактаў. У гэтым выпадку аргументаваць можна толькі на аснове дадзеных, якія маюць навуковую вартасць, непарушных, як скала, не забаўляючыся фразеалогіяй, годнай сярэднявечных схаластыкаў.

Жыццё супярэчыць амаль заўсёды ўсякім, найпрацавіцей і найдасціпней сканструяваным тэорыям, і не раз насупраць нашым найгарачым жаданням, выводзіць нас на такія дарогі, пра кірунак якіх мы не мелі раней найменшага разумення. Належыць з тым лічыцца, бо іначай заслужым смех спачування, як той, хто б хацеў стрымаць вецер дзьмуханнем.

Народ, які абуджаецца да жыцця адасобленага, альбо мае столькі сілаў жыццёвых, што яго ніякія намаганні свету з дарогі ягонай не звернуць, альбо іх не мае. А тады без націску з чыйго-небудзь боку, будзе паглынуты чужымі культурамі, згіне з паверхні зямлі. Народ, які абуджаецца да супольнага жыцця па ўласнай мадэлі, не патрабуе нянек, як і тады, калі мае сілы, адмаўляе, не прымае ніякага націску і насуперак усяму выквітнее ён з часам цудоўнай кветкай цывілізацыі, уносячы новы элемент у духоўны даробак гэтай цывілізацыі.

Наш святы абавязак ёсць - не перашкаджаць у развіцці той кветкі, але дапамагаць ёй.

Усялякія супрацьдзеянні ёсць вартыя тых прадстаўнікоў улады, якіх не хвалюе дабро для людзей, а толькі захаванне выгадных для іх форм дзяржаўнасці. Мы, палякі, жывём тут на Літве і зна-

. 3-ej, w święta zaś od 12 w poł. — Szczegóły w programach. 213a

## O oświatę białoruską.

Kwestje tak zw. narodowościowe, jak u nas: litewska i białoruska, rozwijane na szpaltach naszych dzienników, występują w tak różnobarwnych, a dowolnych oświetleniach, kierowanych najczęściej nie przez pryzmat bezstronności naukowej, lecz przez powiększające szkła różnorodnych uczuć, że z takiego ich oświetlenia niewiele korzyści daje się osiągnąć. Zwykle mówiąc o tych kwestjach, rozzamiętniamy się, nie możemy utrzymać koniecznej w takich razach równowagi. Niektórzy „wychodzą nawet z siebie" z oburzenia za śmiałość „jakichś tam" białorusów lub litwinów poczuwania się do odrębności narodowej, lub zgoła bagatelizują sprawę, a w takim ra-

gi, o kierunku których nie mieliśmy uprzednio najmniejszego pojęcia. Należy się z tem liczyć, bo inaczej zasłużymy na uśmiech politowania, jak ten, ktoby chciał powstrzymać wiatr dmuchaniem.

Naród budzący się do życia odrębnego albo ma tyle sił żywotnych, że go żadne potęgi świata z drogi nie zawrócą, albo ich nie ma, a wówczas bez nacisku z czyjejbądź strony, zostanie wchłonięty przez obce kultury, zginie z powierzchni ziemi.

Naród budzący się do życia społecznego, na własną modłę, nie potrzebuje „nianiek", jak również, jeżeli ma siły odpowiednie, — nie dba o żaden nacisk. Lecz pomimo wszystko, wykwitnie on z czasem wspaniałym kwiatem cywilizacji, wnosząc

ходзімся ў тым становішчы, што ніякага супрацьдзеяння выклікаць не ў стане і не павінны, хаця б з тых поглядаў, што нам трэба залучаць як найбольш сяброў, а не абуджаць нянавісць да сябе.

Нам вядома з уласнага досведу, якой цяжкай крыўдай і знявагай для чалавека ёсць прымус яго да прыняцця духоўнай ежы ў чужой мове. Вядома нам таксама, што гвалты, якія чыніліся над намі з мэтай змушэння нас да думання не па-польску, не прывялі да пажаданых вынікаў, а наадварот, выкапалі глыбокую прорву, якая не дапускае ні да якога паразумення.

Гісторыя вучыць нас, што народы незнішчальныя, што можна часова прыпыніць іхняе развіццё, але ніколі не ўдасца перамяніць істоту іх духу, забіць любоў да рэчаў айчынных, зацерці рысы адметнасці. Прыглушаная нават цяжкай рукой пераможцы, жорстка затрыманая ў сваім бегу раней ці пазней, а адшукае тая рыса сваё права і паўторнай хваляй разбурыць штучныя збудаванні чужых уплываў.

Прымус ніколі не мае права быць, асабліва ў галіне нацыянальных правоў.

Памыляецца той, які верыць у пасяховасць такой метады паводзін. Яшчэ больш памыляюцца тыя, якія лічаць, што ў нашых умовах мы можам думаць пра штучную асіміляцыю мільёнаў людзей. Дзяржавы, якія стаяць намнога вышэй ад нас культурна, якія маюць на падтрымку сваіх імкненняў матэрыяльную сілу, з цэлай сеткай дзяржаўных інстытутаў не раз спыняліся бяссільна перад адпорам этнічна прыгнечаных, а што ж ужо мы, расцярушаныя, бяссільныя, не здольныя зграмадзіцца дзеля салідарнага дзеяння.

Нам гавораць, што больш высокія культуры ўбіраюць у сябе культуры больш нізкія, пра што павінна быццам бы сведчыць логіка гісторыі. Праўда, але робіцца гэта роўна на столькі, на колькі больш высокую культуру людзі, якія стаяць на больш нізкім узроўні цывілізацыі, прысвойваюць сабе дабраахвотна.

Гвалт, з хоць якой напругай, заўсёды параджае адпор, гэта з'яўляецца неадменным правам прыроды. Зрэшты, каб які-небудзь народ з карысцю для агульначалавечай справы цалкам прысвоіў сабе вышэйшую культуру, трэба спачатку прыняць яго такім, якім ён ёсць, навучыць яго цаніць святло ведаў у яго роднай мове.

Потым ён сам зробіць выбар і, калі ўжо прыме чужую культуру, то назаўсёды - на дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Такая логіка гістарычная. Параўнаем толькі колькасць адпольшчаных немцаў, якія толькі пад націскам зрабіліся немцамі, з колькасцю аднямечаных палякаў з нямецкімі прозвішчамі - і зразумеем тую праўду.

Не трэба баяцца таго, што ў нас беларусы горнуцца да кніжак, якія даюць ім крошкі ведаў у іх роднай мове. Для польскасці няма ў тым руху небяспекі. Прынамсі, да тых, хто ім дапамагае падняцца духоўна ў іх уласнай мове, захаваюць яны пачуццё ўдзячнасці назаўсёды, і яны будуць ненавідзець кожнага, хто стане на шляху іх памкненняў або будзе выказваць непавагу да іх нацыянальнасці і мовы.

Праўда, што і да польскіх кніг горнуцца беларусы гэдак жа ахвотна. Гэта агульнае жаданне, імкненне да святла. Бо яны ўжо спазналі патрэбу ў навуцы і пачалі яе браць з усіх крыніц, якія пад рукой. Але навука, якая падаецца ў чужой мове, хоць і набліжанай, не так лёгка прыстасуецца да сутнасці жыцця, таму што ў беларусаў яна становіцца нечым іншым, чым у іх найбліжэйшых суседзяў - "польская", "панская", але не "мужыцкая", "беларуская".

Можна смяяцца з энтузіястаў, якія прагнуць сфарсіраваць беларускую справу, не лічачыся з абставінамі, можна іх называць "нянькамі" ці неяк яшчэ, але трэба памятаць, што калі мы не падтрымаем таго сімпатычнага - будзь што будзе - руху, то яго кірунак возьмуць у свае рукі нашы суседзі і выкуюць з яго меч на нас, бо маюць сілы і ўсякія магчымасці для таго. Прынамсі, усходня група праваслаўных беларусаў будзе цалкам страчана для нашага ўплыву, бо прыхіліцца да крэўнай сабе мовай і верай Вялікаросіі.

Іншая справа з беларусамі заходняй групы. Тут аснову народу складаюць такія розныя этнічныя фармацыі, што той свайго роду кангламерат нельга назваць нават ні Руссю Белай ні Чорнай. Бо каго толькі гэтыя наднёманскія пушчы і пяскі не бачылі. І палонных, як з Польшчы, так і з Маларосіі і нават з Чэхаў і ўцекачоў з-пад уціску з Маскоўскай дзяржавы і стольких іншых, каго цягнула ў наш край свабода, гарантаваная кожнаму, хто схаваўся пад крыло нашай Пагоні.

Як пацвярджэнне тых вандровак народаў захаваліся да сёння прозвішчы, якія гучаць ані па-беларуску, ані па-літоўску: такія, як: Залускі, Квяткоўскі, Кучынскі, Яленскі, Вайцахоўскі, Сабалеўскі, Савіч, Налівайка, Матэйка, Швед і тысячы іншых. Акрамя гэтага маем тут засцянковую шляхту. Ладам жыцця яна не адрозніваецца ад сялян, толькі пастаянна ўжывае польскую мову. Тут прапаганда польскасці яшчэ мае права быць. Належыць дапамагчы тым адзінкам у захаванні сваёй нацыянальнай адметнасці, а іншым паказаць дарогу для павароту ў лона польскасці. Але нельга забываць і пра братоў-беларусаў з крыві і косці, якія насуперак усяму самаўсвядаляюцца і хочуць захаваць сваю нацыянальную адметнасць. Падтрымкі масаў мы пры гэтым не атрымаем, але спрычынімся да завязвання наймацнейшых сардэчных сувязяў, бо ўчынкі нашыя будуць адпавядаць справядлівасці і праўдзе.

*Крыніца: Kuryer Litewski, № 196 - 1908.*

*Пераклад Станіслава Судніка.*

# Данута Бічэль

## 75 гадоў з дня нараджэння

Яе пакаленне прыйшло ў літаратуру ў канцы 50-х - 60-я гады з гарачым жаданнем сцвердзіць - як самыя значныя - нацыянальна-патрыятычныя і гуманістычныя каштоўнасці жыцця. Шчыры лірызм, грамадзянскі тэмперамент вершаў тагачасных маладых, іх прага сацыяльнай справядлівасці, духоўнасці, свабоды асобы, шанаванне роднага - усё гэта было запатрабавана новымі грамадскімі настроямі, якія не прымалі афіцыёзных ідэалагічных прынцыпаў.

Д. Бічэль была адной з вялікага гурту маладых, што пайшлі ў літаратуру пераважна з філалагічных факультэтаў і праз веды, адукацыю стараліся самаідэнтыфікавацца, развіць у сабе жывую душу, каб спраўней паслужыць роднай зямлі з дапамогай слова. Паэтэса, як і яе равеснікі, хутка творча расла, фармавалася як індывідуальнасць. Яе лірыка адметная шчодрасцю пачуццяў, глыбокім драматызмам, значнасцю думак пра свой край і народ. Традыцыйная народная культура - маральная аснова яе паэзіі, у якой моцна чуецца дух беларускай даўніны, міфаў, абрадаў, песень. Арганічны сплаў народна-паэтычнай і літаратурна-кніжнай (Я. Купала, М. Багдановіч, Л. Геніюш) стыхіі вызначае вобразны лад яе твораў, маляўніча метафарычных, асацыятыўных мастацкай структуры, сакавітых прыродаапісальным матэрыялам, натуральнасцю побытавых пластоў лексікі, якую паэтэса настойліва ўводзіла ў ранг літаратурнай, паказаўшы яе шырокую эстэтычную функцыянальнасць.

Нарадзілася Данута Янаўна Бічэль (у замужжы Загнетава) 3 снежня 1937 г. у вёсцы Біскупцы Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. Бацька, як старэйшы ў сялянскай сям'і, зямельнага надзелу не атрымаў, таму кідаўся ў заробкі. У выніку купіў кавалак зямлі і пабудаваў на ёй хату. Тут, на хутары Загасцінец, у прыгожай прыродным наваколлем мясціне прайшло дзяцінства паэтэсы. Вучылася ў школе ў няблізкіх Біскупцах, затым у Дакудаве. Скончыла на выдатна сямігодку ў Карнілках. У школьную пару пачалі прасіцца з душы вершы. Недзе з пятага класа пісала рэгулярна, але цішком, хаваючыся, "для сябе". Адкуль што бралася? Д. Бічэль успамінае:

*- Ад Загасцінца на поўдзень - лес. Прабегчы хвілін дзесяць - і вы ўжо каля ракі. Рака Гаўя ўпадае ў Нёман. Навокал заліўныя лугі. Лес клінком падступае да Нёмана і паўколам акаймляе луг. Праплысці па цячэнні Нёмана паўкіламетра - і тут ужо ўрочышча Казечына з векавымі дубамі, а па левы бок Нёмана пачынаюцца лясы, якія цягнуцца да Налібоцкай пушчы.*

Чытала тады не шмат. Сярод ранніх кніг - Я. Купала, А. Міцкевіч, Г. Сянкевіч. Найбольш паўплывала на развіццё паэтычнага светаадчування родная



песня, якая часта чулася і ў хаце, і на блізкай палявой дарозе ў вячэрні час.

*- Я нарадзілася ў польскай паэзіі. У нашай хаце ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне жыла польская паэзія. Я змалку ведала рэлігійныя песні, малітвы, якім мяне мама вучыла па-польску. А гэта таксама вершы. Я ўвогуле ўбірала паэзію, як цэмент ваду, як алкаголік алкаголь. Я з юнацтва ведала Адама Міцкевіча, у нас дома былі яго кніжкі. Я ведала Юліюша Славацкага, Марыю Канапніцкую, а пазней я чытала Галчынскага, Івашкевіча, Каміля Бачынскага - самых розных польскіх паэтаў. У мяне былі амаль усе кнігі Віславы Шымборскай. Іх у мяне пазычалі сябры і часам не вярталі. Але я на іх не крыўдую, гэта нармальна. А потым у Горадні ў нас ішло польскае тэлебачанне, якое трымала мяне ў акіяне сусветнай культуры, разбураючы ўсе межы і бар'еры.*

*Спала ў юнацтве на сене. Маці не любіла маіх начлегаў: адрынка амаль што ў лесе. Засынала пад песню. Іншы раз хацелася падбегчы да песні бліжэй, зазірнуць ёй у вочы.*

І вершы яе былі нібы працягам песень - меладычна лёгкія, эмацыянальна адкрытыя.

У 1953 г. паступіла ў Лідскую педвучэльню. Тут выступала з вершамі са сцэны, мела ўжо два сшыткі сваіх твораў. Толькі пісаліся яны звычайна дома, у лесе нават. Педвучэльню скончыла ў Навагрудку, бо Лідская была расфармавана. Хадзіла ў Навагрудку на пасяджэнні раённага літаб'яднання. У 1957 г. пераступіла парог Гарадзенскага педінстытута, стала студэнткай беларускага аддзялення гістарычна-філалагічнага факультэта. Праз год газета "Літаратура і мастацтва" змясціла яе верш "Роднае слова" - распеўны, радасны, напоўнены пачуццямі любові да Бацькаўшчыны, удзячнасці ёй. Цяпер паэзія ўсё больш становіцца справаю жыцця.

Раннія вершы Д. Бічэль лірычна светлыя, чыс-

тыя, празрыстыя па настроі. Юная асоба раскрывалася насустрач жыццю шчыра і хораша, з даверам да яго: *"Па шляхах зялёных Беларусі // Буду пракладаць свае дарогі"*. Яны вабілі, гэтыя нязнаныя дарогі, цешыла краса навакольнага, клікала да сябе рамантычная мара. І лёгка было, і добра, як бывае ў гэтую шчаслівую пару жыцця. *"Босыя ногі, // Голыя плечы... // Збочыць з дарогі - // Лугам прабегчы... // Над перасохлай // Рэчкаю соннай // Выпырхнуць звонкай // Птушкаю сойкай"*. Паэтычны свет яе заставаўся рамантычна ўзвышаным, і лірычная гераіня адчувала сябе часцінкаю натуральнай стыхіі роднага асяроддзя з яго прыродным шматгалоссем, песеннымі танамі і яснымі далячынямі. Хацелася *"перасмяяцца, // Перамарыцца, // З ветрам-травою // Нагаварыцца"*. Гэтыя асаблівасці першых зборнікаў яе лірыкі **"Дзявочае сэрца"** (1961) і **"Нёман ідзе"** (1964) добра былі адзначаны крытыкай, якая дружна адгукнулася на кніжкі маладой паэтэсы і высока ацаніла шчырасць і хараство споведзі юнай душы. Красамоўныя ў гэтых адносінах нават назвы рэцэнзій "Свежасць і чысціня" Р. Бярозкіна, "Чаромхавая свежасць" У. Варно, "Падказана жаночым сэрцам..." Б. Бур'яна, "Шчодры букет" В. Рагойшы, "Свет? Ён цудоўны!" У. Калесніка, "І вяслуеш у вёскі і вёсны" Ю. Голуба, "Шчаслівая пара" С. Грахоўскага, "Песня над Нёманам" А. Пяткевіча, "Шчыры запеў" Н. Кедалавай.

Разам з тым здольнасць да лірычнага самавыяўлення спалучаецца ў маладой паэтэсы з адчуваннем паэтычнага ў звычайным і дробным. Радзіма, што афіцыйна трактавалася як з'ява ўзвышаная і глабальная, у вершы Д. Бічэль, якім, дарэчы, адкрываўся яе першы зборнік, выглядае досыць празаічна, камерна. Гэта быў, хаця і мала ўсвядомлены, але палемічны выклік сацрэалістычным установкам таго часу.




*Данута Бічэль*
***Дзявочае сэрца***
*вершы*
*Мінск, 1961*
*Дзяржаўнае выдавецтва БССР*
*"Рэдакцыя мастацкай літаратуры"*




*Данута Бічэль*
***"Нёман ідзе"***
*Вершы*
*Мінск, 1964*
*Беларусь*




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Запалянкі"***
*паэмы, вершы*
*Мінск, 1967*
*Выдавецтва Беларусь*

*Салома стрэхаў мохам перакрыта,*
*Хвайняк калючы б'еццa пад рукой,*
*Загон курамі зблытанага жыта.*

У гэтых радках выражалася дэмакратычная пазіцыя яе пакалення, якое не хацела прымаць казённыя ісціны, а прыслухоўвалася да народных маральна-этычных запаветаў, азіралася на досвед Я. Купалы і Я. Коласа. Вернасць гэтым запаветам мацавалася адчуваннем душэўнай лучнасці з роднымі палямі, пералескамі, сялянскімі хатамі, якія былі істотнымі аб'ектамі хараства. Тым больш мілыя сэрцу гэтыя будзённыя з'явы, што яны для гераіні - асяродак жывога, рухомага, напоўненага глыбокім зместам жыцця: *"Мяне лета ў горадзе скоўвае, // Я - сялянка, жанчына вясковая; // Серп зублёны начамі сніцца"*. Такім чынам, рамантычны свет гераіні Д. Бічэль нярэдка рэалістычна зазямляецца. Зближэнне традыцыйна прыгожага і звычайнага стварае ў вершах паэтычны сінтэз на мікраўзроўні вобраза і выяўляе асаблівую прывабнасць жыцця, у якім так ці інакш ды звязваюцца розныя яго ўласцівасці. *"Першы след маланкі - баразна: // Хутка будзе сеяцца ярына. // Ручнічок закінуўшы за плячо, // Выбягала сонейка, як дзяўчо"*.

Пэўны паварот творчага станаўлення Д. Бічэль можна бачыць у трэцім яе зборніку паэзіі "Запалянкі" (1967). Тут лірычная гераіня спыняе свой летуценны бег уперад, адчуўшы патрэбу азірнуцца, засярodзіцца на значным у жыцці, услухацца ў сябе. Адбываецца прынцыповае вяртанне на свае сцежкі, у сваю вёску і хату. Больш за тое - да рэальных лёсаў блізкіх людзей, да свайго роду і, вядома, да сваёй песні, да фальклору.

*- Я тутэйшая, я звычайная...*
*Мяне маці тут нарадзіла,*
*Як сасонку ў бары пасадзіла.*

Рамантычныя захапленні саступаюць месца развазе, мацнее вага аналітычнай думкі. Радасныя і жартаўлівыя адчуванні змяняюцца журботнымі, сталымі. Вобраз радзімы набывае глыбіню і аб'ёмнасць: яна бачыцца ў нялёгкіх гісторыях людзей (паэмы "Буслянка", "Жыта"). У "Буслянцы" скупыя малюнкі лёсаў вясковых кабет, падсветленыя элегічнай танальнасцю традыцыйнай народнай песні, напаўняюцца роздумам пра перажытае пакаленнямі, пра хараство і сілу беларускага народнага духу. Тут паэтызуецца народная культура беларусаў з яе мараллю, этыкай, педагогікай, філасофіяй, што рэалізуецца праз сямейна-родавыя сувязі і каляндарна-гаспадарчы рытм жыцця. Хораша выяўлены яго спрадвечны маркотна-светлы рух абнаўлення, няспынная жыццятворчасць

суладных прыродных і чалавечых сіл. Добра ўпісана ў кантэкст гняздо-буслянка як сімвал жыццёвага спакою, упэўненасці і светлых надзей, таксама адбеленыя саматканыя палотны як знак традыцыйнай чысціні і руплівасці народнага жыцця. *"Праз доўгі гладзюткі палетак // На белу расу // Высцілае сабе кабета // Узлётную паласу"*. Прыкмячаецца ў творах увага да народных рытуалаў - кандэнсатараў маральнага досведу, згусткаў памяці, утваральнікаў легенд і міфаў, якія ўзбагачаюць і вобразатворчы арсенал паэтэсы.

*Упарта ўрос*
*у гэты грунт наш род*
*смалістым каранём глыбокім.*

*Як спатыкнецца сейбіт пад гарой,*
*Паўстаюць Белавежы,*
*Налібокі...*

Усведамленне ўласнай асобы, самакаштоўнасці свайго народа будзіць у паэтэсе адказнасць перад людзьмі, салідарнасць з тымі, хто паслядоўна змагаецца за праўду і справядлівасць. Характэрны ў гэтых адносінах верш "Людзі без смерці", прысвечаны Васілю Быкаву. Абвостранае пачуццё чалавечнасці патрабуе тут *"зноў вяртацца да сэрцаў мужных, // Што са строю пайшлі ў вечнасць, - // Ці прымалі яны двурушных? // Ці даруюць яны бессардэчнасць?"* Публіцыстычна-суровае гучанне твора, яго строгі рытмічны лад сведчаць пра творчы пошук паэтэсы ў адлюстраванні драматызму жыцця. Праўда, пошук у гэтым кірунку доўга не меў працягу. Наадварот, складвалася інтанацыйна раскаваная, апавядальна вольная манера паэтычнага выказвання. Насычаная паўзамі, перападамі таноў, яна лепш магла ўмяшчаць роздум, ствараць падтэкст.




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Доля"***
*вершы*
*Мінск, 1972*
*Мастацкая літаратура*




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Ты - гэта ты"***
*паэзія*
*Мінск, 1976, 176 ст.*
*Мастацкая літаратура*

У 2-й палове 60-х - 70-я гады Д. Бічэль пабывала ў многіх мясцінах Беларусі. Была на тое ўжо моцная ўнутраная патрэба. Але часцей маршруты паездак кіраваліся ў Зэльву, дзе жыла Ларыса Геніюш. Паэтэса глыбока народнага складу таленту, яна прыкметна паўплывала на творчасць маладзейшай каляжанкі сілай патрыятычнага духу, абвостранай памяццю аб продках, спадчыне, адчуваннем скрытых каштоўнасцей народнага жыцця. У кнігах Д. Бічэль 70-х гадоў - **"Доля"** (1972), **"Ты - гэта ты"** (1976), зборніку выбраных твораў **"Браткі"** (1979) - працягваецца паварот аўтаркі да народных крыніц жыццядзейнасці, да харавства ў яго народным уяўленні. Гэта быў досыць рашучы паварот да прозы чалавечага быцця, у якой месціцца, на думку аўтаркі, яго паэтычная сутнасць. Аб'ектам паэтычнага засваення становіцца тут самы разнастайны свет, у тым ліку вясковы побыт з яго звычаямі, будзённымі рэчамі, лекавымі зёлкамі, бабулямі і ўнукамі, сабакам Жулікам. Лірычная гераіня нарэшце асмельваецца скупянуцца ў гэтай першароднай стыхіі традыцыйнага нават патрыярхальнага жыцця, спазнаць яго смак. І менавіта тут адчувае сябе ў цэнтры Сусвету.




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Браткі"***
*вершы і паэмы*
*Мінск, 1979, 240 ст.*
*Мастацкая літаратура*

*Звязана крэўнымі вязкамі*
*з чалавецтвам - я дома.*
*Самай сардэчнай музыкай*
*са мной хлевушок рохкае.*
*Вочы цяплом затуманены -*
*я пры маме.*
*Адпусціла ў грудзях*
*закарузлае, чэрствае, крохкае...*
*Абняла мяне Беларусь.*
*Запаланіла.*
*Трымае.*

У 70-я гады ўрываецца ў яе вершы (і ўжо не лёгкімі павевамі, а ва ўсёй паўнаце і сіле) паганскі свет прыроды. Хвалі Нёмана, баравіковы неруш, жытнёвая ніва, пярун, як звер шалёны, месяца жоўтае кола, сакавітыя мурагі, бляск сонца, бярэмя лебяды з агарода, кастры рос, зубр, які зарыкаў у пушчы, вока вадаёма - усё гэта найпершыя складнікі жыцця, здольныя перадаць голас чалавечага сэрца, што так суладна б'еццапульсуе з родным наваколлем. У зборніку "Ты - гэта ты" - цэлы раздзел вершаў пра розныя беларускія травы, кветкі, птушак, насякомых, жывёл, якія ўтвараюць асаблівую паэтычную аўру жыцця Беларусі, зямную і разам з тым магічна адухоўленую. Пры гэтым

кожная прыродная істота гаворыць сваім жыццём штосьці нечаканае пра жыццё людское. Так, скочкі, якія садзяць на свежых пясчаных насыпах магіл, у паэтэсы - "продкаў вочкі", спрацаваныя коні, што пасуцца на лузе, і насякомыя-конікі, якія бесклапотна скачуць, - з'явы аднародныя ў творы, *// "Зрэнкамбарвенкам // градка паблісквае", "верасу пальцы // настрояць душы тваёй струны", "як добра ў лесе // думаць пра людзей"*, імхі - *"гармонікаў маўклівыя мяхі"*. Увогуле ўсё навакольнае ў прыродзе адгукаецца чалавечымі радасцямі і болямі (*"Паслухай, // як маўчаць снапы, // як на былінцы вецер грае, // які на словы луг скупы - // трава маўклівая памірае"*). Паэтычная чуйнасць да жыцця нараджае ў Д. Бічэль іншую, новую рэальнасць. У вершы прыходзіць узбуйненая метафарычнасць, адмысловая асацыятыўнасць спалучэння розных з'яў, што выяўляе багацце светаадчування аўтаркі.

*Закалыхалася -*
*гуленькі-гушкі!*
*Сеюць муку*
*нябачныя мельнікі.*
*Лётаюць, лётаюць*
*лёгкія гускі,*
*белалобыя і гуменнікі.*

Малюнак снегападу, яго паэтычная далікатнасць, чысціня і разам з тым прыродная матэрыяльнасць, што дасягаецца нечаканымі ўвасабленнямі, якія грунтуюцца на прадметна-пабытавых назіраннях, ствараюць адчуванне ціхага і светлага спакою, душэўнай лагоднасці. Але ў другой частцы верша з'яўляюцца новыя дэталі, якія ўзбагачаюць і нават змяняюць агульную эмацыянальную палітру, паглыбляючы змест вобраза. Гучыць ужо тужліва-самотная нота, звязаная з спрадвечнымі ў жыцці расстаннямі і чаканнем страт.

*Хай ім не зведаць*
*у выраі гора!*
*Званіце ім, ветры,*
*ў кляновыя гуслечкі!*

*Гыля-гыля, родныя гусачкі!*
*Ваша пер'е*
*ападае на горад.*

Верш досыць характэрны для сталай творчасці Д. Бічэль і жаночай чуласцю да хараства, якое ўяўляецца заўжды безабаронным, крохкім, і асаблівым уменнем тварыць паэтычную мадэль на матэрыяле сялянска-этнаграфічным, "празаічным". Нават вобраз Беларусі набывае ў Д. Бічэль побытавыя рысы. Але менавіта ў гэтым абліччы Бацькаўшчына дарагая лірычнай гераіні. Менавіта ў такой інтэрпрэтацыі яна ўздымаецца на эстэтычную вышыню і становіцца каштоўнасцю, вартай пакланення.

*Мне цёпла, прытульна, лёгка.*
*Нішто так не грэе погляд,*
*як світка з твайго лёну,*
*зялёны акраец поля.*

*Хай сіла ў чатыры столкі*
*маё скруціць карэнне, -*
*перад Радзімай толькі*
*Апушчуся на калені.*

Радзіма - дамінанта паэзіі Д. Бічэль.

Усё больш усталёўваецца ў яе творчасці аналітычны погляд на жыццё, схільнасць да спазнання вялікіх ісцін чалавечага быцця, высвятлення яго няпростых сакрэтаў. Аднак рацыянальны пачатак, хоць і прыкметны ў вершах, не змяншае іх лірызму: пачуццё гераіні зараз моцнае сваёй унутранай напружанасцю, паўнакроўнасцю.

*Поўдзень спакоем душу напаіў,*
*як навальніца, жытнёвую ніву.*
*Мудрая, шчодрая хваля адліву.*
*Зноў, быццам мора, чакаю прыліў.*

Хвалі жыцця - глабальныя рухі чалавечага лёсу, цікавыя для аўтаркі як выявы значных, сутнасных законаў існавання. Так, восеньскі стан прыроды, яе сцішанасць даюць падставу задумацца пра адзіноту чалавека як патрэбу яго духу. У вершы "Восень" з'яўляецца непазбежнае пытанне пра сэнс адзіноты, яе часавыя параметры (*"шмат ці не гадзін // чалавек бывае з думкамі // адзін"*). Такія абагульненні ствараюць нярэдка канцоўку верша, нясуць яго акцэнт. Гэта назіраецца і ў лірычным малюнку "Вясна", дзе разгорнутая паэтычная мазаіка абуджэння прыроды завяршаецца знешне нечаканым, але псіхалагічна абгрунтаваным і не зусім ардынарным вывадам пра жыццё (*"Смяяліся крыніцы. // Ярына // кусцілася на поўнае дыханне. // Жанчыны варты моцнага кахання. // Усе кахання варты, як адна"*). Часцей думка верша рэалізуецца праз увесь яго кантэкст, як у "Кроснах", дзе жыццё і прыроды, і чалавека - "вытворчы" працэс, сувымерны з народным ткацтвам, і сама паэтэса імкнецца *"пакласці на аснову // свой уток, - // сцяжынку палявую, // слоў вiток..."* Прыхільнасць да лірычных медытацый дэманструецца аўтаркай і назвамі твораў гэтага часу: "Маленства", "Адказнасць", "Час", "Кантрасты", "Радасць", "Абавязак", "Недавер", "Спрадвечнае", "Ашчаднасць", "Сваяцтва". Праўда, такія загалоўкі нярэдка паэтычна правакуюць чытача, становячыся ўсяго толькі зернем лірычнай сітуацыі верша. Зараз асабліва ўскладняецца вобразная структура твораў, практыкуецца шматслойны эстэтычны мантаж з'яў і прадметаў, якія часцей - з побытавых пластоў жыцця. Дастаткова вольная, "празаічная" інтанацыя твораў.

Творчая сталасць паварочвае Д. Бічэль і да дзіцячай аўдыторыі, засведчыўшы лішні раз шматграннасць мастацкіх інтарэсаў паэтэсы. Выходзяць кніжкі вершаў для маленькіх **"Перапёлка"** (1968), **"Грыб-парасон"** (1969), **"Дзічка"** (1971), **"Рыжая палянка"** (1971), **"Дагані на кані"** (1973), пазней -

**"Лузанцы"** (1982), **"Габрынька і Габрусь"** (1985). Аўтарка адкрывае дзецям таямнічыя моманты прыроды, паводзіны і норавы найбольш вядомых беларускіх жывёл, птушак. Надзяляе іх чалавечымі рысамі, то смешнымі, то надта сур'ёзнымі, і робіць іх такім чынам блізкімі чытачу (*"Села кошка на парожку, // Вяжа коціку панчошкі, // А пасля пашые тапкі, // Каб кату не мерзлі лапкі"*). Здольнасць выяўляць незвычайнае ў звычайным, абуджаць здзіўленне і захапленне дапамагае развіваць фантазію, сардэчную прыхільнасць дзяцей да знаёмых з'яў прыроды. Пра возера, напрыклад, заўважана: *"Чаму ж яно зелена? // Бо жабкамі заселена"*. Пра бусла: *"Тэпаў Боця цераз мост // У сваё балота. // Світка з лёну, // Чорны хвост, // У чырвоных ботах"*. Паэтэса і ў "дарослых" вершах добра адчувала паэтычную значнасць самага простага рэчавага і прыроднага асяроддзя. Дзеці ж, уваходзячы ў гэтае асяроддзе, пазнаюць яго асаблівыя каштоўнасці, хараство і вучацца чалавечнасці. Практыкуецца часцей лаканічная, добра завершаная паэтычная форма, якая можа ўмяшчаць загадку (*"Вырас мячык на градзе, // Ды не скача анідзе, // Пад лісток прылёг у цень // І таўсцее кожны дзень"*), дасціпны дыялог, калыханку, гукапераймальную замалёўку, сцэнкугульню. Сустракаюцца ў Д. Бічэль і вершаваныя апавяданні з выразнай фабулай - апісанні прыгодніцкіх падарожжаў, дзе сябрам маленькага героя з'яўляецца кіт, добры дракон. Паэтэса звычайна пазбягае ў гаворцы з дзецьмі адкрытай дыдактыкі. І ўсё ж яна дэманструе і станоўчы прыклад - у кніжцы "Габрынька і Габрусь" на першай старонцы выступаюць героі, якія *"малююць росны гай // і зайчыка ў гаі. // І любяць родны край // мацней за ўсе краі"*.

У кніжках 80-х гадоў - **"Дзе ходзяць басанож"** (1983), **"Загасцінец"** (1985), зборніку выбранай лірыкі **"Даўняе сонца"** (1987) - загаварыла-заспавядалася каханне. У ранейшых зборніках Д. Бічэль было яно сарамліва-жартаўлівае, паўфальклорнае. Драматычныя яго праявы прабіваліся на паверхню скупа, намёкамі. Лірычная гераіня нібы асцерагалася выносіць на людзі такія перажыванні, чакаючы, спадзеючыся, тулячы ў душы запаветнае. І вось у пару сталасці, калі зведаны былі сапраўдныя сардэчныя асалоды і страты, спазнана іх высокая цана, выбухнулі з усёй сілаю жаночыя пачуцці кахання.




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Дзе ходзяць басаноож"***
*Вершы*
*Мінск, 1983, 95 ст.*
*Мастацкая літаратура*

*Горкая асенняя любоў.*
*Зыркае святло яе дуброў.*
*Роспачы тупік.*
*Надзеі пік.*
*Радасці апошні баравік.*

Але ў гэтых межах "апошняй радасці" крыецца ў паэтэсы мноства пералiваў пачуцця. Ёсць у іх і асаблівая паганская моц самаадданасці (*"як сцішанасць прагне буры, // так я кожнай клетачкай скуры прагну цябе"*), ёсць адухоўленае ўяўленне пра вышыню пачуцця (*"за любоўю наўпрост басаноож, // нібы ластаўка, лётала ў сне"*), ёсць смакаванне зведанага і адчуванне яго глыбокага следу ў душы (*"Пра малады жаночы сорам // успомню - // абалююся варам. // Яскравы месяц па-над борам // глядзіць тваім вясёлым тварам"*), ёсць прасветленае пачуццё захаплення (*"гляджу я на цябе, // як на абраз..."*), ёсць народнагуллівае заклінанне-прысушка (*"каб тваё немаладое цела // ля маёй падушкі маладзела"*), ёсць збалелая надзея-паратунак на будучыню (*"Мы рассыплемся зеллечкам роднай зямлі // і спляцёмся карэннем глыбока на дне. // Толькі моцна да сэрца мяне прытулі // і змані, што адну не пакінеш мяне"*). Гэта складаная паліфанія пачуцця, даступная развітай душы, непазбежна ўмяшчае ў паэтэсы яшчэ адзін, бадай, галоўны тут матыў - расстанне. Па-жаночаму мудрае разуменне жыцця, яго руху і змен прымае як наканаванасць сумную ісціну - *"любоў - скразняку адпачынак // на баравым пералёце"*; *"Цвёрды жыцця арэх. // Паражыла свой грэх"*. Страта Кахання, туга па ім, горкае пачуццё адзіноты, шкадаванне сябе выказаны ў лірыцы Д. Бічэль паэтычна натуральна і хораша (*"Я - не скала. // Чым крыўдаваць, схілюся... // Апошні раз*




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Загасцінец"***
*Вершы*
*Мінск, 1985, 94 ст.*
*Мастацкая літаратура*




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Даўняе сонца"***
*Лірыка*
*Мінск, 1987, 398 ст.*
*Мастацкая літаратура*

*на вочы памалюся"; "наблытала спакусная вясна, // запэўніла, // што я табой жадна"; "мы з табой убачымся за светам. // Мы з табой сустрэнемся пасля"*). Увогуле ж сітуацыя развітання раскрывае ў вершах барацьбу сэрца і розуму, роспачы і веры (*"А ніхто нідзе аніколі // не падумаў, што шчасця даволі"*). Перамагае сталая развага, якая ўмее мірыцца з жыццёвай рэальнасцю.

*Я маладосць адправіла ні з чым:*
*не трэба больш вярэдзіць*
*мне галоўку.*
*Ты адбыла ўжо тут сваю радоўку...*

Лірыка кахання ў кніжках Д. Бічэль 80-х гадоў цікавая глыбінёй і складанасцю псіхалагічнага зместу. У вершах гучыць голас жанчыны з жыццёвым досведам, здольнай на вялікае пачуццё. Прычым яно характэрнае найбольш сваімі зямнымі праявамі. Нават народна-афарыстычная лексіка, стылістыка арганічныя ў маналогах гераіні, якая выказваецца пра запаветнае: *"Болей не ўбачыць ніхто маіх слёз. // Выцягну неяк пад горку свой воз"*. Пры ўсім гэтым каханне ў вершах паэтэсы - спрадвечная таямніца, прыгожая сваёй духоўнасцю, невытлумачальнасцю зместу.

*На забытым сонцам*
*азярцы,*
*да якога ты*
*выпадкам збочыў,*
*што табе*

*мае сказалі вочы?*
*Зблыталі пачаткі і канцы.*

Сіла пачуццяў закаханай - выява і асаблівага жыццялюбства, душэўнай шчодрасці лірычнай гераіні. Абвостранае адчуванне хараства звязана ў яе з усім навакольным светам. Тым больш гэта датычыцца самага дарагога. Таму няма парадаксальнасці ў радках: *"Да цябе працягваю я рукі - // абнімаюць рукі Беларусь"*. Таму так прагне гераіня зліцца з роднай прыродаю, увабраць у сябе яе моц і красу, апусціцца *"тварам у прыпол радзімы - // ніву... // прадвясновы ранак маладым"*. Вобразна сакавітыя зараз, насычаныя жыццём дэталі прыродных малюнкаў: *"Нарэшце выспелі брусніцы - // лясных выжарын завушніцы"*, *"полечку дождж каля ёлак танцуе"*, *"глыну любові з небагладыша"*. Прыкметныя вобразы рэк, адлётаў і прылётаў птушак, маршрутаў дарог, зменаў пораў года - увогуле руху жыцця. У гэтай сувязі бачыцца верш "Як вярнуцца дахаты", які мае ключавое значэнне ў ідэйнатворчым развіцці паэтэсы. Яшчэ ў першым яе зборніку быў змешчаны верш пра сваё, хатняе - "Вёска Біскупцы", куды так прыемна было прыязджаць, *"каб у стозе духмяным выспацца"*, і дзе так утульна пачувала сябе лірычная гераіня. Яна не аддзяляла сябе ад роднага гнязда, хаця спяшалася *"пракладаць свае дарогі"*. Цяпер пытанне пра вяртанне ў сваё селішча гучыць, па сутнасці, рытарычна. *"Так далёка занесла ногі. // Як вярнуцца дахаты?"*. Праблема, вядома, не ў геаграфічнай адлегласці, а ў духоўна-маральнай. І не толькі ў тым, што гераіня змянілася, пасталела. Змяніўся сам родны асяродак, які, здаецца, не надта будзе трымаць пры сабе. І розум падказвае: навошта ехаць? "Каб на золку з хаты ізноў?" Праўда, там засталося штосьці надта дарагое.

*Там кудахтаюць куры на седале.*
*там пра долю матуля ведае.*
*Там на вербніцу, нібы вербачка,*
*распушылася маё сэрдачка...*

Гэта часцінка маленства і юнацтва, неад'емнага ад даўняга і такога прывабнага для гераіні вясковага побыту. Толькі згаданыя рэаліі адступілі далёка назад. Адсюль прасветлена-элегічная нота верша, якая нясе пачуццё развітання, страт. Гераіня з жалем пакідае за сабою гэта безабароннае патрыярхальнае хараство. Гучыць, па сутнасці, матыў расстання з рамантычнымі мроямі, лёгкімі паэтычнымі ўяўленнямі, характэрнымі для ранніх кніг аўтаркі. Цяпер, на новым этапе творчасці, зацвярджэнне народных маральных пачаткаў жыцця больш глыбокае, паэтычна асэнсаванае. Гаспадаром краю, увасабленнем яго сілы і хараства выступае, напрыклад, Нёман, вобраз якога з'яўляецца стрыжнявым у творчасці Д. Бічэль. Ён своеасабліва яднае грамадска-чалавечыя і прыродныя кірункі жыцця, з'яўляецца сімвалам годнасці беларусаў, маральным апірышчам і сведчаннем неўмiручай сувязі пакаленняў.

*Хмельны ад гулу паводкаў,*
*ты не змялееш ніколі,*
*шлях маіх продкаў,*
*шлях маёй споўненай долі.*

Лірычная гераіня - адзін з прытокаў гэтай ракі жыцця, якому суджана папоўніць яе паўнаводную плынь, узбагаціць яе жыццядзейныя сілы (*"Так я марыла ўдалеч цячы, // Але з родных бароў не ўцячы"*). Толькі з сваім нацыянальным багажом можна ісці на працяг вялікага жыцця, мяркуе паэтэса (*"у людскі вадаспад - з бацькавага парога"*).

Увага паэтэсы да роднай спадчыны, клопат пра яе захаванне і адраджэнне і сам час дэмакратычных зрухаў у жыцці савецкага грамадства паспрыялі звароту да беларускай гісторыі. Перад чытачом праходзіць цэлая галерэя гістарычных асоб, якім аўтарка дае сваю інтэрпрэтацыю (Давід Гарадзенскі, Ягайла і Ядвіга, Барбара Радзівіл, браты Мамонічы, Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Максім Багдановіч, Гальяш Леўчык, Уладзімір Хадыка, Уладзімір Жылка). Сцвярджае найперш гераічны, высокі пачатак іх спраў. Адчувае сябе часцінкай духу людзей, што зведалі жорсткія ганенні (*"Нас знішчалі, знішчыць не маглі"*), бачыць глыбокія сляды іх лёсаў у сучаснасці. Гэтыя сляды, адбіткі сацыяльна-гістарычных і культурных дасягненняў нясуць у Д. Бічэль і рэальныя геаграфічныя мясціны, якія зараз зноў і зноў з'яўляюцца ў вершах

(Кушляны, Жупраны, Доцішкі, Астрына, Крычаў, Ляўкі, Гервяты, Мілавіды, Міхалішкі). Такія назвы выносяцца звычайна ў загалоўкі твораў і ўспрымаюцца як вобразы нацыянальнага жыцця, знакі Беларускага шляху.

Характэрна, што ў зборніках 80-х гадоў назіраецца пэўнае абнаўленне мастацкай палітры вершаў. У прыватнасці, крыху аслабляецца ўмоўна-асацыятыўны рад, і вобраз становіцца больш паэтычна непасрэдным. Адчувальная цяпер тэндэнцыя да класічнай яснасці верша, што садзейнічае ўзмацненню лірычнай спавядальнасці.




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"А на Палессі"***
*вершы і балады*
*Мінск, 1990, 158 ст.*
*Мастацкая літаратура*

Кнігі Д. Бічэль 90-х гадоў **"А на Палессі"** (1990), **"Божа мой, Божа"** (1993), **"Крэсавякі"** (1993, у сааўт.), **"Гараднічанка"** (1993), **"Ты не самотны..."** (1997, у суаўт.), **"Нядзелька"** (1998), **"Снапок"** (1999) сведчаць пра далейшае развіццё паэтэсы на шляхах лірычнага спасціжэння сучаснасці. У зборніку "А на Палессі" загучала з новай сілай тэма нацыянальнай гісторыі, падказаная, зрэшты, і патрыятычным уздымам беларускага грамадства тых часоў. Аўтарка раскрывае вялікі свет слынных сыноў Беларусі - Усяслава Чарадзея, "Настаўніцы роднай зямлі" Ефрасінні Полацкай, Вітаўта, Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага, Кастуся Каліноўскага, выкарыстоўваючы формы лірычнага маналога, паэтычнай хронікі, балады, прытчы. Дзяржаўныя дзеячы, патрыёты-асветнікі, ваяры, яны даюць грамадзянскі ўрок сучаснікам, вучаць мужнасці і самаадданасці.




*Данута Бічэль, Алесь Чобат*
***"Крэсавякі"***
*Вершы*
*Мінск, 1993, 34 ст.*
*Бібліятэка Вожыка*

Паказаныя пераважна ў героічна-легендарным асвятленні гістарычныя персанажы сваім жыццёмподзвігам сведчаць пра няскоранасць свайго краю і людзей.

*Сэрца народа паклалі ў дамоўку.*
*Думалі - сціхла, утаймавана.*
*Але жывое прабілася зноўку*
*цераз грудочак у Мастаўлянах.*

Увогуле, кожная мясціна Каліноўскага знакавая для беларусаў (*"Якушоўка - супольная сям'і нашай хата"*). Гэта і Белавежская пушча з яе магутнымі насельнікамі-зубрамі, і Вільня з яе "пляцам пятлі", дзе гераіня выказвае ўпэўненасць: "клянёмся вырвацца з твае пятлі". Танальнасць такіх вершаў баявая, узвышанасуровая: у іх гучыць матыў вернасці гераічным традыцыям (*"не дачакаюцца трупаў крукі. // Скосім адступніцтва, мы - касінеры, // сейбіты долі сваёй, дзецюкі"*). Усхвалявана-сказавая інтанацыя балад, прыпавесцяў дапамагае адчуць дыханне даўніны, перадаць таямнічасць і велічнасць такіх постацей, як Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Сімяён Полацкі. Спалучэнне рэальна-гістарычнага і паэтычна-ўмоўнага, метафарычна насычанага планаў ставарае пераканаўчую выяву мінулага, у якой дзейна працуе мастацкая персаніфікацыя.




*Данута Бічэль-Загнетава*
***"Гараднічанка"***
*Вершы*
*Мінск, 1993, Юнацтва*

*Беларусь! Палачанкай глядзіш з-пад рукі.*
*Абцугамі цябе абнімаюць вякі.*

Вядома, творы гэтага кірунку неслі ў сабе выразную пазнавальна-асветніцкую звышзадачу, папулярызавалі веды пра нацыянальнае мінулае, будзілі гістарычную памяць. Аднак гістарызм становіцца ў іх і ўнутранай, эмацыянальна-псіхалагічнай якасцю, бо з'яўляецца неад'емнай часткай светаадчування аўтаркі. Мінулае гаворыць у Д. Бічэль не толькі Ба-рысавымі камянямі ці полацкай Сафіяй, гаворыць і вершамі "Неглюбскі строй", "Ракуцёўшчына", "Празарокі". Веліч і хараство свайго народа, узгадаванага гістарычным досведам, перадае паэтэса праз вобразы Нёмана і Дняпра, Белага возера і Свіцязі. З верша "Дняпро":

*Аж да стомы вачэй*
*навакол наглядзецца спярша.*
*Прытуліцца да зрывістай стромы*
*шчакою вільготнай,*
*дзе душа беларуса шчырэе ракой паўнаводнай*
*і адкрыта- рака перад небам,*
*нібыта душа...*

Паэтычнае асэнсаванне духу свайго народа, трывога за яго будучыню набываюць своеасаблівае завяршэнне ў 80-я гады ў адным з лепшых вершаў гэтага часу - "Замест запавету", дзе паэтэса дае наказ у дарогу свайму блізкаму нашчадку. Непасрэднасць, даверлівасць лірычнага перажывання спалучаецца ў творы з яго грамадзянскай суровасцю і строгасцю, бо

гаворка вядзецца па высокім рахунку жыцця і выяўляе, між іншым, неадназначнасць адносін аўтаркі да свайго народа (*"Любі, Стасюк, людзей, і нават злых. // Малых, слабых. Яны не вінаваты, // што пакалечылі сябе аб страты, // не паважаючы сябе саміх"*). Нашчадка яна хоча бачыць найперш чулым да дабра і характва, моцным лучнасцю з ранейшымі пакаленнямі (*"Не бойся адзіноты анідзе. // Не адзінокі ты - з табою продкі... // пра іх штодзённа помні, не на ўгодкі"*). Гістарычныя матывы ў вершах пера-важна мажорныя, яны мацуюць веру ў жыццё і добрую долю народа. Вечныя ж ісціны быцця і адпаведныя галасы душы лірычнай гераіні маюць цяпер вельмі рознае, але часцей драматычна-журботнае гучанне. Яе моцна кліча да сябе жыццё з усімі радасцямі і спакусамі (*"хай вернуць твае пацалункі // у вясковы згублены край"*; *"Вусны зацалуй мне да донца"*; *"і ціхком // увайду ў тваё сэрца // таямнічым штуршком"*; *"у чаканні любоўнай гарачкі // з глыбіні скаланецца душа"*). Але мудрая развага вучыць жыць штодзённымі клопатамі і не захапляцца часовым і дробным, прыглядацца да народных маральных здабыткаў. Яны зноў і зноў адгукаюцца ў душы характвом самых простых імператываў (*"Праца і шчырасць // там адны маюць правы, // вышэй, чым школьную, бацькаву лічаць вучобу"*). Толькі гераіня разумее, што вяртання ў той свет ужо няма і неабходна лічыцца з суровай рэальнасцю. Знікаюць вобразы імклівага руху, паэтычнага палёту, з'яўляецца вобраз цяжкай, няспешнай хадывандроўкі і шчымлівая нота самотнасці.

*Павандрую па роднай старонцы*
*У шчаслівых пабуду ў гасцях.*

Усё ж паэтычная вышыня жыцця застаецца ў лірыцы Д. Бічэль неадлучнай яго часткай. Прага кахання, святла, чысціні жыве і ў часіны нялёгкіх выпрабаванняў (*"Дух мне займае... Празрыстае неба і дол. // Мой незакляты, // Мой светлы скрыдлаты анёл!"*).

Духоўная вышыня жыцця як ратунак асобы, нацыі, чалавецтва ад зруйнавання ва ўмовах жорсткай сучаснасці з яе прагматызмам і маральнай незапатрабаванасцю паэтызуецца ў цыкле вершаў апошніх гадоў. Гэта вершы-літанні, звернутыя да боскай сілы, якая можа паспрыяць у бядзе. Шматлікія прамыя звароты, паўторы, характэрныя для такіх твораў, вызначаюць лірычную экспрэсію выказвання, выяўляюць моцны драматызм перажывання. Практыкуюцца жанры малітваў, псалмоў, літанняў, і гаворка вядзецца пра вялікае - лёс Беларусі, яе нацыянальных каштоўнасцей (*"Божа! Вазьмі нас пад крылле, // нашы нябёсы і гоні... // Іх жа суседзі душылі // трыста гадоў у прыгоне"*). Дачыненні лірычнай гераіні з вышэйшай сілай маральна вельмі блізкія, і звернутыя да яе маналогі ўзрушаюць эмацыянальнай пранікнёнасцю, асаблівай адухоўленасцю пачуцця. Гэта і ў зваротах да Маці Божай Вострабрамскай (*"Па сходках лесвіцы ружанцовай // прыношу з лідскіх дарог // тугу малітвы простай мясцовай, // даруй наіўноце, Бог"*), і ў размове адзін на адзін з сабою (*"Толькі добраму Богу адкрыю душу"*; *"Далучы мяне, Божа, да волі Тваёй, // да любові Тваёй // да святла Твайго, // сеяць дазволь дабрыню ў зласлівым сэрцы..."*). Высокае тут не адарвана ад жыцця. Яго звычайныя, родныя рэаліі, заўсёды дарагія для паэтэсы, складаюць адзін паэтычны рад з боскімі з'явамі (*"Наша хата, наш парог! // З намі Нёман, з намі Бог"*). Д. Бічэль выпрацоўвае тут своеасаблівы, лірычна-прамоўніцкі, эмацыянальна адкрыты стыль мастацкага маўлення, захоўваючы пры гэтым пяшчотнасць пачуцця і схільнасць да складанай метафарычнасці. У гэтым стылі вытрыманы і цыкл вершаў пра Максіма Багдановіча, пра яго сённяшняе ўспрыманне паэтэсай.

Паэтычная творчасць Д. Бічэль-Загнетавай спалучаецца з грамадска-асветніцкай дзейнасцю. Скончыўшы ў 1962 г. Гарадзенскі педінстытут, працавала настаўніцай у Гародні, у 1982 г. зацвярджаецца на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка Гарадзенскага абласнога гістарычна-археалагічнага музея і пачынае рыхтаваць да адкрыцця музей М. Багдановіча. Збірае матэрыялы, складае планы экспазіцый, думае, шукае. Прайшлі гады, пакуль экспазіцыя была сфармавана. Музей М. Багдановіча ў Гародні адкрыты ў 1994 г., і дырэктарам яго да 1998 г. працавала менавіта Д. Бічэль.

У канцы 80-х гадоў Данута Бічэль была актывісткай БНФ, выпускала самвыдатаўскую газету "Рэанімова". Музей Максіма Багдановіча ў Горадні быў такім клубам ці прытулкам для іншадумцаў.

*- Гэта былі шчаслівыя часы ў маім жыцці. Сапраўды, тады да мяне далучылася ўся дэмакратычная, сапраўдная Беларусь. Праз наш музей прайшлі такія славутыя гурты, як "Мроя", такія выканаўцы, як Данчык, Лявон Вольскі, Сяржук Сокалаў-Воюш. Да нас тады прыяжджалі Анатоль Сыс і Кастусь Тарасаў, усе лепшыя людзі Беларусі, і не толькі з Менска, але і з Віцебска, з Гомеля, з Магілёва. Лепшыя настаўнікі з усёй Беларусі прывозілі ў наш музей сваіх дзяцей. У музеі была паказана ўся цудоўная наша культура, якая выйшла з "Нашай Нівы". А ў ёй было ўсё: і горад, і вёска, і, вядома ж, нашыя вялікія паэты, нашы празоры - Багдановіч, Купала, Вацлаў Іваноўскі, Зоська Верас, Магдалена Радзівіл і Беларуская Народная Рэспубліка. Там усё ёсць, толькі я не ведаю, ці сучасныя людзі гэта разумеюць, ці ўмеюць прачытаць. І мы ў тым свеце жылі, і людзі да нас цягнуліся, бо ўсе хацелі стварыць такую Беларусь, якая ў нас ужо была ў тых маленькіх музейных пакоях.*

Натуральна, што гэты час - 80-90-я гады - быў часам усё большага далучэння паэтэсы да




*Данута Бічэль, Алесь Чобат*
***"Ты не самотны..."***
*Гродна, 1997, 80 ст.*
*Гродзенская абласная узбуйненая друкарня*

свету М. Багдановіча. Так з'явілася асобная нізка лірыкі на тэмы вялікага паэта ў зборніку **"Ты не самотны..."**.

Тут - тая ж духоўная вышыня, якая кліча да сябе лірычную гераіню голасам красы і вернасці Бацькаўшчыне. Паэт выяўляе сябе ў вершах на тым жа ўзроўні быцця, што і апостал, анёл, птах, зорка, месяц ды яшчэ валошка беларускага поля. Побач з М. Багдановічам у творах - яго маці Марыя Апанасаўна, душа якой "ідзе з нябыту ў бессмяроцце Сына", Цётка, Зоська Верас і... Святая Маці Божая. Паэтэса і зараз умее сумяшчаць узвышанае і зямное: слугаванне паэту - гэта і штодзённая практычная справа.

*Я жыву ў Тваім доме, Максіме.*
*Гэта лёс мой, мяне не прасілі.*
*На твой голас іду Тваім следам...*

Манера лірычнага выказвання тут больш камерная, стрымана журботная і светлая (*"наш амаль вясковы домік, // як забытых вершаў томік...", "да Цябе прытуляюся // сумнай душою"*). Але грамадзянская місія беларускага паэта непазбежна кіруе і да драматычных праблем. Таму далучэнне да чысціні і вышыні М. Багдановіча вымагае выразнасці жыццёвай пазіцыі, патрыятычнай самаадданасці найперш (*"Тут душа мая гарыць васковай свечкай - // Не хачу быць ні расійкай... ані пшэчкай"*). Драматычная нота дыктуецца і спрадвечным пытаннем адносін паэта і масы, яўнай неадпаведнасцю духоўнай вышыні паэта і нізкім узроўнем сучаснікаў. Гэта нараджае балючае пачуццё шкадавання. Яго *"іскры-словы запаляць душы, // сагрэюць вуглі. // Мы ў сабе іх намарна здушым - // не дараслі..."* Апелюючы да вялікага паэта, аўтарка заўважае асаблівую жорсткасць бездухоўнасці, што татальна знішчае жыццё, не спыняючыся перад яго святынямі. Знешне спакойная інтанацыя паэтычнага аповеду, якая стварае тут ілюзію звычайнасці "забойстваў", выбухае ў вершы сілай эстэтычнай энергіі. Той сілай, якую здольная несці глабальная метафара ў Д. Бічэль.

*Тут усіх забіваюць усімі.*
*І табой забіваюць, Максіме.*
*Я таксама забіта сваімі,*
*і на фотцы стаю разам з імі.*

Паэтэса цяпер валодае багатым арсеналам мастацкага самавыяўлення. Вернасць народна-паэтычнай традыцыі, апора на эстэтычна будзённыя пласты жыцця, вяртанне да апрабаваных інтанацыйна-рытмічных структур дапамагаюць выказвацца пранікнёна-спавядальна, з даверам да чытача-суразмоўцы (*"Шнурую словы ў шнурочак // так посна, так нескаромна. // Таму мне светла па ночах, // што цёмным па ночах цёмна"*). Толькі спавядаецца ўжо сталая і мудрая душа, якая настроена на вялікія ісціны жыцця. Моцная ў вершах іх унутраная, "падводная" плынь, што рэалізуецца праз аб'ёмную сістэму вобразаў. Пры гэтым не траціцца ў вершах паэтычны паўтон, эмацыянальная змястоўнасць. У іх плыве-пераліваецца жывое пачуццё асобы, чуйнай да ўсяго натуральнага - чалавечага і прыроднага.

*Птахі мы - людзі, да голлечка промняў*
*цягнемся кволым даверлівым крыллем.*
*Хмараў галінкі сонца адкрылі...*
*Болем знявечаны, болю не помнім.*

Характэрна, што паэтэса ніколі не рэагавала на патрэбы кан'юнктуры, не пісала вершаў на "грамадскія" тэмы, якія настойліва падказваліся ідэалагічнай палітыкай савецкага часу. Такія творы з іх дыдактычна-ўжытковай скіраванасцю не арганічныя для таленту Д. Бічэль. Яе заўсёды хвалявалі пытанні народнага духу, беларускага нацыянальнага лёсу, таямніц жыцця, якія раскрываюцца ў роднай прыродзе, рухам душы чалавека. Творчасць паэтэсы досыць лакальная паводле матэрыялу. Жыццёвая пляцоўка лірычнай гераіні пераважна тутэйшая, "краёвая", абмяжоўваецца рэгіёнамі Гарадзеншчыны. Тут ступаюць яе ногі, тут ходзіць душа, якая сягае часам у Вільню, Полацк, на рачныя прасторы Дняпра ды зноў вяртаецца на сцежкі дзядоў. Такі "хатні" арэал жыццядзейнасці, характэрны асабліва для заходнебеларускага менталітэту, спрыяе арыентацыі на глыбіннае ў жыцці. Спасцігаючы сваё, мясцовае, паэтэса раскрывае агульналюдскія здабыткі і страты чалавека.




*Данута Бічэль*
***"Нядзелька"***
*Вершы*
*Гародня, 1998*

У нулявыя гады паэтэса развівае пераважна духоную, хрысціянскую складовую сваёй лірыкі. Кніга духоўных вершаў **"На белых аблоках сноў"** (2002) аб шчасці яднання з праўдай Хрыстовай, якую нясуць Яго пасланнікі па дарогах Сусвету; аб шчасці наведвання святых месцаў і месцаў аб'яўлення Маці Божай, аб шчасці далучэння да хрысціянскай супольнасці вялікіх святых у самым пачатку беларускай малітвы.




*Данута Бічэль*
***"Снапок"***
*выбраныя вершы*
*Мінск, 1999, 446 ст.*
*Мастацкая літаратура*

Абраз Маці Божай Будслаўскай - самы сціплы ў сваёй прыгажосці. Малітоўнае аглядание яго з любоўю - падстава для глыбокай малітвы. Да Вастра-

брамскай Божай Маці Міласэрнай - пачуццё на ўзроўні гістарычнай традыцыі, агульначалавечага яднання і дзіцячай казкі. У Вострую Браму нашых бабуляў вяла глыбокая вера ў тое, што Маці Божая вырашае ўсе беды адразу і канчаткова. Да Белагрудскай Божай Маці Міласэрнай у аўтаркі шмат асабістых пачуццяў і надзеі, што сюды яшчэ прыйдуць натоўпы вернікаў і атрымаюць палёгку душы, як прыйшла Данута Бічэль з кнігай **"Стакроткі ў вяночак Божай Маці"** (2004).




*Данута Бічэль*
***"На белых аблоках сноў"***
*Вершы*
*Мінск, 2002, 76 ст.*
*Про Хрысто*

Вершаваная батлейка Данута Бічэль **"Нараджэнне Езуса Хрыста, нашага Збаўцы"**, як і ўсякая традыцыйная батлейка паўтарае біблейскі сюжэт. Пастушкі, Марыя, Юзаф і наванароджанае Дзіцятка - біблейскі сюжэт, момант нараджэння Ісуса Хрыста, расказаны вершам. Вершаваная батлейка Дануты Бічэль - гатовы сцэнар, п'еса не толькі для тэатра лялек, а таксама для маладых і дарослых выканаўцаў. Рыфмаваныя ролі, якія лёгка западаюць у памяць, і простая мова дазваляюць выкарыстоўваць п'есу без уступнай адаптацыі. Твор, чытаны па ролях, можа быць дасканалай радыёпастаноўкай, якую з задавальненнем паслухаюць і дзеці, і дарослыя. Наратарамі пастаноўкі з'яўляюцца Анёлы, якія нясуць у свет навіну пра Нараджэнне Збаўцы. У пастаноўцы таксама за-дзейнічаны іншыя персанажы, якія прысутныя ў біблейскім сюжэце - Тры Каралі, звяры, цар Ірад, яго прыслужнікі.



*Данута Бічэль*
***"Стакроткі ў вяночак Божай Маці"***
*Вершы*
*Мінск, 2004, 48 ст.*
*Про Хрысто*

У зборнік **"Іду сцяжынкаю да Бога"** (2007) выдадзены да 70-годдзя паэткі і перакладчыцы ўвайшлі творы, напісаныя ў нядаўнія гады. Гэта вершы-малітвы, як іх акрэслівае сама паэтка, прасякнутыя шчырасцю, любоўю да роднага Краю і надзеяй на яго духоўнае адраджэнне.

У 2008 годзе Данута Бічэль выдала першую празаічную кнігу. **"Хадзі на мой голас"** - гэта ўспаміны, нарысы пра вядомых людзей, з якімі або сустракалася сп. Данута, або іх творчасць зрабіла пэўны ўплыў на яе жыццё і творчасць. Кніга распачынаецца падарожжам у родную вёску паэткі - у Біскупцы. Кожны чарговы нарыс - гэта своеасаблівае апісанне ўласна-га лёсу ў кантэксце гістарычных падзей. Тут партрэты вядомых га-радзенцаў і людзей, звязаных з Гародняю. Як зазначыла сама аўтарка, якая, пасутнасці, звыкла выказвацца вершам, гэтая кніга - *"яшчэ не развітанне, яшчэ не запавет, але падвядзенне вынікаў..."* Адыходзячы ад прывычнай вершаванай формы Данута Бічэль піша: *"Я зразумела, што пра людзей, якія істотна паўплывалі на мой лёс, вершам не напішаш"*. І хаця кніга пра жыццё самой аўтаркі, але галоўны герой - не яна. Яе героі - людзі, з якімі жыла, сябравала, на якіх раўнялася.




*Данута Бічэль*
***"Нараджэнне Езуса Хрыста, нашага Збаўцы"***
*Вершаваная батлейка*
*Мінск, 2005. Про Хрысто*

Цыкл вершаў **"Ойча наш..."** (2008) - гэта паэтычнае асэнсаванне малітвы Панскай, кожнага яе радка, а таксама вельмі асабісты, кранальны зварот дзіцяці да Нябеснага Айца, у якім удала і тонка зніта-вана дольнае з горнім. Гэта сапраўдная паэзія, натхнёная і асвечаная малітваю.




Данута Бічэль
**"Іду сцяжынкаю да Бога"**
*Мінск, 2007. Про Хрысто, 172 ст.*

**"Мост Святога Францішка"** (2010) - гэта працяг кнігі Дануты Бічэль "Хадзі на мой голас", што выйшла ў 2008 г. Аўтарка *"апавядае пра людзей духоўна прыгожых, якія жылі для саміх сябе, для сваіх блізкіх і для Радзімы, - у тым сэнсе, як яны разумеюць паняцце Радзімы"*. Гэта асобы вядомыя, як Чэслаў Неман, Зо-ська Верас, Кастусь




*Данута Бічэль*
***"Хадзі на мой голас"***
*Гародня - Wroclaw, 2008*

Тарасаў, так і нязнаныя шырока, але блізкія для Дануты Бічэль, - муж, брат. Кнігу пісьменніца прысвяціла Ларысе Геніюш.

У гэтыя ж гады Данута Бічэль адчула пакліканне да перакладу лепшых хрысціянскіх паэтаў на беларускую мову, каб зрабіць іхнія творы даступнымі беларусам.

Перакладала паэзію Яна Паўла II.

*- Ян Павел II (ці Караль Вайтыла, што адно і тое ж), ён як бы беларускі паэт. Мне, як перакладчыцы, было таксама складана да яго падступіцца. Пакуль я не зачапілася за два вершы. Заўсёды, калі паэта вывучаеш, нейкі адзін радок дапамагае табе да яго прыблізіцца і ўвайсці ў яго свет. У Яна Паўла II гэта быў верш "Калі вакол гавораць на мовах". Я прачытала і зразумела, што ён - беларускі паэт. Я не ведаю, ці ўспрымаюць яго другія народы так, як я, беларуска. "Калі вакол гавораць на мовах, звініць сярод іх адна - наша ўласная, заглыбляецца ў думы пакаленняў, плыве вакол нашай зямлі, ёсць стрэхай дому, у якім мы разам, а па-за домам гучыць рэдка". Яна Павал II, вядома ж, думаў пра польскую мову, але як гэта зразумела і нам, беларусам!*




*Данута Бічэль*
***“Ойча наш...”***
*цыкл вершаў*
*Мінск, 2008, 32 ст*
*Pro Christo*




*Данута Бічэль*
***“Мост Святога Францішка”***
*Успаміны*
*Мінск, 2010, 290 ст.*
*Медысонт*

Напярэдадні 75-годдзя паэткі выйшла ў свет кніга польскага паэта-ксяндза Яна Твардоўскага **"Разам з Табою"**, якую яна пераклала супольна з Хрысцінай Лялько. Гэта кніга паэтычных афарызмаў, кніга мысляра, які ўмеў філасофію хрысціянства выказаць праз мастацкія вобразы. Ян Твардоўскі вельмі папулярны ў сённяшняй Польшчы. Ці будзе ён запатрабаваны беларускім чытачом?

*- Калі я перакладала вершы Твардоўскага, то перш за ўсё думала пра нашых ксяндзоў, якія павінны гэта ведаць і чытаць. Мне здаецца, яны вельмі мала часу маюць на паэзію. Я падаравала кнігу сваім знаёмым ксяндзам, тым, у каго я спавядаюся, з кім у мяне ёсць сяброўства. Яны захоплена чытаюць і проста ўдзячныя нам з Хрысцінай Лялько. У Яна Твардоўскага вельмі яскрава паказана, што і ў дрэва ёсць душа, і ў травы таксама, і ў жывёлаў усіх, і ў казюлек, якія поўзаюць. Ад гэтага я ішла. Але мне, як касцельнаму чалавеку, было цікавае і другое. Верабейка, які ўваліўся ў свянцоную ваду, - таксама адзін з герояў Яна Твардоўскага. Я гэтыя гісторыі з птушкамі, якія залятаюць у касцёл і потым проста гінуць там, перажывала і ў сваім жыцці. А вось як Ян Твардоўскі звяртаецца да святога Францішка з Асызу, і якія ў яго думкі пра мову (у нас тэма мовы - галоўная): "Святы Францішак, апякуне заолагаў і арнітолагаў, чаму рыкае зубр, алень трубіць, ліс скуголіць, вавёрка фыркае, чорны дрозд свішча, арол брэша, перапёлка пілікае, бакас хрыпіць, сінічка цінькае, голуб бубніць і буркуе, дрозд-рабіннік папісквае, дзяркач скрыпіць, каўка лапоча, ластаўка шчабеча, жораў курлыкае, драфа сыкае, чалавек гаворыць, спявае і плача". Там вельмі важны фінал: "маўчанне - гэта таксама мова". Бо калі мы гаворым з Богам - мы маўчым, і гэта самая яскравая мова.*




*К. Вайтыла \ Ян Павел II*
***“Паэзія. Выбранае. Рымскі трыпціх.”***
*Мінск, Pro Christo,*
*148 ст.*




*Ян Твардоўскі*
***“Разам з Табою”***
*Мінск, Pro Christo,*

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры 13 снежня 2012 года была прэзентавана яшчэ адна кніга Дануты Бічэль **"Іду сцяжынаю да Бога"**. Паэтычны зборнік пабачыў свет у выдавецтве "ПроХрысто" напярэдадні 75-годдзя. У яго ўвайшлі вершы, напісаныя Данутай Янаўнай у апошнія гады. Многія з іх друкаваліся ў часопісе "Наша вера".

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984) Д. Бічэль даўно прыцягвае ўвагу перакладчыкаў. Кнігі яе паэзіі выйшлі на польскай мове ў Лодзі ў 1981 г., на рускай мове ў Маскве ў 1969 і 1990 гг. З 1993 па 2003 г. яна ўзначальвала Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жывучы стала ў Гародні, шмат зрабіла як літаратурны кансультант, выхавальнік мясцовай творчай моладзі.

*(Паводле belsoch.org,*
*рэдакцыя Станіслава Судніка.)*

# "Наша слова" ў Лідзе - 15 гадоў

***15 гадоў назад 1 лістапада 1997 года ў Лідзе выйшаў першы нумар адноўленай газеты ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" "Наша слова", у агульнай нумерацыі № 331. Да гэтага 330 нумароў за перыяд 1990 - 97 гг. выйшлі ў Менску.***

**Найперш, як і чаму Ліда?**

Я прыехаў жыць у Ліду летам 1994 года. На гэты час я быў сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ ад Гарадзенскай вобласці і меў досвед выдання беларускай газеты "Рокаш" у Казахстане. У Лідзе на той момант была моцная грамадзянская супольнасць, якая складалася ў асноўным з сяброў БНФ "Адраджэньне", Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, адзінкавых прадстаўнікоў іншых партый і рухаў. Моцнымі былі польскія арганізацыі. У снежні 1994 года я быў абраны старшынём Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэньне".

У Лідзе ўжо была традыцыя выпуску незалежных беларускіх выданняў. Пэўны час выходзілі газеты "Народная трыбуна" і "Голас з Ліды". Падчас выбараў 1995 года я яшчэ паспеў выдаць адзін нумар газеты "Голас з Ліды". Пазней выданне гэтай газеты стала немагчымым, бо была страчана рэгістрацыя. Але неабходнасць выдання газеты вісела ў паветры. Недзе з 1995 года я пачаў працаваць карэспандэнтам газеты "Пагоня", адначасова пачалі прымацца захады да рэгістрацыі газеты "Рокаш". Было зроблена каля пяці спробаў, але дазволу ад гарвыканкаму ні разу не атрымалі. Захаваліся гранкі першага нумара лідскага "Рокаша", які так ніколі і не выйшаў.

**1997 год**

У пачатку 1997 года навісла пагроза над газетай ТБМ "Наша слова" ў Менску. Дзяржава адмовіла ў фінансаванні выдання. Прайшла інфармацыя, што "Наша слова" будзе закрывацца. Я сустрэўся з дырэктарам адной з лідскіх прыватных фірмаў (сябрам БНФ), і было прынятае рашэнне - у выпадку закрыцця газеты ў Менску пераняць яе выданне ў Ліду, балазе яна зарэгістраваная. Была абяцаная падтрымка з боку фірмы ў выданні газеты. З гэтым абяцаннем я і паехаў на 5-ты з'езд ТБМ, які адбыўся 12 красавіка 1997 года ў Менску. На з'ездзе, пасля дакладу Эрнэста Ялугіна аб спыненні выдання "Нашага слова" я папрасіў слова і прапанаваў перадаць выданне газеты ў Ліду, але мая прапанова нікім сур'ёзна ўспрынята не была, а шмат у каго выклікала смех. З'езд прапанову не падтрымаў. "Наша слова" перастала выходзіць. Рэдакцыя была распушчана, абсталяванне некаму перададзена. Ад газеты засталася пячатка і копія пасведчання аб рэгістрацыі, арыгінал таксама недзе дзеўся.

Летам 1997 года ў Ліду прыехаў малады лідскі хлопец Алесь Казак, які жыў у Менску і быў ужо абазнаны ў варунках працы трэцяга сектару. Ён сустрэўся са мной і Валерам Сліўкіным, старэйшым навуковым супрацоўнікам Лідска гістарычна-мастацкага музея, кандыдатам геаграфічных навук, і прапанаваў нешта выдаваць. У нас на той момант ужо была прапрацавана канцэпцыя выдання часопіса "Лідскі летапісец", чым мы і адказалі на яго прапанову.

Пачалася праца над першым нумарам часопіса. Ніхто нічога не ўмеў. Я распавёў пра намер выдання часопіса на занятках стэнаграфіі, якія вёў у той час у Паўночным гарадку на курсах перападрыхтоўкі. На перапынку да мяне падышла маладзенькая вучаніца і сказала, што яе муж абазнаны ў такіх справах. Усё аказалася так. Гэты хлопец зрабіў першы макет "Лідскага летапісца", і ў верасні выйшаў першы нумар часопіса. Але справа з "Нашым словам" у Менску не вырашалася. Час ішоў, узнікала пагроза страты рэгістрацыі і поўнай ліквідацыі газеты. Я падтрымліваў сувязь з Генадзем Бураўкіным, Людмілай Дзіцэвіч і Алегам Трусавым. На 26 верасня было прызначана паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Было дамоўлена вынесці на гэтую Раду пытанне аб перадачы "Нашага слова" ў Ліду яшчэ раз, але маючы досвед з'езду, які такую ідэю не падтрымаў, бачачы небяспеку, што і Рада не падтрымае, я прапанаваў, каб у пастанове абавязкова былі словы "часова перадаць". У войску бытуе мудрасць: "Няма нічога больш пастаяннага, чым часовае". Таму "часова перадаць" абазначала для нас "перадаць надоўга або назаўсёды". І трэба сказаць, што Рада на часовую перадачу пайшла лёгка. А тая часовасць працягнулася 15 гадоў і пацягнулася на16-ты. Мне перадалі, згаданыя ўжо, пячатку і копію пасведчання аб рэгістрацыі, і пачалася падрыхтоўка першага лідскага нумара. Мы нічога не маглі рабіць самі. У нас банальна не было ні кампутара, ні рахунка ў банку, ні досведу ўсіх неабходных стасункаў, аперацый і г.д. Па вялікаму рахунку гэта была авантура.

Першы нумар набраў і зьвярстаў той жа хлопец, які вярстаў "Лідскі летапісец". Ён жа зрабіў лагатып. Пастаўленыя ім помнік Скарыны і эмблема ТБМ, стаяць у "шапцы" газеты да гэтага часу. Аплаціла нумар фірма, з якой вяліся перамовы вясной, перад з'ездам. Першы нумар выйшаў пад 1-е лістапада 1997 года і быў прадстаўлены шырокай грамадскасці ў Свіслачы, куды сабраліся сябры нацыянальных арганізацый, каб ушанаваць памяць Віктара Каліноўскага, Кастуся Каліноўскага і ўсіх паўстанцаў 1863 года (магіла Віктара Каліноўскага была толькі што адшукана і адноўлена, і гэта быў першы шырокі збор грамадскасці). Канешне першы лідскі нумар быў далёкі ад дасканаласці. Я доўга захоўваў ліст аднаго з нашых "добразычліўцаў" з нагоды выхаду гэтага нумара. У лісце было напісана: *"Чым такое "Наша слова", то лепш ніякага."* Але машына закруцілася. У 1997 годзе газета выходзіла адзін раз на два тыдні. З 1998 года стала штотыднёвай. На другі нумар нам прыйшлося шукаць новага наборшчыка. Знайшлі, аддалі матэрыялы, і хлопец прапаў разам з матэрыяламі, усё нанава. Выйшаў другі нумар. Прыйшла

першая дапамога. Язэп Палубятка з Мастоў ад імя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады перадаў рэдакцыі першы кампутар. Кампутар быў слабенькі. На ім можна было вярстаць толькі адну паласу. Паласу запісвалі на дыскету, сціралі і вярсталі другую. Наш дабрадзей, які дапамагаў ад пачатку, рэкамендаваў нам дзяўчыну, якая за невялікую плату пачала вярстаць газету ў вячэрні час, пасля асноўнай працы. Але ў гэты час за яе спіной стаялі мае сыны Максім і Арцём, якія вельмі хутка ўсё асвоілі. І як толькі дзяўчына сказала, што ёй цяжкавата ездзіць вечарамі, мы ёй падзякавалі і ўдзячныя да гэтага часу. Сыны пасадзілі мяне за кампутар і пачалі вучыць. Недзе з нумара дзесятага і да гэтага часу ўсе нумары я вярстаў сам. Аднак трэба была наборшчыца. Знайшлі выпадкова. Разгаварыўся з былым прапаршчыкам нашай часткі, які спытаў, ці няма працы для жонкі. І Ванда Адольфаўна набірала газету гадоў чатыры.

Рэдакцыя ў гэты час па сутнасці размяшчалася на абутковай фабрыцы "Тэмп", сёння гэта гадлёвы комплекс "Кантынент". Адзін раз там давялося пабываць Генадзю Бураўкіну.

У нас не было сканера. Каб адсканаваць фатаграфію, я бегаў на Раслякі (край горада) на фірму Сяргея Лазарэвіча (сябар БНФ). У нас не было прынтара. Газету вычытвалі на экране, у друк здавалі на дыскетах. Часцяком здаралася, што дыскеты не адкрываліся, таму заўсёды рабілася некалькі копій.

Крызісны быў трэці нумар, у якім мы надрукавалі артыкул прафесара Аляксея Саламонава, і які выклікаў негатыўную рэкцыю ў Гарадзенскім аблвыканкаме. Адтуль прайшоў званок у Лідскую друкарню, каб друкарня газету не друкавала. І я, і нехта з кіраўніцтва ТБМ звязаліся з гарадзенскімі сябрамі ТБМ. Як распавядалі пазней, два ці тры прафесары Гарадзенскага ўніверсітэта пайшлі ў аблвыканкам. Што і з кім гаварылі, тое на апасля, але забарона на друк была знятая.

Пасля гэтага ж трэцяга нумара на фірму, якая аплачвала газету, прыйшлі хлопцы ў цывільным і сказалі: або развязвайцеся з газетай, або будзеце закрытыя. Фірма перастала плаціць за газету, праўда ў закрытым рэжыме падтрымку працягвала, але гэтых грошай ужо ніякім чынам не хапала. Плаціць за друк тады можна было наяўнымі, таму грошы збіраліся па ўсёй Беларусі, балазе кошты былі не такія страшныя. Тым не менш патрэбна была юрыдычная асоба, якая б адказвала перад органамі ўлады - падаткавай інспекцыяй і інш. Пад рукой былі дзве фірмы: фірма "Прагрэс" Мікалая Сцепасюка (сябар Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады) і фірма Валерыя Сліўкіна (сябар Партыі здаровага сэнсу). Першым быў задзейнічаны "Прагрэс". Некалькі гадоў яны вялі ўсю нашую бухгалтэрыю. Іх правярала падаткавая інспекцыя, іх штрафавалі.

Акрамя праблем выдання газеты былі праблемы распаўсюду. Тут нашымі кліентамі аказаліся "Белпошта" і "Белсаюздрук". Цераз "Белпошту" вырашаліся пытанні падпіскі і дастаўкі газет, цераз "Белсаюздрук" - пытанні продажу ў шапіках. Трэба сказаць, што мы мелі поўнае спрыянне з боку Гарадзенскага абласнога аддзялення "Белпошты" і Гарадзенскага абласнога і Лідскага гарадскога аддзяленняў "Белсаюздруку". Мы з іх боку мелі не толькі дакладнае выкананне ўсіх абавязкаў, але і сістэматычную падтрымку ў арганізацыйным плане. Гарадзенскае аддзяленне "Белпошты" трымала на кантролі падачу намі ўсіх дакументаў на ўключэнне ў каталогі падпіскі. Паштавікі, тэлефанавалі, падганялі, калі быў нейкі збой. У Лідзе ўсе пытанні вырашаліся цераз намесніка начальніка вузла паштовай сувязі, які ад першага нумара і да самай смерці выпісваў і чытаў газету "Наша слова". Не было ні адной праблемы і з лідскім "Саюздрукам".

Паступова мы выйшлі на продаж у кіёсках усіх 117 раёнаў Беларусі. Патрэбна было штотыдзень выпісаць каля 120 накладных і запакаваць каля 115 пакетаў. Мы вымушаны былі наняць асобную жанчыну, якая займалася толькі гэтай працай.

Паляпшалася справа з тэхнікай. Атрымалі лепшы кампутар, факс, потым сканер, прынтар. Прадалі кампутар і купілі яшчэ лепшы. Прыехаў Аляксей Глушко са Згуртавання беларускіх студэнтаў, паставіў электронную пошту, навучыў карыстацца.

Усё гэта адбывалася ў няпростыя часы, калі закрываліся газеты "Свабода", "Пагоня" і многія іншыя. У гэты час вельмі многімі людзьмі, у тым ліку ва ўладных структурах, рабілася надзвычай шмат, каб "Наша слова" не трапіла "пад раздачу". Мы атрымалі адно пісьмовае папярэджанне ад тады яшчэ Дзяржаўнага камітэта па друку, але сам Камітэт яго і адмяніў.

Праблемай лідскага "Нашага слова" была і ёсць значная колькасць арфаграфічных памылак. Мы тры разы наймалі карэктараў, якія працавалі ў нас па паўгода, але эфекту ад іх працы не было, памылак менш не станавілася.

**Народны карэспандэнт**

У нас не было карэспандэнтаў. Мае спробы залучыць у газету некаторых знаных майстроў пяра поспеху не мелі. Было вырашана працаваць на тых матэрыялах, якія прышлюць чытачы і якія дасць кіраўніцтва ТБМ.

Газета была абвешчана безганарарнай. Гэта значыць, што мы не маглі, каб нават і хацелі, плаціць аўтарам. Мы спадзяваліся на сяброў ТБМ, патрыётаў Беларусі, на тых, каму ёсць што сказаць у падтрымку і абарону беларускай мовы. Разлік у прынцыпе аказаўся правільным. Так званы метад “народнага карэспандэнта” не толькі спрацаваў і забяспечыў газету матэрыяламі, а і вызначыў яе змест, скіраванасць, “твар”.

У газету пачалі пісаць знаныя мовазнаўцы, гісторыкі, шараговыя краязнаўцы і аматары слова. Калі сыходзіць з персаналій аўтараў, то ўзровень газеты быў даволі высокі. Здараліся выпадкі, калі ў адным нумары друкавалася да трох дактароў навук. Адзін - два дактары навук у нумары - звыклая з’ява. У газеце неаднаразова друкаваліся: член-карэспандэнт НАН Беларусі Радзім Гарэцкі, дактары навук Павел



Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!
ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

# Наша слова



Газета выходзіць з сакавіка 1990 года — № 33 (1080) 15 ЖНІЎНЯ 2012 г.

## У Зэльве ўшанавалі Ларысу Геніюш



## 100 гадоў з дня нараджэння Барыса Мікуліча



***750-ты нумар "Нашага слова", выдадзены ў Лідзе - № 33 (1080) ад 15 жніўня 2012 г.***

Сцяцко, Іван Лепешаў, Анатоль Грыцкевіч, Леанід Лыч; кандыдаты навук Алег Трусаў, Уладзіслаў Завальнюк і шмат іншых.

Так ёсць і да гэтага часу. І вялікі дзякуй усім, хто піша ў газету.

Газета ў апошнія пяць гадоў пачала інтэнсіўна друкаваць перапіску ТБМ з уладамі, што выклікае адпаведную цікавасць і забяспечвае галоснасць у дзейнасці ТБМ.

**Лідская гарадская арганізацыя ТБМ - выдавец "Нашага слова"**

У кастрычніку 1998 года ў Лідзе была адноўлена дзейнасць Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Лідская гарадская арганізацыя ТБМ існавала ў Лідзе з 1989 года. 16 красавіка 1998 года яна была пераўтворана ў Лідскую арганізацыю ТБМ з ахопам суполак раёна. Узначаліў яе Лявон Анацка. Але Лідская гарадская арганізацыя не была распушчана, і вось яе дзейнасць ізноў аднавілася. Узначаліла яе Лілея Сазанавец. Праз некаторы час Лілея Сазанавец адмовілася ад пасады старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, фактычна паклала пячатку на стол. Выпадкова я пры гэтым прысутнічаў, забраў пячатку і ўзначаліў арганізацыю. Адразу з Лідскай арганізацыі выйшла найбуйнейшая арганізацыя - арганізацыя ТБМ Лідскага каледжа начале з Міхасём Мельнікам і ўвайшла ў Лідскую гарадскую арганізацю. На бліжэйшай канферэнцыі (1999 г.) мяне абралі старшынём Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

У гэтым жа 1999 годзе пачаліся нелады ў фірме "Прагрэс", якая, як юрыдычная асоба, забяспечвала выданне "Нашага слова". З 1 студзеня 2000 года Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны павяла самастойную гаспадарчую дзейнасць і бухгалтарскі ўлік па выданні газеты "Наша слова". Некаторы час мы адпрацавалі з неафіцыйным бухгалтарам (бухгалтар па дамове, які рабіў усе разлікі, але ні за што не адказваў і нічога не падпісваў). Гэтым неафіцыйным бухгалтарам выпадкова аказаўся галоўны бухгалтар аднаго з аддзелаў Лідскага гарвыканкаму, і ніякіх комплексаў. Але патрабаванні станавіліся ўсё больш жорсткімі, і з 2002 года бухгалтарам афіцыйна стала Данута Аўгусцін (БНФ, ТБМ), якая працуе да гэтага часу.

З 2002 года наборшчыцай стала Лілея Крупкіна (БНФ, ТБМ), якая працуе да гэтага часу.

Газета развівалася няроўна. Былі моманты, калі мы даганялі наклад да 5000 асобнікаў. Былі моманты, калі падпісвалі на газету многія сотні бібліятэк. Былі часы, калі выходзілі на 12 палосах і ў два колеры. Былі цяжкія часы, калі нас выцеснілі спачатку з шапікаў "Саюздруку" ўсходніх абласцей, а пасля з Менска і Менскай вобласці. Былі гады, калі друкарня заключала з намі дамову толькі на адзін месяц.

Быў час, калі мы выручалі ў цяжкай сітуацыі "Новую газету Смаргоні" і патрапілі пад праверку фінансавай міліцыі. Былі праверкі падаткавай інспекцыі, і былі штрафы.

Былі моманты цэнзуры. Характэрны прыклад з часу выбараў 2006 года. Я наслухаўся абвінавачванняў за тое, што газета фактычна прамаўчала выбары. А з нумароў "Нашага слова" ў гэты час было знята чатыры паласы. З Гарадзенскага аблвыканкаму патэлефанаваў чалавек, якога я заўсёды паважаў, і сказаў: *"Перадайце Судніку, мы не дазволім яму закрыць газету. Хай мяняе паласы. А не, то хай лепш не выйдзе гэты нумар зусім, чым закрыецца газета."* Я памяняў паласы, прайшлі выбары, усё ўтрэслася. Кожны можа абвінаваціць рэдактара ў памяркоўніцтве, непрынцы-

повасці, уступчывасці. Гэта на адну шалю вагаў, а на другую больш за 300 нумароў "Нашага слова", якія выйшлі пасля тых выбараў. Што пераважыць? Мабыць, залежыць яшчэ і ад таго, хто важыць будзе.

**Выдавецкі дом ТБМ**

А між тым дзяржаўная машына прадаўжала працаваць і найэфектыўней у галіне законатворчасці. Раптам грамадскія аб'яднанні пазбавіліся права гаспадарчай дзейнасці, а, значыць, Лідская гарадская арганізацыя ТБМ не магла больш выдаваць газету "Наша слова". Неабходна ізноў было вяртацца да старой схемы з юрыдычнай асобай, але ў статуце якой былі б прапісаны ўсе правы па выдавецкай дзейнасці. Былі праведзены два паседжанні рэспубліканскай Рады ТБМ, унесены змены ў Статут. У Лідзе быў падрыхтаваны пакет дакументаў, і 12 снежня 2006 года Гарадзенскі аблвыканкам зарэгістраваў Установу інфармацыі "Выдавецкі дом грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Гэта быў першы выпадак за многія гады, калі грамадскае аб'яднанне зарэгістравала выдавецтва. Да месца будзе сказаць, што распрацаваны пакет дакументаў быў скарыстаны яшчэ раз. На аснове падпрацаванага статута і іншых дакументаў была зарэгістравана Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Верасьнянка", якая зараз займаецца выданнем часопіса "Верасень".

Такім чынам пятнаццаць гадоў штодзённай працы без канкрэтна азначаных выхадных, без штогадовых, як належыць добрым людзям, адпачынкаў, але маем 770 лідскіх нумароў і 1100 па агульнай нумарацыі (2 студзеня 2013 года).

На сёння газета выходзіць на 8 палосах. Наклад 2000 асобнікаў. На яе можна падпісацца ў аддзяленнях "Белпошты". Газету можна купіць у шапіках "Саюздруку" Гарадзенскай вобласці, гарадоў Берасця, Пінска і Баранавіч Берасцейскай вобласці, гарадоў Віцебска, Полацка і Наваполацка Віцебскай вобласці. Версію PDF газеты можна купіць у "Белкіёску" (belkiosk.by), прачытаць на сайтах pawet.net і kamunikat.org.

**Кіраўніцтва ТБМ і рэдкалегія**

Усе гэтыя 15 гадоў, нягледзячы на розныя перапетыі, газета "Наша слова" заставалася цэнтральным органам ТБМ, і гэтым у значнай ступені таксама вызначаецца твар газеты.

Газета "Наша слова" друкуе афіцыйныя дакументы ТБМ, планы работы і справаздачы не толькі рэспубліканскай Рады ТБМ, але і мясцовых арганізацый. Справаздачы старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ друкуюцца рэгулярна.

І Генадзь Бураўкін - старшыня ТБМ у 1997-99 гадах, і Алег Трусаў - старшыня ТБМ з 1999 года выдатна разумелі значэнне газеты для дзейнасці, захаванасці і развіцця Таварыства. У прынцыпе і рэдактар, і старшыні ТБМ работу У. Леніна "Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура" ў свой час вучылі. А вось сучасным маладым кіраўнікам палітычных партый не пашчасціла ў гэтым плане, таму большасць з іх не то што газеты, а і сайта забяспечыць не могуць, а туды ж - у масы, па галасы выбаршчыкаў.

У газеце склалася практыка ўзгаднення кожнага нумара са старшынём ТБМ і не ў плане цэнзуры, а ў плане паўнаты і першачарговасці падачы той ці іншай інфармацыі.

У цяжкія для газеты часы ў матэрыяльным плане кіраўніцтва ТБМ аказвала і аказвае сістэматычную фінансавую падтрымку рэдакцыі, без якой ужо колькі разоў газета магла закрыцца.

Ад моманту заснавання і да сённяшняга дня ў газеты ёсць рэдкалегія, якая зацвярджецца з'ездамі ТБМ і карэктуецца Радамі. У рэдкалегію "Нашага слова" ўваходзілі і ўваходзяць многія знакамітыя людзі Беларусі, тыя, хто знаходзіцца на пярэднім краі барацьбы за беларускую мову. Склад рэдкалегіі на снежань 2012 г.: *Алена Анісім, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.* У сваёй большасці гэта сябры Рады ТБМ, кіраўнікі рэгіянальных арганізацый, мовазнаўцы. Рэдкалегія не кіруе газетай нейкімі пастановамі ці загадамі, але шляхам падачы масы актуальных матэрыялаў вызначае яе і зместавую, і ідэалагічную скіраванасць.

**Народная падтрымка**

Я назваў вельмі мала імёнаў і прозвішчаў, прывёў далёка не ўсе прыклады і лічбы, але, магчыма, пакуль што больш і не трэба. А найперш нельга назваць прозвішчы тых дабрадзеяў, якія садзейнічалі выданню газеты, бо многія з іх яшчэ займаюць значныя пасады ў органах улады і ў бізнэсе, і не выпадае браць у кожнага дазвол на абнародванне яго імені і яго заслуг. А шмат хто такога дазволу не дасць, пажадаўшы і надалей заставацца ў цяні.

Але трэба сказаць, што адной з асноўных праблем лідскага перыяду выдання газеты "Наша слова" была і ёсць фінансавая праблема. Газету ўвесь час існавання, як адзначалася, падтрымлівае кіраўніцтва ТБМ. Пэўная падтрымка шукалася ў Лідзе. Сур'ёзную падтрымку ТБМ і газеце аказала распарадчыца спадчыны Ўладзіміра Караткевіча Алена Сінкевіч, што для нас вельмі важна і знакава. Пакуль можна было, газету падтрымлівала цераз ТБМ і беларуская дыяспара ажно да Аўстраліі. У адзін з гадоў аўстралійскія беларусы вырашылі паслаць свайго дэлегата на з'езд ЗБС "Бацькаўшчына", але грошай назбіралі недастаткова, не бліжні свет - дарага, таму вырашылі замік дэлегата на з'езд паслаць гэтыя грошы ў ТБМ. Логіка ёсць.

Увесь час, пакуль газета знаходзіцца ў Лідзе, мы адчуваем самую шырокую падтрымку і ўладных структур, і бізнэсоўцаў, і простых грамадзян. І мы выдатна разумеем, што гэта падтрымка не зусім рэдакцыі, не зусім газеце, не зусім ТБМ. Гэта падтрымка беларускай мове. Лідзяне любілі, любяць і будуць любіць беларускую мову. Прыдзе час, і размаўляць будуць усе толькі па-беларуску.

***Станіслаў Суднік,***
***рэдактар газеты "Наша слова".***

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

## Дэмбраўская парафія

**1**

Касцёл мураваны парафіяльны ў графстве Дэмбраў яснавяльможнага пана Тызенгаўза, падскарбія надворнага ВКЛ, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, двары, вёскі і мястэчкі якія належаць парафіі, выкладзены ніжэй па-алфавіту:

**Андрушоўшчына** (Andrusowszczyzna) васпанства Лісоўскага і Шмігеры, у кірунку на поўнач ад касцёла чвэрць мілі.

**Апонаўшчына** (Oponowszczyzna), таго ж ягамосці, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ад касцёла паўтары чвэрці мілі.

**Асочнікі** (Osocznik), у лясах яснавяльможнага пана Сцыпіёна, знаходзяцца там жа, за тысячу крокаў.

**Ахрымаўцы** (Ochrymowce), двор яснавяльможнага пана Скіндара, мечніка лідскага, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ад касцёла чвэрць мілі.

**Ахрымаўцы** (Ochrymowce), вёска таго ж ягамосці, у тым жа кірунку і на той жа адлегласці.

**Ахрымаўшчына** (Achrymowszczyzna), яснавяльможнага пана Сцыпіёна, лідскага старасты, у кірунку на поўнач ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Ашуркі** (Oszurki), млын і карчма яснавяльможнага пана Сцыпіёна, у кірунку на летні захад, ад касцёла парафіяльнага пяць чацвёртых мілі.

**Ашуркі** (Oszurki), вёска яснавяльможнага пана Сцыпіёна, ад касцёла у тым жа кірунку і на той жа адлегласці.

**Баброўня** (Bobrownia), лясніцтва Яго Каралеўскай мосці, у кірунку на летні захад ад касцёла, адна міля.

**Бублейкі** (Bublejki), двор васпана Скіндара, чашніка Лідскага павету, у кірунку на летні ўсход ад касцёла парафіяльнага, палова мілі.

**Бычкоўшчына** (Byczkowszczyzna), двор яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на летні захад палова мілі.

**Бэрнікі** (Berdniki), васпана капітана Скіндара, у кірунку на поўнач ад касцёла, палова мілі.

**Варонкі** (Woronki), яснавяльможных паноў Чапліцаў, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ад касцёла чвэрць мілі.

**Відаўка** (Widowka), фальварак васпана Скіндара, у кірунку на поўнач ад касцёла пяць чацвёртых мілі.

**Відаўка** (Widowka), вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза, знаходзіцца там жа, дзе і фальварак васпана Скіндара.

**Вострава** (Ostrow), вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж захадам і поўначу, ад касцёла палова чвэрці мілі.

**Дэмбрава** (Dziembrow), двор яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж летнім і зімовым захадам, ад касцёла паўтары сотні крокаў.

**Дэмбрава** (Dziembrow), мястэчка таго ж ягамосці, у кірунку на поўнач, ад касцёла парафіяльнага трыста крокаў.

**Завалкі** (Zawalki), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, першыя і праз трыста крокаў другія і там жа прэзбітэрыюм, у кірунку паміж усходам і поўднем, ад касцёла палова чвэрці мілі.

**Згрэбнікі** (Zgrzebniki), васпана Скіндара, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, палова мілі ад касцёла.

**Зюкі** (Ziuki), таго ж васпана, у кірунку на поўнач ад касцёла, тры чвэрці мілі.

**Карашава** (Karaszew), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на летні захад, палова вялікай мілі.

**Красная** (Krasna Wies), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на поўдзень ад касцёла, палова і чвэрць мілі.

**Ладаўшчына** (Ladowszczyzna), васпана Сідаровіча, у кірунку на летні ўсход, ад касцёла палова мілі.

**Лясішча** (Lesiszcze), двор яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на зімовы захад, адна міля ад касцёла.

**Ляцэвічы** (Lacewicze), млын і карчма яснавяльможнага пана Сцыпіёна, у кірунку на поўнач, ад касцёла палова мілі.

**Ляцэвічы** (Lacewicze), іншая карчма, у кірунку на поўнач, ад касцёла палова мілі.

**Ляцэвічы** (Lacewicze), вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на поўнач, ад касцёла палова мілі.

**Макасеўшчына** (Makasiewszczyzna), яснавяльможных паноў Якімовічаў, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ад касцёла палова мілі.

**Малінікі** (Malinnik), фальварак і там жа вёска яснавяльможных паноў Чапліцаў, у кірунку на зімовы ўсход, ад касцёла чвэрць мілі.

**Мацейкі** (Maciejki), у кірунку на поўнач, васпана капітана Скіндара, ад касцёла палова мілі.

**Місіноўшчына** (Misinowszczyzna), яснавяльможных паноў Ягджайлаў, у кірунку летні усход, ад касцёла палова мілі.

**Новая** (Nowa Wies), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж летнім і зімовым захадам, ад касцёла парафіяльнага болей за палову мілі.

**Новая Спуша** (Spusza Nowa), карчма яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж зімовым і летнім захадам, ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Пратасаўшчына** (Protosowszczyzna), яснавяльможнага пана Тызенгаўза.

**Прудцы** (Prudcy), таго ж яснавяльможнага пана, у кірунку на зімовы захад, адна міля ад касцёла.

**Рагачоўшчына** (Rohaczewszczyzna), васпанства Алізаровічаў, у кірунку летні ўсход палова мілі.

**Рыча** (Ryczapanska), яснавяльможнага пана Сцыпіёна і васпана Скіндара, у кірунку на поўнач ад касцёла, тры чвэрці мілі.

**Ройшы** (Rojsze), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж захадам і поўначчу, ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Ройшы** (Rojsze), фальварак васпана Сямашкі, у кірунку паміж захадам і поўначчу, ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Рухомаўшчына** (Ruchomowszczyzna), яснавяльможных паноў Гаўрылкевічаў, у кірунку на поўнач, ад касцёла чвэрць мілі.

**Савічы** (Sawicze), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на зімовы захад, ад касцёла чвэрць мілі.

**Слонна** (Uslonna), карчма васпана Скіндара, ці грунт шляхты Ягджайлаў, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ад касцёла чвэрць мілі.

**Спуша** (Spusza), двор яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж зімовым і летнім захадам, ад касцёла палова мілі.

**Спуша** (Spusza), вёска таго ж яснавяльможнага пана, у тым жа кірунку і на той жа адлегласці.

**Староўшчына** (Starowszczyzna), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж усходам і поўднем, ад касцёла чвэрць мілі.

**Староўшчына Малая** (Starowszczyzna Mala), таго ж яснавяльможнага пана, у тым жа кірунку і на той жа адлегласці.

**Шклярскі Перавоз** (Szklarski Przewoz), карчма над ракой Котрай яснавяльможнага пана Сцыпіёна, у кірунку паміж захадам і поўначчу ад касцёла парафіяльнага паўтары мілі.

**Шчанец** (Szczeniec), вёска, каралеўская маёмасць, у кірунку паміж захадам і поўначчу, ад касцёла міля.

**Шэмякоўшчына** (Szemiekowszczyzna), васпанства Макоўскіх, у кірунку на поўнач, ад касцёла адна міля.

**Тусаўшчына** (Tysowszczyzna), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на поўнач ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Хамоўшчына** (Chomowszczyzna), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку паміж летнім і зімовым захадам, ад касцёла міля.

**Ходзеяўшчына** (Chodziejowszczyzna), яснавяльможнага пана Сцыпіёна, у кірунку на поўнач ад касцёла, тры чвэрці мілі.

**Цяпы** (Czapy, Czeszewiki), яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у кірунку на поўнач, ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Чалясоўшчына** (Cielejowszczyzna), фальварак яснавяльможных паноў (JPP) Таркоўскіх, у кірунку на поўнач ад касцёла, чвэрць мілі.

**2**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла, наступныя суседскія касцёлы:

**Азёры** (Jeziory), парафільяны касцёл у маёмасці Яго Каралеўскай мосці, у Гарадзенскім павеце і дэканаце, у кірунку на летні захад, тры мілі ад касцёла.

**Астрына** (Ostrynia), мястэчка, парафіяльная царква, староства ў Лідскім павеце і дэканаце, у кірунку на поўнач, ад касцёла паўтары мілі.

**Дэмбрава** (Dziembrow), мястэчка, парафіяльная царква ў маёмасці яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у Лідскім павеце і дэканаце, у кірунку на поўнач, ад касцёла трыста крокаў.

**Ляцк** (Lack), парафільяны касцёл у тым самым павеце і дэканаце, плябан - кс. Каржанеўскі, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна вялікая міля.

**Каменка** (Kamionka), парафільяны касцёл у мястэчку яснавяльможнага пана Тызенгаўза, у Гарадзенскім павеце але ў Лідскім дэканаце, у кірунку на поўдзень ад касцёла, адна вялікая міля.

**Скідаль** (Skidel), мястэчка, парафіяльная царква ў маёмасці Яго Каралеўскай мосці, у Гарадзенскім павеце і дэканаце, у кірунку на зімовы захад, паўтары мілі ад касцёла.

**3**

Значнейшыя гарады каля Дэмбраўскага касцёла:

**Ліда** (Lida), судовы горад, у кірунку паміж летнім усходам і зімовым захадам, дзе вялікія мілі.

**Ваўкавыск** (Wolkowysk), судовы горад, у кірунку на поўдзень, восем міль.

**Гародня** (Grodno), судовы і соймавы горад, у кірунку на летні захад, ад касцёла сем міль.

**4**

Дарога да **Ліды** пясчаная, камяністыя, месцамі ўброд, нізінамі нядобрая.

Дарога да **Ваўкавыска** праз масты, месцамі ўброд, пясчаная, камяністыя, няспешная.

Дарога да **Гародні**, дзве мілі пяскамі, месцамі ўброд, а пяць міль выраўненая.

З Дэмбрава да Ліды ўлетку і ўзімку язды больш за дзень.

З Дэмбрава да Ваўкавыска язды з адпачынкам на абед улетку і ўзімку трынаццаць гадзін.

З Дэмбрава да Гародні язды летам з адпачынкам на абед дзевяць гадзін.

**5**

Азёраў у парафіі няма.

Рака **Котра**, на летні захад, мяжуе з Азёрскай парафіяй, на поўначы з Навадворскай парафіяй.

Рака **Спуша** невялікая, пачынаецца ў Ляцкай парафіі (на зімовы ўсход), цячэ праз усю Дэмбраўскую парафію на зімовы захад у Азёрскую парафію.

Рэчка **Рыча**, пачынаецца з Рычанскіх крыніц (на летні ўсход), цячэ праз усю парафію на поўнач аж да ракі Котры, якая мяжуе з парафіямі Азёрскай і Навадворскай.

Рэчка **Слонна**, пачынаецца з крыніц (на летні ўсход), цячэ праз усю Дэмбраўскую парафію да рэчкі Спуша на поўдні.

Балота пад назвай **Гнілішча** ці **Чортавае балота**, паміж летнім захадам і поўначчу, шырыні і даўжыні болей за палову вялікай мілі, праз балота цягнецца рэчка Рыча аж да ставу Ашуркаў.

Ручай **Кісялёўка**, выцякае з крыніц і бродаў, цячэ паўкругам каля Дэмбрава за палову чэрці мілі на поўнач, упадае ў рэчку Спушу.

Стаў на поўнач ад касцёла Дэмбраўскага, за чатыры сотні крокаў, на рацэ Спушы, вялікі, зарослы і доўгі, у маёмасці васпана Тызенгаўза.

Стаў на зімовы захад, на ім тартак **Спуша**, нованаладжаны, у маёмасці яснавяльможнага пана Тызенгаўза, на рацэ Спушы, праз якую грэбля, мост і дарога да Каменкі.

Стаў у Ляцэвічах яснавяльможнага пана Сцыпіона, на поўнач, пачынаецца з крыніц Рычанскіх, зарослы, на ім грэбля дрэнная і гразкі мост палова мілі.

Стаў у Ашурках яснавяльможнага пана Сцыпіёна, пачынаецца з рэчкі Рычы, паміж захадам і поўначчу, пяць чацвёртых мілі.



**6**

Лясоў у Дэмбраўскай парафіі больш, чым палёў, пачаўшы ад Дэмбраўскай грэблі на зімовы ўсход сонца адна міля, на поўнач міля, дрэва здатнага для будоўлі шмат: сасны, елкі, бярозы, альхі, дубу, грабу, асіны вельмі шмат.

**7**

Млыноў у Дэмбраўскай парафіі чатыры: два яснавяльможнага пана Тызенгаўза на рацэ Спушы, пра гэта гл. пад нумарам 5, два яснавяльможнага пана Сцыпіёна, на рацэ Рыча (адзін у Ляцэвічах, другі ў Ашурках). Іншых машын водных ці ветраных няма.

**8**

Партыкулярныя дарогі у Дэмбраўскай парафіі згодна з даўжынёй апісваюцца так:

**Дарога да Ляцка**, пачынаецца ад касцёла ўлева, вуліцай праз мястэчка Дэмбраў, каля карчмы, полем да Ваўкоўні і крыжоў, ад крыжоў управа, далей полем палову чвэрці мілі, далей лес і пасля броду праз поле аж да ракі і карчмы Слонна на гары, з якой управа на адлегласці некалькі сотняў крокаў бачны двор Ахрымаўцы яснавяльможнага пана Скіндара, за ракой Спушай бачны фальварак Малінікі яснавяльможных паноў Чапліцаў, на той жа адлегласці бачны вёскі Ахрымаўцы і Апонаўшчына, далей дарога ідзе праз гай і фальварак Макасеўшчына яснавяльможных паноў Якімовічаў і тут заканчваецца парафія Дэмбраўская, далей дарога на Ляцк ідзе на ўсход, па левай руцэ ад Ваўкоўні бачна Андрусаўшчына яснавяльможных паноў Лісоўскіх, таксама да карчмы Слонна налева бачны вёскі Варонкі яснавяльможных паноў Чапліцаў і вёска Згрэбнікі васпана Скіндара - палова чвэрці мілі, праз поле і хмызняк.

**Дарога да Каменкі**, ад касцёла ўправа, вуліцай да ставу і Дэмбраўскай грэблі, пасярэдзіне грэблі крыж, у лева з грэблі крута дарожка праз лес, поле да Малініка, потым управа, у лес, праехаўшы лес, зноў поле ... да пясчанага брода, потым вёска Вялікая Староўшчына, ад якой управа бачна Малая Староўшчына яснавяльможнага пана Тызенгаўза і тут заканчвацца парафія Дэмбраўская і пачынаецца Каменская. Палова мілі ад касцёла ўправа выраўненым гасцінцам і чвэрць мілі аж да Каменкі, управа на грэблі Дэмбраўскай праз мост на поўдні, адна дрэнная дарожка да Савіч, яснавяльможнага пана Тызенгаўза ..., другая, больш лепшая, яшчэ далей і ўправа, сто крокаў полем, а

болей лесам і борам да Селішча - двара і вёскі Прусаў яснавяльможнага пана Тызенгаўза, вялікая міля і тут у кірунку на зімовы захад заканчвацца парафія Дэмбраўская, а пачынаецца Каменская. Яшчэ далей на тым жа полі дарога на поўдзень прама да вёскі Красная, вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза, ад касцёла ў палове чвэрці мілі бачна направа дарожка да прэзбітара і вёскі Завалкі, за якой масток у лесе на балоце і так магчыма даехаць да Малой Староўшчыны яснавяльможнага пана Тызенгаўза, палова мілі.

**Дарога да Азёраў** на летні ўсход прама праз фальварак Дэмбраўскі, да крыжоў улева, полем да рэчкі Кісялёўкі, на якой масток у лесе, праехаўшы ўправа лесам, потым аж да Бычкоўшчыны, на летні захад, грэбля насыпаная на балоце каля двара Бычкоўшчына, далей праз двор Бычкоўшчына яснавяльможнага пана Тызенгаўза, улетку за чвэрць мілі да Ройшы - вёскі фальварка Сямашкі, а потым каля двара, прама да Шчанца Яго Каралеўскай Мосці полем палова мілі, далей полем праз тысячу крокаў праз лес да ставу Ашурак яснавяльможнага пана Сцыпіёна, далей улева лесам і полем да Ашуркаў таго ж яснавяльможнага пана палова чвэрці мілі, далей да карчмы Шклярскі Перавоз і Котры, ракі, якая з'яўляецца мяжой парафій Дэмбраўскай і Навадворскай. З рэчкі Кіселёўкі праз масток, праехаўшы другой малой дарожкай, далей праз пяцьдзесят крокаў стаіць крыж, ад крыжа ўправа полем каля лесу, пяскамі перасякаем дарогу, ідучую ад Астрыно да Скідаля, да моста і вёскі Карашава яснавяльможнага пана Тызенгаўза, дзе карчма, ад карчмы лясамі, бродамі, ручаямі, горамі да лясніцтва Яго Каралеўскай Мосці і ракі Котры, міля на летні захад, і тут заканчваецца Дэмбраўская парафія, а пачынаецца Азёрская.

Ад рэчкі Кісялёўкі, праз масток прама на зімовы захад да Скідаля, маёмасці Яго Каралеўскай Мосці: пяскамі палова мілі да вёскі Спуша, выехаўшы з гэтай вёскі па левым баку бачны двор за ракой Спуша, адтуль ехаць прама праз поле да вёскі Новая, яснавяльможнага пана Тызенгаўза выраўненым гасцінцам, ад гэтай вёскі за пяцьсот крокаў управа бачна ў даліне цагельня, потым да карчмы Спуша, тут жа млын і тартак у адной пабудове, далей ад ракі Копаніцы да вёскі Хамоўшчына, яснавяльможнага пана Тызенгаўза, вялікая міля, і тут мяжа Дэмбараўскай парафіі з Азёрскай.

Дарога да Астрыны, ад касцёла на поўнач, ад касцёла ўлева ідзе Дэмбраўская вуліца, ад кармы павярнуць улева, далей ехаць полем, лагчынамі, зараслямі, злева, за пяцьсот крокаў, бачны Востраў, вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза, далей з дарогі за некалькі сотняў крокаў справа бачна Андрушоўшчына васпанства Лісоўскіх, потым ехаць лесам праз брод, пасля броду бачны на гары фальварак Рухомаўшчына, яснавяльможных паноў Гаўрылкевічаў (ад дарогі паўтараста крокаў), там жа злева за паўтараста крокаў фальварак Чалясоўшчына, далей праз сто крокаў, выехаўшы з броду павярнуць у права і ехаць пяскамі да двара Бублейкі васпана Скіндара, які будзе ад Астрынскай дарогі праз лес за пяцьсот крокаў, а з таго ж броду прамая (сярэдняя) дарожка праз лес і поле за чвэрць мілі будуць Мацейкі васпана Скіндара, з Мацеек праз Капаніцу на крыніцах, да крыніцы Рычанскай і вёскі Рыча яснавяльможнага пана Сцыпіёна (палова мілі на поўнач), з таго ж броду ўлева, ідзе ўгору пясчаная дарога да Астрыны, злева за трыста крокаў бачны Бэрнікі васпана Скіндара, потым патрэбна ехаць лесам да броду, грэблі, ставу і карчмы ў Ляцэвічах яснавяльможнага пана Сцыпіёна, вёска Ляцэвічы будзе бачна справа за шэсцьдзесят крокаў, далей праехаўшы чвэрць мілі полем і ўехаўшы ў лес, патрэбна пераехаць брод, пасля лесу і броду будзе невялікае поле на якім знаходзіцца фальварак Шэмякоўшчына васпана Макоўскага, потым дарога вядзе зноў у лес, у лесе партыкулярная дарога праз чвэрць мілі прывядзе да фальварка Відаўка, і тут праз пяць чацвёртых мілі заканчваецца парафія Дэмбраўская, і пачынаецца парафія Навадворская.

Гэтае апісанне сваёй парафіі падцвердзіў уласнай рукой кс. **Ян Міхал на Лепках Ляпкоўскі**, пробашч Дэмбраўскі.

## Гародзенская парафія

Парафіяльны касцёл знаходзіцца ў вёсцы **Асава** у Лідскім павеце і дэканаце, вёскі і мястэчкі парафіі па-алфавіту:

**Бастуны** (Bastuny), фальварак, вёска і карчма яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскага павету, у кірунку на летні ўсход ад касцёла, палова малой мілі.

**Балотнікі** (Bolotniki), ваколіца яснавяльможных паноў (JPP) Мацкевіча і Кушалевіча, у кірунку паміж летнім усходам і поўначу, ад парафіяльнага касцёла палова мілі.

**Біланцы** (Bilance), вёска яснавяльможнага пана Тышкевіча, Літоўскага польнага гетмана, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам, некалькі крокаў ад касцёла.

**Вайдагі** (Wojdagi), шляхецкая ваколіца, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, ад касцёла адна вялікая міля.

**Вайкунцы** (Wojkunce), вёска староства Барцянкага, належыць яснавяльможнаму пану Пацу, старасту Каменскаму, у кірунку на летні захад, вялікая міля.

**Гальманцішкі** (Golmanciszki), фальварак, вёска і карчма яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалкавай Лідскай, у кірунку на поўнач ад касцёла, адна міля.

**Гародна** (Horodna), ці вёска **Асава**, у якой ёсць парафіяльны касцёл, ёсць пункт, ад якога робіцца апісанне парафіі. Сама вёска і карчма ў ёй належаць да плябаніі.

**Гародна** (Horodna), двор яснавяльможнага пана Тышкевіча, Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на летні захад ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Гародна** (Horodna), двор яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай, у кірунку на поўнач ад касцёла чвэрць мілі.

**Грубянцы** (Grubiance), вёска яснавяльможнага пана Тышкевіча, Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на зімовы захад, ад касцёла палова вялікай мілі.

**Даўгялы Малыя** (Dowgialy Male), шляхецкая ваколіца і карчма, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, ад касцёла адна міля.

**Даўгялы Вялікія** (Dowgialy Wielkie), шляхецкая ваколіца і карчма, у тым жа кірунку ад касцёла, адна вялікая міля.

**Дзякішкі** (Dziakiszki), вёска яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскага павету, у кірунку на поўнач, ад касцёла адна міля.

**Ёні** (Jonie), вёска, палова вёскі належыць да Эйшыскага староства яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, а другая палова да староства Барцянкага яснавяльможнай пані Бразоўскай, падскарбіевай ВКЛ, у кірунку паміж летнім усходам і поўначчу, ад касцёла палова мілі.

**Жамойцішкі** (Zamojciszki), фальварак і вёска якія належаць да Віленскага кальвінскага збору, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, ад касцёла адна вялікая міля.

**Жусіны** (Zusiny), вёска яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, у кірунку на зімовы ўсход ад касцёла парафіяльнага, палова малой мілі.

**Жылянцы** (Zylance), вёска яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на зімовы захад, ад касцёла парафіяльнага чвэрць мілі.

**Занюны** (Zaniuny), вёска яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, у кірунку на зімовы ўсход, ад касцёла парафіяльнага палова малой мілі.

**Канюхі** (Koniuchy), вёска і карчма яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай, у кірунку на поўнач ад касцёла, чвэрць мілі.

**Лапацішкі** (Lopaciszki), вёска яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку паміж зімовым і летнім захадам, ад касцёла тры чвэрці мілі.

**Лапацішкі** (Lopacizna), фальварак ксяндзоў Лідскіх піяраў, у кірунку летні ўсход ад касцёла палова мілі.

**Мілюшушкі** (Miluszyszki), вёска яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу, ад касцёла адна вялікая міля.

**Нявошы** (Niewosze), вёска, палова вёскі належыць да Эйшыскага староства, а другая палова да староства Барцянкага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, ад касцёла чвэрць мілі.

**Павіланцы** (Powilance), вёска, палова належыць яснавяльможнаму пану Літоўскаму польнаму гетману, другая палова - асоўскай парафіі, у кірунку на зімовы захад, ад касцёла чвэрць лёгкай мілі.

**Пагародна** (Pohorodna), вёска і карчма яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на летні захад, ад касцёла палова мілі.

**Пелаўшышкі** (Pielawszyszki), вёска яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, у кірунку паміж поўначчу і ўсходам летнім, ад касцёла палова мілі.

**Пецюны** (Pieczuny), вёска васпана Ёдкі, Лідскага каморніка, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, ад касцёла адна вялікая міля.

**Подзі** (Podzi), вёска яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на зімовы захад, ад касцёла палова мілі.

**Рачкуны** (Raczkuny), вёска яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, у кірунку паміж летнім усходам і поўначчу, ад касцёла палова мілі.

**Саковічы** (Sakowicze), шляхецкая ваколіца, у кірунку на поўнач ад касцёла, палова мілі.

**Солішкі** (Soliszki), вёска і карчма яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на летні захад, ад касцёла адна міля.

**Татарка** (Tatary), вёска яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у тым жа кірунку і адлегласці ад касцёла.

**Чорная Лаза** (Czarna Loza), засценак яснавяльможнага пана Юстына Ёдкі, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам, некалькі крокаў ад касцёла.

**Ясянцы** (Jasiace), шляхецкая ваколіца, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, ад касцёла адна вялікая міля.

**2**

Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:

**Воранава** (Woronow), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, у Радунскім дэканаце, на землях яснавяльможнага пана Александровіча, канюшага Літоўскага, у кірунку на летні ўсход, ад касцёла парафіяльнага паўтары мілі.

**Германішкі** (Hermaniski), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, у Радунскім дэканаце, на землях Найяснейшага Князя ягомасці пастара, у кірунку зімовага ўсходу, паўтары мілі ад касцёла.

**Жырмуны** (Zyrmuny), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, у Лідскім дэканаце, на землях Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, экс-падкаморага ВКЛ, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам, ад касцёла адна міля.

**Радунь** (Radun), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, у Радунскім дэканаце, у старостве яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку паміж летнім і зімовым захадам, ад касцёла дзве вялікія мілі.

**Тракелі** (Trokiele), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, у Радунскім дэканаце, на землях паезуіцкіх яснавяльможнага пана Гуроўскага, маршалка войск ВКЛ, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, ад касцёла парафіяльнага дзве мілі.

**Эйшышкі** (Ejszyszki), парафіяльны касцёл у тым жа Лідскім павеце і Радунскім дэканаце, у старостве яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, у кірунку на поўнач, ад касцёла дзве вялікія мілі.

**3**

Найбольш значныя гарады каля гародзенскага касцёла:

**Вільня**, сталічны Літоўскі горад, паміж летнім усходам і поўначчу, ад Асоўскага парафіяльнага касцёла дзесяць міль.

**Ліда**, судовы горад на рацэ Лідзея, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам, на адлегласці тры мілі.



4

**Дарога з Гародна (ці Асавы), да Вільні** пачынаецца ад фальварка Бастуны, дзе Лідскі гасцінец ідзе на Воранава, дарога адрамантаваная і добрая.

**Дарога з Гародна да Ліды**, пясчаная, камяністая, месцамі балоцістая.

З Гародна (ці Асавы) да Вільні, улетку дарога займае чатырнаццаць гадзін, узімку можна даехаць за дзесяць.

З Асавы да Ліды, улетку чатыры гадзіны, узімку тры.

5

Пра азёры.

Азёраў, багнаў і балотаў у парафіі няма, калі не лічыць вясенняга і асенняга часу і дажджлівыя дні улетку, калі ў нізінах з'яўляюцца мокрыя і балоцістыя месцы.

6

Пра ставы і каналы.

Стаў яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай, на вельмі маленькай рацэ Асаве, пачынаецца ад крыніц Балатніцкіх, якія належаць яснавяльможным панам (JP) Мацкевічу і Кушалевічу, на зімовы ўсход, ад плябаніі чвэрць мілі.

Стаў яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, на той жа рэчцы, у вёсцы Біланцы, за некалькі сотняў крокаў ад плябаніі, паміж поўднем і зімовым захадам.

Стаў яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай, каля двара Гародна, на рачулцы Гарадзенка, пачынаецца ў Пелаўшышках, а ўпадае за чвэрць мілі ад іх, бяжыць на поўнач.

Малы стаў, другі, за некалькі стаяў ніжэй, на той жа рацэ і ў тым жа кірунку.

Стаў яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, на той жа рацэ Гарадзенцы, ля вёскі Пагародна, на летні захад, ад касцёла палова мілі.

Канал у Гародна, таго ж яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, на ручаі, які называецца Прорва, пачынаецца з балот і крыніц ад вёскі Солішкі, на летні захад ад касцёла, тры чвэрці мілі.

7

Палёў у Гарадзенскай парафіі больш, чым лясоў, акрамя бору яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай ад фальварка Бастуны, у кірунку на летні ўсход ад касцёла, чвэрць мілі і на летні ўсход ад фальварка Лапацішкі, які належыць Лідскім ксяндзам піярам, на адлегласці ад касцёла палова малой мілі. Гэтыя бары паміж сабой злучаюцца, працягласць іх у даўжыню адна ці болей міля, у шырыню - палова мілі, у барах расце дрэва, здатнае для будоўлі, але большасць дрэў у лесе - бярозы, алешына, асіна і г.д.

Гаёў два, адзін з іх - яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, каля двара Гародна, называецца **Звярынец**, у ім расце дрэва не здатнае для будоўлі: піхта, асіна, бяроза, алешына і г.д., гэты гай будзе ў шырыню і ў даўжыню некалькі моргаў.

Другі гай мае назву **Сола**, у ім расце дуб, ясень, клён, піхта і г.д. У гэтым гаі можна выбраць дрэва, здатнае для вазоў і на іншыя гаспадарчыя патрэбы. У даўжыню гэты гай сягае на чвэрць мілі. Абодва гэтыя гаі ляжаць паміж летнім захадам і поўначчу ад касцёла парафіяльнага, за адну мілю. У многіх месцах парафіі знаходзяцца хмызняк і зараслі даўжынёй і шырынёй у некалькі моргаў, якія не маюць назваў.

8

Млыны у парафіі:

Млыноў пяць:

На рэчцы Гарадзенцы два каля двара яснавяльможнай пані Ёдкавай, маршалковай Лідскай, адзін яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана ля вёскі Пагародна.

На рэчцы Асаве яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай у вёсцы Падваранцы адзін.

Адзін на той самай рэчцы у вёсцы Біланцы яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана.

Іншых машын як водных, так і ветраных, як і старажытных месцаў і месцаў цікавых з боку гледжання натуральнай гісторыі, няма.

9

Партыкулярныя дарогі у парафіі і публічныя тракты.

**Дарога да Эйшышак** цалкам і зімовы тракт да Трок, Коўні, Мітавы, Рыгі, пачынаючы ад касцёла

парафіяльнага Асоўскага, у кірунку на поўнач, выехаўшы ад касцёла адкрытым полем праз малую грэблю і масток пад гору, праз некалькі стай будзе паварот налева і прамая дарога да Радуні, направа - праз адкрытае поле дарога да Эйшышак, з дарогі праз некалькі дзесяткаў шнуроў будуць бачны вёскі Зусіны, Нявошы, Пелаўшышкі. Далей тая самая дарога ідзе праз Гародзенскі двор яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, які бачны з левага боку. Тут жа пры гасцінцы па праваму боку дарогі стаіць капліца, мінуўшы капліцу, праз грэблю і масток праз рачулку Гарадзенку будзе карчма і вёска Канюхі, пасярод гэтай вёскі таксама ёсць малая гэбля і масток, мінуўшы гэты масток і другую палову вёскі, дарога ідзе праз адкрытае поле аж да крыжа, які стаіць на пачатку лесу, ад крыжа ўлева дарога ідзе адкрытым полем і праз зараслі ідзе да вёскі Дзякішкі. Міма лесу, які ляжыць па правым баку дарога ідзе да вёскі і карчмы Татарка, дзе ад карчмы дарогі разыходзяцца і праз зараслі вядуць да ваколіц Войдагаў, Ясянцаў, Жамойцішак, фальварка Дысыдзенскага паміж поўначчу і летнім усходам, тут заканчваецца парафія Асоўская і пачынаецца Воранаўская і Эйшышская. Выехаўшы з вёскі Татарка ўлева, каля малога ляску па правай руцэ да крыжа, дзе раздзяляюцца дарогі, управа дарога ідзе да Ёняў і далей праз лясок да Даўгял Малых і далей праз зараслі да Даўгял Вялікіх на поўнач і летні ўсход, дарога балоцістая, няроўная, у гэтым месцы заканчваецца парафія Гародзенская і пачынаецца Эйшышская. Ад таго ж вышэй названага крыжа, прама праз грэблю і ручай без назвы, ідзе дарога да Эйшышак, рухаючыся па гэтай дарозе, па правай руцэ будуць зараслі, па левым баку поле, і праз некалькі стай будзе ваколіца Саковічы. Далей, праехаўшы па той самай дарозе, злева будзе бачна карчма і фальварак Гальманцішкі, у кірунку паўночным, і тут канец парафіі Асоўскай і пачынаецца Эйшышская.

Дарога партыкулярная да Германішак, дзе ёсць касцёл парафіяльны, мяжуючы на зімовым усходзе. Ехаць ад плябаніі дзвесце крокаў адкрытым полем праз невялікую грэблю сухой дарогай пад гару, прама да вёскі Падваранцы, якая ляжыць на зімовы ўсход сонца, а ад той вёскі прама ўгару да вёскі Бастуны, адтуль праз ручай, грэблю і масток, мінуўшы фальварак Бастуны (па правай руцэ), будзе бачна бастунская карчма якая ляжыць па правай руцэ за некалькі стаяў на публічным Лідскім гасцінцы, які ідзе да Вільні. Далей гасцінец крыжуецца з папярэчнай дарогай, тут стаіць крыж, ад якога ідзе дарога на Германішкі, тут пачынаецца парафія Германішская.

Дарога з Асавы да Радуні, дзе ёсць касцёл парафіяльны (у кірунку паміж летнім і зімовым захадам), выехаўшы з плябаніі дарогай на Эйшышкі, праз палову чвэрці мілі будзе малая грэбля і масток, за імі ўлева, адкрытым полем прамая дарога да вёскі і карчмы Пагародна, едучы да Пагародна, з левага боку за чвэрць мілі будуць бачны вёскі Павіланцы, Подзі, Грубянцы, далей, выехаўшы з Пагародна будзе грэбля і мост, пасля іх прамая дарога абсаджаная дрэвамі якая ідзе да крыжа, ад якога ўлева за некалькі стаяў бачны новазабудаваны фальварак, а за ім за некалькі стаяў вёска Лапацішкі, ад крыжа дарога падзяляецца, адна дарога, абсаджаная дрэвамі, ідзе ўлева да двара Гародна, другая ўправа каля таго ж двара (ён будзе бачны злева), дарога так сама абсаджаная дрэвамі да кавярні, якая знаходзіцца недалёка ад двара, каля яго, па правым баку, за некалькі стаяў - бровар, з кавярні дарога абсаджаная дрэвамі праз грэблю і масток вядзе да вёскі Солішкі, да якой чвэрць мілі, каля Солішак дарога ўправа вядзе ў вёску, а ўлева пасля мастка ёсць адгалінаванне да вёскі Вайкунцы, якая бачна з гасцінца. Далей, едучы той самай абсаджанай дрэвамі дарогай па грэблі, якая ідзе праз гай Сола да самай Дзітвы, з грэблі бачны засценак і вёска Мілюшушкі, па рацэ Дзітва праходзіць мяжа паміж парафіямі Асоўскай і Радунскай.

**Дарога з Асавы да Тракеляў** дзе ёсць парафіяльны касцёл, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем. Патрэбна ехаць той жа дарогай, што і да Гераманішак аж да вёскі Падваранцы, якая знаходзіцца за чвэрць мілі ад плябаніі. У сярэдзіне вёскі вулічка паварочвае ўправа і праз малую грэблю і млынок падваранскі дарога ідзе прама і ўгору да Сакалоў, ад якіх, мінуўшы Лідскі гасцінец дарога ідзе да вёскі Занюны, якая ляжыць у палове мілі ад касцёла, мінуўшы Занюны, дарога прама праз лом і зараслі ідзе да Пяцюнаў, і тут заканчваецца Асоўская парафія і пачынаецца Тракельская.

**Дарога з Асавы да Воранава**, дзе ёсць парафіяльны касцёл, у кірунку на летні ўсход, Патрэбна ехаць той жа дарогай, што і да Гераманішак аж да Бастун, якія знаходзяцца ў палове мілі, адтуль праз ручай каля фальварка Бастуны, які будзе па правай руцэ, адтуль на Віленскі гасцінец, праехаўшы па якому некалькі дзесяткаў крокаў у кірунку на Воранава, міма бора па правай руцэ, злева будзе бачны фальварак Лапацішкі ксяндзоў Лідскіх піяраў, які ад гасцінца за некалькі стаяў. Далей тым жа гасцінцам да карчмы на пагорку, якая належыць фальварку Лапацішкі, пасля гэтай карчмы дарога ідзе цераз малую грэблю да Зялёнай карчмы яснавяльможнай пані маршалковай Лідскай, якая стаіць на гасцінцы на Воранава, праехаўшы трохі далей, будзе адгаліноўвацца дарожка да вёскі Рачкуны і фальварка Балотнікі, і тут заканчваецца Асоўская парафія і пачынаецца Воранаўская.

**Дарога з Асавы да Жырмун**, дзе ёсць парафіяльны касцёл, у кірунку на паміж поўднем і зімовым захадам, ад касцёла прама ў браму, ад іх па вуліцы выгараджанай па левай руцэ, і праехаўшы некалькі стай, будзе грэбля і плябанскі масток. Пасля мастка міма млына і праз вёску Біланцы яснавяльможнага пана Літоўскага польнага гетмана, адтуль прама ўгору да Жырмун. Па шляху ўправа будуць вёска Жылянцы (на зімовы ўсход, чвэрць мілі ад касцёла парафіяльнага), і тут заканчваецца Асоўская парафія і пачынаецца Жырмунская.

Парафія Гародзенска (ці Асоўская) не мяжуе з іншымі паветамі і ваяводствам, але цалкам з усімі вёскамі і мястэчкамі ляжыць у Лідскім павеце.

Гэтае апісанне сваёй парафіі напісаў і падцвердзіў уласнай рукой кс. **Ян Міхал Бароўскі**, пробашч Асоўскі.

*(Пераклад з польскай Леаніда Лаўрэша, мапы 1869 года.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Пачатак будаўніцтва гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе

На пачатку 1920-х гадоў, як дзяржаўная, была адноўлена Лідская гарадская гімназія, яна атрымала назву - гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Галоўным корпусам гімназіі, быў корпус па вул. 3-га Траўня, у 1925 г. філіял размяшчаўся *"пры адной з кароткіх і вузкіх вулачак, якія адходзілі ад Сувальскай і ўжо праз некалькі дамоў утыкаліся ў бліжняе балота. Быў гэта цесны двухпавярховы дом з цэглы. Класы былі невялікія, парты стаялі адна пры адной. Праходы паміж імі былі вузкія, кафедра напірала на першую з лавак, словам нязручнасцяў было вышэй галавы. Вучыліся тут мужчынскія класы ад першага па пяты. Тры старэйшыя - агульныя - і жаночыя класы размяшчаліся ў т.зв. галоўным корпусе, на вуліцы Трэцяга Траўня"* . Такім чынам, месца не хапала, і будаўніцтва новай гімназіі было неабходна.

Архітэктурны праект новай гімназіі быў распрацаваны варшаўскім архітэктарам Ежы Бэйлем (Jerzy Beill). Рэцэнзія на праект гімназіі нейкага "J.K." з шматлікімі чарцяжамі надрукавана ў варшаўскім часопісе "Архітэктура і будаўніцтва" № 3 за 1925 г. Абапіраючыся на гэтую рэцэнзію мы можам уявіць, як бачыў сабе гімназію Бэйль і параўнаць планаванае з рэальным будынкам, які і сёння з'яўляецца ўпрыгожваннем нашага горада.

Рэцэнзія пачынаецца з разважанняў пра ролю школы ў жыцці чалавека: *"Самымі прыемнымі ўспамінамі чалавека нашага часу з'яўляюцца ўспаміны пра зусім бестурботныя гады школьнага дзяцінства. Гэтыя ўспаміны арганічна звязаны з месцам навучання, са школай."* "J.K." адзначае, што характар будынка школы ўплывае на памятныя вобразы гадоў, праведзеных тут, і таму архітэктура школы з'яўляецца адным з элементаў навучання і выхавання сучаснага чалавека. *"Імкненне нашага часу цалкам свядома накіравана на тое, каб архітэктура магла мець, наколькі гэта магчыма, станоўчы ўплыў на душу дзіцяці"*.

Гэтыя намаганні адбіліся ў жаданні надаць будынку школы дастаткова простыя формы, як магчыма больш вялікія ўнутраныя прасторы і па магчымасці скараціць выкарыстанне цёмнага колеру, які аказвае негатыўны ўплыў на дзетак. Рэцэнзент адзначае, што, на праект зрабілі уплыў *"настроі любімага старога будынка піярскіх і езуіцскіх калегіюмаў*




***Праект Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Сітуацыйны план.***






**Праект Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Архітэктар Ежы Бэйль.**





**Праект Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Архітэктар Ежы Бэйль.**

*сярэдзіны і канца 19-га ст., створаныя творамі ... літаратуры - поўнымі сентыментальных ўспамінаў пра школу".*

Пераходзячы непасрэдна да праекту Лідскай гімназіі, аўтар піша, што ў спіс школ, знаходжанне ў якіх будзе даваць станоўчы ўплыў на інтэлект выхаванцаў, можна ўключыць гімназію ў г. Лідзе (праект архітэктара Ежы Бэйля). *"Гэты праект, незвычайна ясны ў мэтах і просты для разумення, таксама настойліва падкрэслівае, упадабанне праектантам гарманічных архітэктурных формаў, г.зн. упадабанне формаў наскрозь прасякнутых так званым "класіцызмам". Гэтыя характэрныя формы выклікаюць ў памяці старажытныя двары ў калегіюмах, або ліцэях, напрыклад - праектаваны ўнутраны двор гімназіі, дзе аркады дадаюць рамантыкі усяму будынку. У сувязі з тым, што планаваная гімназія займае толькі палову пляца, плошча прызначаная пад будаўніцтва гэтай школы, плануецца аўтарам такім чынам каб існавала магчымасць далейшага развіцця комплексу школьных будынкаў і таму забудова цалкам, мае ярка выражаны характар гарадскога квартала".* Вельмі цікавыя далейшая інфармацыя рэцэнзента, з якой бачна як архітэктар Бэйль і, верагодна, заказчык праекта бачылі перспектыву далейшага развіцця гімназічнага комплексу. Архітэктар паспрабаваў надаць комплексу школьных будынкаў выгляд, гарманізаваны з перспектывай навакольных вуліц. Праект прадугледжваў магчымасць таго, што на астатняй частцы пляца можа быць гарманічна пабудаваны другі будынак гімназіі, размешчаны аналагічна першыму. Будынкі дамоў для выкладчыкаў павінны былі будавацца па перыметры квартала і абмяжоўваць з усіх бакоў перспектыву школьных будынкаў, ажурныя сады жылых будынкаў, схавалі б двары і гаспадарчыя пабудовы з боку вуліцы.

Рэцэнзент "J.K." адзначае, што, будынак размешчаны згодна з патрабаванні таго часу для школ. Ён адступае на дастатковую глыбіню ад






***Праект Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Архітэктар Ежы Бэйль.***



***Праект Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Унутраны дворык з аркадай. Малюнак. Архітэктар Ежы Бэйль.***

дарог (што памяншае ўздзеянне шуму ад вулічнага руху), класы сонечныя, зарыентаваныя на ўсход ці захад, калідоры прасторныя і залітыя святлом, доступ да спартыўнай пляцоўкі вельмі добры, гардэроб распрацаваны такім чынам, каб выключыць таўханіну, трэніровачная зала, размешчаная ў цэнтры гімназіі, блізка да навучальных класаў ... *"Прастату ўнутраных інтэр'ераў адцяняюць толькі галоўная лесвіца, разлічаная на пэўны архітэктурны эфект і стварэнне перспектывы, ... рамантычныя аркады ў цэнтральным двары, ... павінны не толькі упрыгожваць, але і абараняць ад вятроў падчас халоднага надвор'я, што дазволіць маладым людзям заставацца на адкрытым паветры да позняй восені ... архітэктуры будынка з усходу, поўдня і захаду характэрны прастата і сур'ёзнасць, у поўнай адпаведнасці са спецыфікай будынка".*

З сітуацыйнага плана бачна, што з паўночнага боку гімназіі планаваўся вялікі двор, які павінен быў бы ісці на поўнач далёка за сучасную вуліцу Міцкевіча, на тэрыторыю сучаснага парка. Але, відочна, калі трохі пазней пачалі праектаваць калонію дзяржаўных дамоў (дом старасты, сучасны ЗАГС, які стаіць насупраць гімназіі, пабудаваны так сама па праекту Ежы Бэйля), дык ад жадання мець вялікі двор прыйшлося адмовіцца. Сюды ж, на поўнач, праектаваўся і манументальны галоўны уваход гімназіі. Дарэчы, пра планаваны паўночны фасад з планаваным галоўным уваходам, "J.K." піша, што ён не гармануе з астатнімі фасадамі гімназіі: *"... паўночны фасад, які з-за занадта багатых упрыгожванняў, трошкі ціснe на сярэднюю частку і робіць уражанне, што будынак мае некалькі іншы характар, а менавіта міжволі ўзнікае здагадка, што будынак прызначаны для ўрадавых інсты-*



***Будоўля  Лідскай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча.***

*туцый, напрыклад вайсковых ці ваяводскіх. Акрамя таго, можна запярэчыць, што, калі ўпрыгожванні будуць зроблены з гіпсу, дык верагодна, не збудуцца чаканні аўтара, што яны будуць выглядаць як быццам з высакароднах матэрыялаў, такіх як пясчанік, граніт, ці нават тэразіт. Выкарыстанне ж гэтых матэрыялаў - вельмі дорага і таму непрыдатна для будаўніцтва, якое ў той ці іншай форме будзе аплачваць дзяржава, якая мае вялікія фінансавыя цяжкасці".*

Улічваючы неабходнасць эканоміі і адсутнасць месца на поўначы, пры будаўніцтве зусім адмовіліся ад галоўнага паўночнага уваходу. Цікава параўнаць праект гімназіі з рэальна пабудаваным гмахам. Бачна, што рэалізаваны, моцна зменены праект, скасаваны галоўны паўночны уваход з прыгожай манументальнымі лесвіцай на тры паверхі знутры, таму лесвічныя маршы зроблены ва ўсходнім і заходнім флангах паўночнага корпуса, паўночны фасад мае толькі вокны, г.зн. прысутнічаюць моцныя змены ў агульным выглядзе. Бакавыя і паўдзённы фасады збольшага не памяняліся, ацаніць змены ва унутраным дворыку цяжка.

Як на мой густ, гмах захаваў "смак" піярскага калегіюма, выглядае гарманічна, мае строгія формы і з'яўляецца, можа, самай прыгожай пабудовай ў горадзе.

"J.K." закончыў сваю рэцэнзію такімі словамі: *"Нягледзячы на вышэйсказанае, варта аднак адзначыць, што гэты будынак, калі ён будзе пабудаваны, будзе адным з слаўных сведчанняў таго, ... дзяржава імкнецца аднавіць ... культуру ... вялікай, нябачнай сілы".*

Пра сур'ёзнае стаўленне бацькоў да вучобы дзяцей і да будаўніцтва новай гімназіі, сведчыць зарэгістраванае ваяводскімі ўладамі 28.12.1027 г. за № 8961197 як грамадскае аб'яднанне "Таварыства (кола) бацькоўскай апекі пры дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе".

У верасні 1928 г. Ваяводскае кіраванне - Дырэкцыя грамадскіх работ у Наваградку аб'явіла тэндар для будаўніцтва гмаха гімназіі, і справа перайшла у стадыю практычнай рэалізацыі. Тэкст аб'явы паведамляў:

***Аб'ява пра тэндар***

*Ваяводскае кіраванне - Дырэкцыя грамадскіх работ у Наваградку аб'яўляе тэндар на будаўніцтва будынкаў гімназіі ў Лідзе аб'ёмам каля 16250 м$^2$.*

*Падрыхтаваны камень і цэгла будуць перададзеныя па сабекошту.*

*Прапановы павінны быць прадстаўлены ў запячатаных канвертах да 12-й гадзіны апоўдні 29 верасня ў Дырэкцыю грамадскіх работ па вул. Гарадзенскай-6.*

*Прапанова павінна суправаджацца грашовым закладам (сума, якая ўяўляе сабой абавязацельствы бяспекі пры ўдзеле ў конкурсах і аўкцыёнах) 3% ад прапанаванай сумы.*

*Прапановы будуць ускрыты ў той жа дзень у 13 гадзін.*

*Дырэкцыя пакідае за сабой права выбару пад-*







***Лідская гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. 1938 г.***

*радчыка, магчыма правядзенне дадатковага тэндара і выкананне работ самастойна.*

*Цэны павінны быць указаны на адзінку працы і абапёрты на каштарыс, які можна атрымаць у Дырэкцыі, дзе таксама будуць дадзены падрабязныя тэхнічныя спецыфікацыі для выканання работ.*

*Дырэктар інж. А. Зубялевіч.*
*Наваградак, 19.IX 1928 г.”*

Ужо ў 1929 г. будынак гімназіі прыняў першых вучняў і да нашага часу выконвае функцыі выхавання і навучання моладзі нашага горада.

# Этапы прафесійнага навучання на шклозаводзе "Нёман"

## Частка 2

З пачаткам Другой Сусветнай вайны заходнія вобласці Беларусі ўвайшлі ў склад БССР. Шклозавод "Нёман" быў, вядома ж, нацыяналізаваны. Мірнаму жыццю перашкодзіла Вялікая Айчынная вайна. Пры адступленні савецкага войска мост цераз р. Нёман быў спалены. Завод пакінуты нерабочым [23].

Падчас фашысцкай акупацыі завод працуе на адной гаршковай печы. Асартымент вырабаў вельмі разнастайны, выконваліся выдзіманыя і прасаваныя вырабы, якія цалкам вывозіліся ў Нямеччыну. Нелегальна працоўныя выраблялі лямпавае шкло, шклянкі, шыбы "халявамі" і г.д. для ўласных патрэб і абмену на прадукты харчавання ў навакольных вёсках Лідскага, Наваградскага, Дзятлаўскага, Іўеўскага раёнаў.

Адразу пасля вызвалення Бярозаўкі (9 ліпеня 1944 г.) жыхары пасёлка прыступілі да аднаўлення завода. Вялікая частка мужчынскага насельніцтва была мабілізавана ў шэрагі Чырвонай Арміі, таму завод аднаўлялі пераважна жанчыны і падлеткі.

Аднаўленне праходзіла ў цяжкіх умовах, бо бракавала будаўнічых матэрыялаў, абсталявання, рабочых. За гады вайны і часовай акупацыі шкляная прамысловасць БССР страціла асноўную частку сваіх кваліфікаваных працоўных і інжынерна-тэхнічных кадраў. З 5172 працоўных, занятых у шкляной прамысловасці напярэдадні Вялікай Айчыннай, пасля вызвалення рэспублікі было ўлічана толькі 213 чалавек [8, с.124]. На шклозаводзе "Нёман" у 1945 г. працавала 393 чалавекі [5, с.58] (па іншых дадзеных - 258 [23]), таму завод да канца 1945 г. вырабіў шклопосуду на 80% ад планавага задання [20].

Варта адзначыць, што мастацкае шкло ў паваенны час выраблялі два заводы - Барысаўскі імя Ф.Э. Дзяржынскага і "Нёман". Асартымент беларускага мастацкага шкла ў 1940-я гг. быў абмежаваны з мэтай максімальнага задавальнення побытавым шклом.

Як непазбежны вынік вайны ў 1940-я гг. прадукцыя беларускіх заводаў мастацкага шкла насіла чыста таварны характар, яе развіццё характарызавалася толькі колькаснымі паказчыкамі. Калі для задавальнення элементарных побытавых запатрабаванняў бракавала простых бутэлек, графінаў, талерак, заводы ў адпаведнасці з вытворчым планам на гэтыя вырабы выпускалі як мага вялікімі тыражамі посуд масавага карыстання, прызначаны толькі для вузкаўтылітарных мэтаў. Мастацка-эстэтычны бок прадукцыі ў планава-вытворчай дзейнасці заводаў не ўлічваўся.

Прафесійных мастакоў шкла і мастацка-эксперыментальнага цэнтра па распрацоўцы ўзораў для шкляной прамысловасці ў рэспубліцы не існавала. Шкляныя вырабы выпускаліся па даваенных узорах.

Як вядома, падчас вайны "майстры першай рукі", ды і вялікая частка спецыялістаў была знішчана: хто загінуў ад рук акупантаў, беручы ўдзел непасрэдна ў баявых дзеяннях, хто стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Многія ацалелыя выехалі ў Польшчу.

Ды і сістэма вытворчасці ўжо становіцца іншай - савецкай. Раней шкляныя вырабы выконвалі па заказным прынцыпе (пад замову) дробнымі эксклюзіўнымі партыямі, г.зн. пэўны замовец даручаў вырабіць вызначаную колькасць тавару, і аплата залежала ад якасці вырабу. Менавіта па гэтай прычыне майстар быў больш запатрабаваны і атрымліваў больш за звычайнага дапаможнага рабочага, бо меў высокую кваліфікацыю і велізарны досвед. Савецкая сістэма мела на ўвазе сабой планавы метад, г.зн. прадпрыемству за вызначаны тэрмін неабходна было вырабіць устаноўленую колькасць тавару - паточная вытворчасць гатункавага посуду. Змянілася і аплата працы - зараз яна стала фіксаванай, незалежнай ад кваліфікацыі і



*Музычная школа, дзе знаходзіўся вучэбны корпус РВ-17. Фота 1950-х гг. з асабістага архіву І.І. Абізура (былы дом маці Ю. Столе)*

досведу. Ад кожнага па магчымасці - кожнаму па запатрабаванні.

Асаблівасцю ж паваеннага часу было тое, што катастрафічна бракавала тавараў шырокага спажывання, нават самага неабходнага (лямпавае і аконнае шкло, аптэкарскі посуд, ізалятары). Зразумела, што невялікая колькасць майстроў іх вырабіць ва ўстаноўлены тэрмін за ўказаны час была проста фізічна не ў стане. Паўстала патрэба ў кваліфікаваных рабочых. Зразумела, што ацалелыя і пакінутыя спецыялісты не маглі навучыць неабходную колькасць рабочых для вытворчасці шкла. Менавіта таму ўлетку 1945 г. у Смаленскую вобласць, дзе да вайны быў шклозавод "Чырвоны сцяг", і які ў вайну быў цалкам разбураны і не падлягаў аднаўленню, быў камандзіраваны начальнік цэха апрацоўкі Казімір Андрэевіч Сцефановіч з мэтай запрасіць пераехаць у Бярозаўку яго былых працаўнікоў. У выніку праведзенай агітацыі прыехалі 245 чалавек дарослых і дзяцей [5, с.58]. Тады ж паўстала пытанне пра арганізаваны набор рабочых праз рамесную вучэльню.

Галоўнай задачай рамеснай вучэльні пасля вайны стала падрыхтоўка спецыялістаў шкляной справы. Натуральна, гаворка ідзе не пра высокакваліфікаваных рабочых, як "майстры першай рукі", а пра звычайных рабочых, здольных выканаць план па вырабе гатункавай прадукцыі.

**Рамесная вучэльня была адкрыта 1 верасня 1945 г.** [9, с.416; 21, з. 23]. Тут навучаліся дзеці мясцовых майстроў-шкляроў, дзеці з дзетпрыёмнікаў і дзіцячых дамоў, а таксама тыя, якія пераехалі сюды са Смаленскай вобласці, куды яшчэ часта ездзілі Юры Мікалаевіч Гукаў і Казімір Андрэевіч Сцефановіч для вербавання моладзі [3]. Яны агітавалі падлеткаў проста на вуліцы і адразу казалі, што пасля заканчэння вучобы ўсе павінны будуць "адпрацаваць 4 гады там, куды накіруюць" [3].

Пасля таго, як набіралася група, са станцыі "Крапівінскай" ехалі на пасажырскім цягніку, які ішоў праз ст. "Нёман" (в. Сялец) без прыпынкаў. Машыніста прасілі, каб той спыніўся на станцыі, але ён не згаджаўся, таму, калі цягнік пад'язджаў да яе, па загадзе К.А. Сцефановіча [3] ці Ю.Н. Гукава [23] дзеці адчынялі дзверы вагона, кідалі рэчы і скакалі самі. Бывала, што машыніст, бачачы гэта, спыняў цягнік. Адтуль дабіраліся на "кукушцы", якая вазіла будматэрыялы на завод [3].

Першым дырэктарам вучэльні быў **Шатаў Іван Максімавіч**. Нарадзіўся ён 18 красавіка 1914 г. у Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці. З пачаткам вайны, не давучыўшыся ў педагагічным тэхнікуме на фізіка-матэматычным факультэце, добраахвотна ідзе на фронт. За баявыя заслугі быў узнагароджаны медалём "За адвагу" (03.01.1943) і ордэнам "Айчыннай вайны" II ступені (01.02.1943) [30]. У 1943 г. быў паранены ў галаву і нагу, пасля чаго дэмабілізаваны з фронту на Далёкі Ўсход, дзе працаваў палітпрацаўнікам [4]. 19 красавіка 1945 г. загадам працоўных рэзерваў адпраўлены ў рамесную вучэльню Наваград-



***Шатаў І.М. Фота 1947 г. з асабістага архіву Сычэўскай Л.І.***

ка, дзе "за добрую арганізацыю культурна-выхаваўчай працы" яму была абвешчана падзяка 17.09.1945 [30]. А 8 кастрычніка 1945 г. І.М. Шатаў быў "пераведзены на пасаду дырэктара рамеснай вучэльні на базе шклозавода "Нёман"" інспектарам па кадрах аблпрацрэзерваў у адпаведнасці з загадам па кіраванні № 182 [30]. Дзякуючы гэтаму запісу зараз ужо не ўзнікае сумневаў, што рамесная вучэльня ў Бярозаўцы працавала ў 1945 г.

Рамесная вучэльня была арганізавана для падрыхтоўкі вядучых прафесій - выдзімальнік і шліфоўшчык. Навучанне ў вучэльні працягвалася два гады. Было створана 5 груп, так званых звязаў: 3 групы па выпрацоўцы шкла - хлопчыкі (выдзімальнік) і 2 групы апрацоўкі - дзяўчынкі (шліфоўшчык). За гады яе дзейнасці было выпушчана 270 чалавек: 1947 г. - 150 чалавек, 1948 г. - 120 чалавек. У далейшым яны маглі працаваць толькі па атрыманай спецыяльнасці, пра што сведчыць той факт, што няправільнае *"выкарыстанне начальнікамі цэхаў маладых рабочых, якія скончылі РВ...прыводзіць да зніжэння прадукцыйнасці працы"* [16].

Навучаліся ў вучэльні дзеці 14 - 18 гадоў [34], якія мелі 4 класы адукацыі [3]. Тэрмін навучання быў два гады. Вучэльня знаходзілася тады ў будынку сучаснай Дзіцячай музычнай школы, дзе навучэнцы навучаліся наступным прадметам: вытворчае навучанне, спецыяльная тэхналогія, матэрыялазнаўства (гэтым тром прадметам надавалася асабліва значэнне), чарчэнне, фізіка, матэматыка, руская мова, паліт-



***Белазёрава Феня ў форме навучэнкі РВ-17. 1947(48)***

*Фота з асабістага архіву Белазёравай Ф.*

заняткі, фізічная падрыхтоўка (па іх давалі агульнае паняцце), таксама ў атэстаце адзначалася і паводзіны адзнакай [2]. У першай палове дня пасля сняданку вывучаліся "агульнаадукацыйныя" прадметы ў вучэльні, дзе не было парт, а стаялі толькі лаўкі, пасля чаго абедалі і ішлі на завод, дзе вывучалі і тут жа замацоўвалі веды па спецпрадметах з дапамогай майстроў Шыліна Антона Іванавіча па выпрацоўцы і Шчарбакова Антона Еўдакімавіча па апрацоўцы [3]. Уступных і выпускных іспытаў не было.

Паход на практыку быў розным. Звычайна хадзілі звязам і спявалі песні. Адзін з навучэнцаў, **Анатоль Сяргеевіч Возераў**, склаў вершы, якія потым сталі песнямі і як бы "гімнам" завода [28]:

***Наш завод***

*В поселке березы, кудрявые сосны,*
*И Неман здесь рядом течёт,*
*Подняв свои трубы, стоит величаво*
*Наш "Неман" - стекольный завод.*
*Здесь детство мое пролетело когда-то*
*И юность прошла чередой,*
*И где бы я ни был, и что б я ни делал*
*Я в мыслях всегда был с тобой.*
*Бывал я на юге, на Дальнем Востоке,*
*Среди заполярных широт,*
*Повсюду дыханьем твоим был согрет я -*
*Мой "Неман" - стекольный завод.*
*И радость труда, и рабочую гордость,*
*Познал я в цехах заводских,*
*С хорошей закалкой в твоем коллективе*



***Возераў А.С.***

*Фота з асабістага архіву Мяркулавай Н.І.*

*Детей воспитали своих.*
*Заводов у нас по стране очень много,*
*Но ты для меня лишь один,*
*И в счастье, и в горе всегда я с тобою,*
*С тобою до самых седин.*

***Два Немана***

*По лугам и лесам, белорусским местам,*
*Меж задумчивых елей и сосен*
*Неман плавно течет, свои воды несет*
*И весною, и летом, и в осень.*
*Утро - в небе заря, серебрится роса*
*Солнцем в зеркале неманских вод,*
*Отраженье зари мы в цеха принесли*
*На стекольный наш "Неман"-завод.*
*Неман плавно течет, свои воды несет*
*В городах, деревнях и поселках,*
*Лучезарный тот свет, отражаясь горит*
*В хрустале - на витринах и полках.*
*Радость людям дают, вдохновляя на труд*
*Оба Немана в нашем краю,*
*Счастье жизни в труде и в земной красоте*
*И об этом я в песне пою.*

На практыку, а затым і на працу хадзілі па гудку, бо гэта азначала, што ёсць ток, з якім часта былі перабоі. І нядзіўна, бо першыя паваенныя гады былі асабліва цяжкімі. Бракавала сыравінных і вогнетрывалых

матэрыялаў, былі перабоі з палівам. Вельмі часта рабочыя змушаны былі спыняць на час сваю працу, каб расчышчаць ад снежных намецяў вузкакалейную чыгунку ці нарыхтоўваць дровы для газагенератараў.

Спачатку былі 4 кароткія гудкі, а затым пачалі даваць 1 доўгі. Часта даводзілася працаваць і ўначы, бо вытворчасць была бесперапыннай, а па незалежных ад працоўных акалічнасцях адбываліся збоі ў працы. І навучэнцы, каб не спазніцца, па гудку беглі на завод і пералазілі нават цераз плот [3].

Цяпер варта асобна распавесці пра ўмовы пражывання навучэнцаў.

Кожны рамеснік забяспечваўся вопраткай (боты, вайсковая форма, а на зіму выдавалі шынель), якая была новай, пашытай па замове для салдатаў [3], ложка-месцам у бараку, які знаходзіўся ў будынку сучаснай Дзіцячай музычнай школы, і бясплатным харчаваннем, якое было вельмі бедным. Разумеючы, што на галодны страўнік дзеці мала чаму навучацца, тым больш, што па суботах і нядзелях яны ўдзельнічалі ў аднаўленчых работах як на заводзе, так і ў самім пасёлку, дырэктар вучэльні звяртаецца ў Навагрудскі выканкам (Бярозаўка тады ўваходзіла ў Навагрудскі раён) з просьбай пра адкрыццё пякарні. Заслухаўшы даклад, выканкам райсавета адзначыў, што *"адкрыццё пякарні ў Бярозаўцы з'яўляецца неабходным, бо на гэты час арганізавана і прыступіла да заняткаў рамесная вучэльня. Дзеці атрымліваюць муку замест хлеба, што з'яўляецца ў корані ненармальнай з'явай. Завод "Нёман" у Бярозаўцы налічвае 600 чалавек працоўных, якія таксама атрымліваюць муку замест хлеба"* [1].

Пякарня была арганізавана сапраўды хутка: пытанне пра яе быў паднята 22 кастрычніка 1945 г., а ў рэзалюцыі гаварылася, што адкрыць яе трэба не пазней як 27 кастрычніка 1945 г. Для гэтага быў накіраваны адзін майстар з хлебакамбіната "для арганізацыі першай і другой выпечкі дабраякаснага хлеба", а старшыня Бярозаўскага сельсавета выдзеліў і замацаваў "за пякарняй неабходную колькасць коней для штодзённага падвозу паліва" [1].

Як відно, кіраўніцтва вучэльні клапацілася пра сваіх падапечных не на словах: дзеці былі забяспечаны вопраткай, ежай, мелі месца, дзе жыць. І гэта адбывалася ў 1945 г.

Пражывалі навучэнцы ў інтэрнаце: для дзяўчынак быў 2-павярховы будынак, які знаходзіўся перад сучаснай крамай "Аблічча", а для хлопчыкаў - па вуліцы Школьнай (тады Касцёльнай). У інтэрнаце знаходзілася сталовая, дзе кармілі бясплатна. Давалі на дзень 500 гр. хлеба, таксама былі і агароднінныя супы, бульбяныя стравы і "амерыканскае" сухое малако. Часам давалі і цукеркі [3].

Велізарную дапамогу вучэльні аказваў і шклозавод. Спачатку, мяркуючы па дакументах, майстры па цэху выпрацоўкі і апрацоўкі праводзілі тэхмінімум сярод новапрыбылых працоўных [13; 14; 18] і, у залежнасці ад выніку, падрыхтоўкай кадраў займаўся сам шклозавод [9] ці гэта адбывалася "індывідуальным



***Трыгубаў Юлій і Пруднікаў Васіль у форме навучэнцаў РВ-17****. Фота 12.02.1948 г.*



***Мяркулава (Рафаенкава) Н.І.*** *Фота 08.05.1948 г.*
*Фота з асабістага архіву Мяркулавай Н.І*

спосабам навучання" [20]. З адкрыццём вучэльні некаторыя рабочыя "пераходзілі на вучобу", прычым з працы іх разлічвалі [20]. Можна выказаць здагадку, што ў вучэльні яны павялічвалі кваліфікацыю ці перавучваліся.

Дырэктар шклозавода В.І. Крэнь хадайнічаў пра паляпшэнне побытавых умоў для маладых рабочых. Па яго загадзе неабходна было рабіць *"рэгулярна 3 разы ў месяц лазню маладым рабочым, рэгулярна праводзіць мыццё бялізны, рэгулярна мыць падлогі"*, а *"ў адносінах паляпшэння харчавання маладым рабочым дазваляю Галоўнаму бухгалтару Дзерваедаву Г.Т. выпісваць з дапаможнай гаспадаркі штодня па 14 кг бульбы па цвёрдых коштах"* [15].

Меры прымаліся і па прадухіленні эпідэмій. Так, напрыклад, у 1948 г. былі прыняты меры *"ў мэтах папярэджання захворвання паразітарнымі тыфамі ў рабочым пасёлку"*, для чаго дырэктар шклозавода пастанавіў:

- *"зрабіць старанную санітарную апрацоўку і дэзінфекцыю інтэрната маладых рабочых і ў далейшым праводзіць такія не радзей аднаго разу ў месяц",*
- *"мыццё падлог у інтэрнаце маладых рабочых праводзіць не радзей аднаго разу ў тры дні",*
- *"каменданту пасёлка тав. Баранаву і заггасу Барысаву Т. аказваць дапамогу РВ №17 у паляпшэнні санітарнага стану памяшкання інтэрнатаў"* [17].

Амаль усе выпускнікі рамеснай вучэльні пасля яе заканчэння засталіся працаваць на шклозаводзе, утварыўшы новыя працоўныя дынастыі. Так, у заводскім архіве захаваўся загад, дзе паказаны 73 прозвішчы навучэнцаў РВ № 17, прынятых на працу на шклозавод у 1948 г. з указаннем кваліфікацыі і разраду [19].

Важны вынік дзейнасці рамеснай вучэльні заключаецца таксама і ў тым, што калі ў 1945 - 1947 гг. завод ні разу не выконваў план па выпуску валавай і таварнай прадукцыі больш як на 80%, то, дзякуючы прынятым высілкам, сітуацыя ў 1948 г. змянілася - завод упершыню за паваенныя гады выканаў вытворчы план па ўсіх асноўных тэхніка-эканамічных паказчыках. Перадавыя брыгады, дзе было нямала выпускнікоў вучэльні, па





***Выпуск 1948 г.***
*Фота з асабістага архіву Аўраменкава І.Я.*



***Навучэнцы РВ-17. 8 лістапада 1949 г.***
*Фота з асабістага архіву Аўраменкава І.Я.*



***Атэстат РВ № 17, 1948 г.***
*Асабісты архіў Багамолавай Г.М.*



***Атэстат РВ № 17, 1949 г.***
*Асабісты архіў Гузікавай А.В.*



***Рабочыя будні пасля заканчэння РВ-17. На фота Рафаенкава Ніна, Данільчык Іван, Саўчанкава Надзея, Суднік Іосіф Іванавіч (брыгадзір)***



***Будынак на плошчы, дзе быў інтарнат для дзяўчынак.***
*Фото 1958 (1960) з асабістага архіву Хаванскай Л.*

выніках сацспаборніцтва перавыконвалі план на 140 - 195% [23].

Апроч самой працы са шклом, былыя навучэнцы прымалі актыўны ўдзел у аднаўленні разбураных падчас вайны цэхаў і будаўніцтве новых печаў.

У 1948 г. вучэльня спыніла дзейнасць. Была падрыхтавана неабходная колькасць кваліфікаваных рабочых, завод пачаў выконваць план і неабходнасць у ёй адпала. Пачала сваю дзейнасць **"Школа майстроў"**, дзе за майстрам замацоўвалася некалькі чалавек, і такім чынам адбывалася навучанне.

У 1962 г. дырэктарам шклозавода "Нёман" стаў **С.Л. Карзюк**, які займаў гэты пост да 1981 г. Пры ім значна змянілася жыццё, як на заводзе, так і ў горадзе. У 1960-я гг. па яго ініцыятыве пачалася рэканструкцыя і пашырэнне вытворчасці, што выявілася ва ўводзе новых магутнасцяў, тэхналогій і арганізацыі вытворчасці. Дзякуючы прынятым мерам да канца 1970-х шклозавод "Нёман" упэўнена ўвайшоў у лік перадавых прадпрыемстваў галіны, чые вырабы высока цаніліся як у рэспубліцы, так і за мяжой.

Пашырэнне вытворчасці натуральна выклікала і рост ліку працоўных на шклозаводзе. Так, калі ў 1965 г. іх налічвалася 2174 чалавекі, то ў 1980 г. ужо 4899 [25, з.16, 20].

"Школа майстроў" ужо не



***С.Л. Карзюк**. Архіў НДПЛ.*



***"Школа майстроў".** Фота 1971 (73) г.*
*Асабісты архіў Карабухіна Ю.В.*

паспявала забяспечваць завод неабходнай колькасцю спецыялістаў. У пацверджанне гэтаму можна прывесці той факт, што ў новых цэхах значнае месца займалі выпускнікі Менскага ГПТВ-107 [26, з.21, 24].

З часам неабходнасць у высокакваліфікаваных рабочых пачала адчувацца ўсё больш востра, бо пашыралася вытворчасць не толькі на Бярозаўскім заводзе, але і ў Барысаве і г.д. Менавіта таму ў 1979 г. на базе шклозавода "Нёман" адкрыўся **"Навучальна-вытворчы камбінат"**, у якім адбывалася навучанне моладзі агульнаадукацыйных школ (9 - 10 класаў) спецыяльнасцям выдзімальнік і шліфоўшчык шклавырабаў. Камбінат ужо якасна адрозніваўся ад "Школы майстроў": тут ужо прысутнічала і тэарэтычнае навучанне (ахова працы і тэхніка бяспекі, тэхналогія шкла, эканоміка). Выкладчыкамі былі інжынеры, намеснік начальніка цэха выпрацоўкі завода і эканаміст па працы, гэта значыць службоўцы завода [21]. Але зразумела, што падрыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў камбінат не мог, бо апроч практычнага навучання, якое было на належным узроўні, неабходна і добрая тэарэтычная частка, а яе забяспечыць людзі, якія не мелі неабходнай для гэтага адукацыі, не маглі. Тым больш, што камбінат не рыхтаваў спецыялістаў, а ўсяго толькі займаўся навучаннем старшакласнікаў для наступнай працы на заводзе. Заўважым таксама, што навучанне адбывалася ў кабінетах, выдзеленых для гэтага ў заводакіраўніцтве.

Нягледзячы на тое, што камбінат ссунуў працэс падрыхтоўкі кадраў з мёртвай кропкі, але ўсё ж спецыялістаў у поўным сэнсе падрыхтаваць ён быў не ў стане. Менавіта таму С.Л. Корзюк вырашае адрадзіць вучэльню на базе шклозавода. З 1981 г. з мэтай атрымання ўсіх неабходных дакументаў ён звяртаецца ў Лідскі райкам, Гарадзенскі абкам, Міністэрства будматэрыялаў і Міністэрства адукацыі.

У 1981 г. замест "Школы майстроў" на месцы былога сталярнага цэха вырас корпус навучальнай установы. Вучэльня была абсталявана гаршковай шкловарнай печчу з 14 гаршкамі, мела леер, апечкі для адпалу вітражоў, тэмперныя печы, шліфавальныя станкі. У новым будынку апроч месца для практычнага навучання былі і памяшканні для тэарэтычных заняткаў.

У гэтым жа годзе С.Л. Карзюк пайшоў на пенсію, але сувязі з заводам не перапыніў і ідэю пра адкрыццё вучэльні не кінуў. Дзякуючы яго стараням яна было адкрыта ў 1982 г. пад найменнем **"Нёманская тэхнічная вучэльня № 159 шкляной прамысловасці"** на базе "Школы майстроў" з мэтай "павелічэння падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых для арганізацый і прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР" [22]. Дырэктарам стаў **Гальперын Леанід Ібрагімавіч**, які займаў гэтую пасаду з 01.09.1982 г. па 24.07.1988 г.

У першы навучальны год быў устаноўлены план прыёму на 270 чалавек.

Адчувальную дапамогу вучэльні аказваў шклозавод і Гарадзенскае абласное кіраванне прафтэхадукацыі, што выявілася ў наступным:

1. Стварэнне і ўмацаванне навучальна-матэрыяльнай базы і рамонт вучэльні;

2. Бязвыплатная перадача ва ўстаноўленым парадку абсталявання, механізмаў, агрэгатаў, матэрыялаў, прыладаў для навучальных мэт;

3. Падбор інжынерна-педагагічных кадраў;

4. Арганізацыя выканання плану прыёму і забеспячэння неабходнымі навучальнымі планамі, праграмамі, навучальна-навочнымі дапаможнікамі і інструктыўна-метадычнай літаратурай;

5. Выдзялення для вытворчай практыкі навучэнцаў працоўных месцаў і працы, што адпавядае патрабаванням навучальных планаў і праграм;

6. Забеспячэнне своечасовай і поўнай аплаты за фактычна выкананую працу ў перыяд практыкі і вытворчага навучання;

7. Вырашэнне пытанняў па забяспечанні інжынерна-педагагічных работнікаў жылой плошчай ва ўстаноўленым парадку.



***Будынак НДПЛ. Сучасны выгляд.***

04.07.1984 г. ТВ-159 ператворана ў **"Нёманскую сярэднюю прафесійна-тэхнічную вучэльню №116 шкляной прамысловасці"**, а з 11.01.1985 г. - **"Нёманская прафесійна-тэхнічная вучэльня № 116 шкляной прамысловасці"**.

З 24.07.1988 па 17.03.1989 дырэктарам вучэльні была **Пыш Рэгіна Браніславаўна**, а з 17.03.1989 па 21.08.1989 - **Андрушкевіч Мікалай Адамавіч**. З 21.08.1989 г. дырэктарам з'яўляецца **Разумовіч Генадзь Мікалаевіч**, пры якім з'явіліся новыя спецыяльнасці: швачка, аператар ЭВМ, тынкоўшчык, маляр, абліцоўшчык-плітачнік.

06.12.2000 НПТВ-116 было пераназвана ў **"Нёманскую дзяржаўную прафесійна-тэхнічную вучэльню № 116 шкляной прамысловасці"**, а 29.11.2006 - у **"Нёманскі дзяржаўны прафесійны ліцэй"**.

Сёння ліцэй валодае двума навучальнымі карпусамі, дзе размешчаны прасторныя навучальныя кабінеты і сучасна абсталяваныя майстэрні.

Шматлікія навучэнцы праз многія гады дагэтуль памятаюць час, праведзены ў рамеснай вучэльні. Так Н.І. Мяркулова да вечара сустрэчы напісала наступны верш:

*Сегодня нас на вечер встречи пригласили,*
*Быть может, неспроста,*
*Мы можем вспомнить нашу жизнь*
*Много, много лет спустя.*

*Свои стихи я бывшим всем*
*ремесленникам посвящаю,*
*Набраться мужества, терпенья заклинаю,*
*Воспоминанья наши будут нелегки,*
*Что вызовут в душе и памяти мои стихи.*

*Мы пришли в РУ-17*
*В сорок пятом и шестом.*
*Было нам, кому 15, а кому 16,*
*Когда покинули свой дом.*

*Новый дом свой и причал*
*Мы в Березовке нашли,*
*На заводе - за станками,*
*Годы лучшие прошли.*

*А помните? Мы форму ведь военную носили:*
*Фуфайки, гимнастерки, шапки-ушанки и шарфы,*
*Парадные шинели с эмблемою "РУ" на пряжках,*
*Широкие солдатские ремни,*
*И в довершение до формы,*
*Не по размеру кирзовые сапоги.*

*Но тогда все было как бы в пору, все к лицу,*
*Как воину-солдату иль бойцу.*
*А чем мы были не солдаты?*
*Вот разве возрастом да ростом маловаты.*

*Мы строем, как военные ходили,*
*И песни строевые заводили,*
*Но жизни радовались мы, как все,*
*Которая с Победой в сорок пятом вернулась по весне.*

*И как военные, рвались мы в бой,*
*Но только бой наш был тогда сугубо трудовой.*
*А трудностей мы не боялись -*
*Боялись, чтобы в стороне от всех мы не остались.*

*И вот уж 18 - 19 девчонке и юнцу.*
*Тогда нам все работы были по плечу:*
*На станции вагоны разгружать с углём,*
*Ремонт узкоколейки под дождём…*

*Даже ремонт печей без нас не обходился.*
*Только тогда из нас никто ведь этим не гордился:*
*Мы твердо знали, что трудиться*
*Должны не для того, чтобы гордиться.*

*А если и гордились, то одним -*
*Что Родина поднялась из руин,*
*Что в том и наша есть заслуга,*
*Чтобы сегодня жить, дышать, любить друг друга.*

*Нам часто жизнь подножку подставляла,*
*Но мы вставали, шли наперекор судьбе.*
*Она безжалостно, коварно нас ломала,*
*Но выстоять тогда неведомая сила*
*помогала нам в беде.*

*И вот, здесь нами прожито не зря уж более полвека,*
*С достоинством и чувством человека*
*Мы трудною дорогой шли,*
*Но счастье здесь, в Березовке, мы обрели.*

*Завод нам был отцом родным,*
*Он в нашей жизни много значил,*
*Он вместе с нами стал седым -*
*Об этом говорить нельзя иначе.*

*Он нас взрастил и воспитал*
*И всем путевки в жизнь нам дал.*
*Сегодня мы об этом вспоминаем*
*И вновь свою судьбу переживаем.*

*В своих стихах я о былом, о настоящем говорю:*
*В них и судьбу, и жизнь благодарю.*
*Они воспоминаниями мне душу бередят,*
*Они о смысле жизни нашей говорят.*

*Заводу нашему давно за сто уж*
*И нам за семьдесят.*
*Наше время прожито и не вернуть назад.*
*Но радости и горести тогда в цехах делили мы,*
*И можем сказать с гордостью:*
*"Ты - наш завод, ты как отец нам,*
*Мы - дети и воспитанники бывшие твои".*

*Как видите, стихи просты, но нелегки,*
*Под облаками не витают*
*И в зале шутки, смех не вызывают:*
*Они по смыслу тяжелей,*
*Они о жизни, о судьбе простых людей* [29].

**Літаратура:**

1. Архіўны выпіс на запыт ад 27.10.1997 г. № 01-30/49 / Архіў Нёманскага дзяржаўнага прафе-сійнага ліцэя
2. Атэстат Рафаенкавай Н.І. / Асабісты архіў Мяркулавай Н.І
3. Успаміны Меркулавай Н.І / Асабісты архіў Карабухіна Ю.У.
4. Успаміны Сычэўскай Л.І. / Асабісты архіў Карабухіна Ю.У.
5. Герасімовіч Н.Ф. Шклозавод "Нёман". Кароткі агляд станаўлення і развіцці. Да 120-годдзя заснавання завода. - Ліда, 2003. - 228 з.
6. Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т.4.: 1917 - 1941 гг. / Рэдкал.: С.В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш.; Рэд. тома Л.М. Дробаў, В.Ф. Шматаў. - Мн.: Навука і тэхніка, 1990. - 352 з.: іл.
7. Даль В.И. Толковый словарь живого великорусского языка. В 4 т. Т.1.: А - З. - 4-е изд.. стереотип. - М.: Рус. яз. - Медиа, 2007. - 699с.
8. Жаврид М.Ф. Белорусское стекло - Мн., "Наука и техника", 1969. - 192 с.
9. Памяць: Ліда. Лідскі р-н: Гіст.-дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Рэдкал.: В.Г. Баранаў і інш.; Маст. Э.Э. Жакевіч. - Мн.: Беларусь, 2004. - 566 с.: іл.
10. Приказ № 30 от 20.03.1945 / Архив стеклозавода "Неман".
11. Приказ № 244 от 25.10.1946 / Архив стеклозавода "Неман".
12. Приказ № 257 от 12.11.1946 / Архив стеклозавода "Неман".
13. Приказ № 277 от 03.12.1946 / Архив стеклозавода "Неман".
14. Приказ № 98 от 19.05.1947 / Архив стеклозавода "Неман".
15. Приказ № 337 от 09.10.1947 / Архив стеклозавода "Неман".
16. Приказ № 419 от 26.12.1947 / Архив стеклозавода "Неман".
17. Приказ № 43 от 03.03.1948 / Архив стеклозавода "Неман".
18. Приказ № 55 от 07.02.1948 / Архив стеклозавода "Неман".
19. Приказ № 326 от 24.07.1948 / Архив стеклозавода "Неман".
20. Приказ № 443 от 23.12.1948 / Архив стеклозавода "Неман".
21. Приказ № 130 от 21 августа 1979 г. / Архив стеклозавода "Неман".
22. Приказ №105/146 от. 14 июля 1982 г. / Архив НГПЛ.
23. Сакин М. История стеклозавода "Неман". К 95-летию завода. / Архив стеклозавода "Неман".
24. Система профессионально-технического образования Гродненской области. 60 лет. - Гродно, "Гродненская типография", 2000. - 144 с.
25. Статычнюк И.П. Условия труда рабочих Дятьковской хрустальной фабрики в конце XIX - начале XX веков.
26. Стеклозавод "Неман". 115 лет.
27. Стекольный завод "Неман". - Мн., "Полымя", 1983. - 64 с.
28. Стихи Озерова А.С. / Личный архив Меркуловой Н.И.
29. Стихотворение Меркуловой Н.И. / Личный архив Меркуловой Н.И.
30. Трудовая книжка Шатова И.М. / Личный архив Сычевской Л.И.
31. Фасмер Макс. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. Т.1. (А - Д) - 2 изд., стереотип. - М., Прогресс, 1986. - 576 с.
32. Энциклопедический словарь. Т.IX. (Грави-лат - Давенант) / Под ред. Ф.А. Брокгауз, И.А. Ефрон. - Спб., Типо-Литография И.А. Ефрона, 1898. - 525с.
33. Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло: XIX - пачатак XX ст. - Мн.: Навука і тэхніка, 1984. - 143 с., іл.
34. Яхонтова О. Как в сказке замки из стекла, но не на миг, а на века // Лідская газета, 2008, 1 лістапада.

**Аўтары:**
частка 1 - ***Карабухін Юры Ўладзіміравіч,***
частка 2 - ***Буяк Андрэй Фаміч.***

***Ірэна Стасевіч-Ясюкова***

# ЛІДЗЯНКА

## ПРА МАРЫЮ СТАСЕВІЧ - МАЮ МАЦІ - УСПАМІНЫ

***Жыхарам краёў наднёманскіх,***
***іх продкам і нашчадкам,***
***раскіданым па свеце,***
***а таксама сімпатыкам Крэсаў***
***букет успамінаў прапаную.***
***Аўтарка.***

**Уступнае слова,**
**якое належыць прачытаць**

Нягледзячы на назву кніжкі, мая мама зусім не з'яўляецца адзінай цэнтральнай яе постаццю. Паралельна мы вядзём размову аб Крэсах - Лідзе, Маладзечне і Вільні, дзе адбываліся падзеі, а таксама аб рэках Нёман, Дзітва, Лідзейка, пясчаных сасновых лясах, бярозавых гаях на ўзгорках - шматковай мазаіцы - "пасрэбранай і пазалочанай збожжам розным". Прадмет аповесці ўмяшчаецца ў наступныя гістарычныя межы - пачатак XX стагоддзя - ад Першай Сусветнай вайны, перыяд міжваенны II Рэчы Паспалітай, сканчаем мы аповяд II Сусветнай вайной. Крэсы - гэта некалькі пакаленняў наднямонскіх палякаў, раскіданых па ўсім свеце, на якіх ляжыць злы лёс выганнікаў, і якія ніколі не пазбавяцца настальгіі.

Не хацелася б, каб кніжка аб жыцці маёй мамы пакінула толькі пачуццё настальгіі і адчуванне няздольнасці прадэманстраваць творчае жыццё. Для 100 год пакаленняў красавякаў яна можа стаць глытком сілаў, незалежных ад месца і часу. Гэта і ёсць уступ маёй аповесці, адрасаваны да ўсіх красавякаў.

***Частка першая***

**ПАЧАТАК XX СТАГОДДЗЯ**

*Пачнём з некалькіх тлумачэнняў.*
*Мая мама - жонка Вітольда Стасевіча - паходзіла таксама з дому Стасевічаў; прозвішчы былі ідэнтычныя, але паміж тымі сем'ямі не існавала крэўнага сваяцтва.*

### 1. Родны дом на вуліцы Сувальскай пад нумарам 120

Мая мама была радавітай лідзянкай. Нарадзілася 21 лістапада 1902 года ў Лідзе, дзе і была ахрышчаная ў фарным касцёле Ўзвышэння Святога Крыжа; там жа брала шлюб. У Лідзе ў Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча атрымала атэстат сталасці. Гэтыя прыклады можна множыць; аднак павернемся да сістэматычнага аповяду.

Бацька маёй маці - мой дзядуля - Ян Стасевіч - выбітны і багаты, памёр нягледзячы на намаганні лекараў, у маладым узросце ў Віленскай бальніцы. Бабуля - Паўліна Стасевіч, мусіла прыняць на сябе абавязкі па ўтрыманні дому, гаспадаркі і выхаванні семярых дзяцей: чатырох сыноў - Зыгмунта, Мікалая, Вільгельма і Адольфа, а таксама трох дачок - Юзэфы, Зузанны і Марыі, гэта значыць маёй мамы.


Diecezja Wileńska
Proboszcz i Dziekan
LIDZKI
№ 1141
dn. 29/VIII 1912 r.
m. Lida

**Świadectwo**

urodzenia z ksiąg parafjalnego kościoła
Podwyższenia Św. Krzyża w Lidzie.

№ aktu 637
z roku 1902

| Imię i nazwisko | Urodził się w m. Lidzie | | | Imiona i nazwisko rodziców i nazwisko matki z domu |
|---|---|---|---|---|
| | Dn. | Miesiąca | Roku | |
| Marja Stasiewicz | 21 | listopada | 1902 | córka mieszczan m. Lidy [illegible] Stasiewiczów prawych małżonków |

Wyraźnie Tysiąc dziewięćset drugiego roku 21 listopada.

Za zgodność niniejszego z oryginałem świadczę

Lida, dn. 29/VIII 1912 r.

[illegible]
Proboszcz i Dziekan Lidzki
Kan. Hon.
M. S. T.

SIGIL. ECCLESIAE LID[illegible]

***Пасведчанне аб нараджэнні Марыі Стасевіч з парафіяльных кніг Лідскага фарнага касцёла***

Мая бабуля аказалася постацю дзелавой і энергічнай, добра спраўлялася з роляй маці і гаспадыні. Трое з яе сыноў і дачка Марыя (мая мама) атрымалі вышэйшую адукацыю, што ў тагачасным лідскім асяродку было вельмі выдатна.

Які быў дом маёй бабкі Паўліны, дзе мая мама правяла дзяцінства і маладосць? Адкрыем тое далёкае але жывое для мяне мінулае з яе аповесці, фотаздымкаў, а таксама з закуткоў памяці маіх, у большасці дзяцiных, успамінаў.

Родны дом бабулі Паўліны на вуліцы Сувальскай, нумар 120 - драўляны, аднапавярховы, свойскі, сардэчны. Бабулі належаў таксама размешчаны побач двухпавярховы мураваны дом пад нумарам 118, які быў здадзены ў арэнду кватарантам. Ведаю, што за часы Другой Рэчы Паспалітай там жылі дзве сястры Драўнікоўскія, панны Крыстына і Барбара са сваёю цёткай Марыяй, а на другім паверсе - сям'я Марыі і Яна Сцепанюкоў. Той мураваны дом мне падаваўся халодным і чужым - не ведаю, чаму.

Аднак вярнуся да перарванай ніткі аповесці аб родным драўляным доме, дзе жыла мая мама. У простакутны, досыць доўгі дом заходзілі па некалькіх прыступках на незашклёны ганак, на якім стаялі ўслоны, годныя для адпачынку на вольным паветры. Мама апавядала, што на Сёмуху ставілі на ганку ссечаныя бярозкі пасыпаныя фарбаванымі, патоўчанымі лупінамі ад вяліканочных яек, зваранных у "цыбуляку", якія хаваліся ад самога Вялікадня. За порамі літургічнага году ў хаце бабкі Паўліны сачылі вельмі ўважліва; дадам, што тая далёкая традыцыя не памерла ў маім варшаўскім доме і да гэтага часу.

З ганка ўваходзілі ў прасторныя заўжды халодныя сені. А побач, па сходах можна было патрапіць у склеп; у свой час наўпрост ад дзвярэй па некалькіх прыступках - у кухню. Справа, калі абагнуць уваход у склеп, на галоўных дзвярах (яны вялі ў пяціпакаёвы дом), вісеў механічны званок, які гаварыў аб прыходзе гасцей. Спярша ўваходзілі ў сталоўку, пасля - у салон з піяніна; таксама асобны пакой быў у дзядзі Вільгельма, якога звалі Вілусем; пакой цёці Зузанны, якую клікалі Зінай; і, канешне, побач з кухняй - пакой бабкі Паўліны. Мая мама распавядала, што мусіла рыхтаваць напоўненыя тытунем так званыя "гільзы", бо бабка паліла вельмі шмат папяросаў. Быць можа гэта былі своеасаблівыя лекі, якія супакойвалі нервовую сістэму - вынік яе неспакойнага жыцця. Мая мама распавядала аб жыцці бабулі, якое вычэрпвала і нішчыла сілы: старая ўставала недзе а пятай гадзіне і ішла ў поле агледзець ураджай, чытала ноччу, перасягала нярэдка за поўнач; цягам дня выконвала работы па доме, працавала з так званым "палавіначнікам" - панам Бенькам - які дзяліў плады земляробства на палову паміж ім - тым, хто абрабляў поле і яго ўладальніцай, то бок Паўлінай Стасевіч. Мая мама, малодшая ў сям'і, дапамагала з працай у бухгалтэрыі і на кухні. Цягам дня ніхто не меў ні кроплі вольнага часу - акрамя вечароў калі бабка сядалася за стол з гасцямі гуляць у праферанс ці лато. Канешне папівалі гарбату з самавара, што стаяў побач. Мая мама апавядала, што сталовая ні кроплі не змяніла свайго выгляду за шмат год. Падобна, як сцвярджала мама, не было вялікай розніцы паміж часам Першай і Другой Сусветных войнаў, і нават я яе памятаю з майго ранняга дзяцінства. У цэнтры пакоя стаяў доўгі авальны стол, пры сцяне - стол з самаварам і вялікім прыгожым кашом, у якім пастаянна былі хрумсткія ванільныя абаранкі, а побач стаяў маленькі кошык з кавалкамі цукру. Частку супрацьлеглай сцяны займала канапа, якую вельмі любіла моладзь; спяваліся хатнія песні пад акампанемент мандаліны крэўнага бабкі Паўліны - прыстойнага паніча, Марака Малеўскага альбо Дзерангоўскага - не захавала ўсяго з аповесці мамы, памяць аказваецца крохкай і выбарачнай. На сцяне побач з дзвярамі вісеў прыгожы гадзіннік, які званіў кожную гадзіну і ніколі не выключаўся, хоць і перашкаджаў спаць уначы. Нельга не ўзгадаць аб драўляных акяніцах пад бронзу, якія вечарам зачыняліся шлабанам з унутранага боку - тое ўваходзіла ў абавязак наймалодшай дачкі - Марыі, ці як яе называлі дома - Марысі, альбо Мані. Таксама адным з яе штогадовых абавязкаў было зачыняць вокны на зіму, укладаючы паміж падвойнымі шыбамі каляровыя кветкі бессмяротнікаў. Зімкам адчынялі толькі форткі, з якіх часам з унутранага боку звісалі ледзякі. Клопат за невялічкі садок пры хаце з цюльпанамі, нарцысамі, півонямі, чаромхай і язвінам - у залежнасці ад пары года - таксама ўваходзіў у абавязкі Марыі, як, у прынцыпе, і ўтрыманне парадку на ганку. З другога боку дзядзінца знаходзіўся досыць вялікі сад: тут раслі яблыні, грушы і іншыя дрэвы ў атачэнні кустоў чырвоных, чорных і жоўтых парэчак, агрэсту і малінаў. На падворку, у так званым свірне, трымаліся пры халоднай тэмпературы знакамітыя вяндліны, крупы, а таксама - на паліцах - запасы варэння. Сапраўдны рай для тых, хто любіць смачна паесці. У самым канцы падворку, у воддалі, знаходзілася стадола, якой заканчваліся гаспадарчыя будынкі, і за варотамі пачыналася поле, якое левым бокам цераз невялікі фрагмент палявой дарогі прылягала да старых могілак. Праз поле хадзілі ўніз, на лугі, якія даходзілі да ракі Лідзейкі. Мая мама распавядала, што моладзь плавала па Лідзейцы на лодках. Неяк у даўнія гады ейны тавարыш нешчасліва выпаў з лодкі ў досыць глыбокім месцы. Выцягнула яго з вады Марыя, за што ён быў удзячны ёй праз многія гады.

На падставе ўспамінаў маёй мамы, я спрабавала аднавіць клімат і рэаліі яе роднага лідскага дома, сягаючы думкай аж да пачатку XX стагоддзя.

**2. Першая Сусветная. Выезд у Расею. Вяртанне ў Ліду**

У міжчассе найстарэйшы брат маёй мамы Зыгмунт Стасевіч скончыў інжынерны факультэт у Інстытуце шляхоў і камунікацый з дыпломам з адзнакай і залатым медалём, што дало яму магчымасць атрымаць месца інжынера на будоўлі адрэзка чыгуначнага палатна Грышына ў Данецкім Заглуб'і ў 1915-1916 гг. Менавіта дзядзя Зыгмунт захвоціў сям'ю Стасевічаў да пераезду з Ліды ў Заглуб'е Данецкае, хаваючыся



*Марыя Стасевіч (другая злева) з таварышкамі пасля заканчэння 6 класа Новамаскоўскай жаночай гімназіі*

перад небяспекай Першай Сусветнай, апасаючыся нямецкай акупацыі на Ўсходніх Крэсах. Выезд ў Расею аказаўся, мякка кажучы, некамфортны - не хапала ежы, брата маёй мамы - Мікалая, які ўходзіў у прызыўны ўзрост, хацелі забраць у войска, ад чаго ён хаваўся. Толькі мая мама, якой у гэты час было каля 20 год, і якая падпрацоўвала ў нейкай канцылярыі, магла атрымліваць абед і купляць абеды для ўсёй сваёй сям'і, што ратавала ад голаду. Вырашылі як найхутчэй вяртацца ў Ліду, што ва ўмовах краіны ахопленай вірам Кастрычніцкай рэвалюцыі, было не так і проста. Таварным цягнікам, у жудасных умовах дабралася сям'я Стасевічаў да мэты, але не без ахвяр. Найстарэйшая з сясцёр - Юзэфа, падчас вяртання ў Польшчу, на нейкай чыгуначнай станцыі атруцілася грыбамі з трагічным, смяртэльным зыходам; дзядзька Мікалай згінуў у ваеннай завірусе.

***Частка другая***

**ПАМІЖ ВОЙНАМІ.**
**У ДРУГОЙ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ.**

Каля 1919 года, пасля вяртання незалежнасці Польшчы, скончылася расейская геена ў Лідзе. Сям'я Стасевічаў пачала вяртацца да нармалёвага ходу



Аттестатъ.

*Атэстат Марыі Іванаўны Стасевіч аб заканчэнні 4, 5, 6 і 7 класаў Новамаскоўскай жаночай гімназіі*



GIMNAZJUM PAŃSTWOWE
IMIENIA HETMANA KAROLA CHODKIEWICZA
W LIDZIE

ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

*Атэстат сталасці Марыі Стасевіч, атрыманы пасля заканчэння Лідскай гімназіі*

жыцця.

А нават - як тое ў жыцці бывае - здараліся і анекдатычныя моманты. Так у тым жа 1919 годзе кухарка, якая працавала ў бабулі Паўліны, вяртаючыся з рынку, убачыла досыць нізка пралятаючы цэпелін. Мама апавядала, што прыбегла ў кухню ўражаная і з лямантам: "Пані, у жалезнай машыне ляціць д'ябал і абвяшчае канец свету..."

* * *

Марыя Стасевіч пасля атрымання ў Расіі ў 1918 годзе, школьнага пасведчання аб сканчэнні 7 класа Новамаскоўскай жаночай гімназіі, атрымала таксама ў 1919 годзе ведамасці аб заканчэнні V, VI і VII класаў у той жа гімназіі з усімі адзнакі выдатнымі, без выключэння.

Па вяртанні ў Ліду, Марыя вырашыла скончыць польскую Дзяржаўную гімназію імя Караля Хадкевіча ў Лідзе. Яна дамаглася сваёй мэты, атрымаўшы атэстат сталасці 15 чэрвеня 1924 года. Адзнакі выдатныя і добрыя, ні адной здавальняльнай адзнакі! Гэта быў сапраўдны поспех, бо падчас знаходжання ў Расеі, мая мама вучылася ў расейскай гімназіі, адначасова працуючы, а ў найцяжэйшы перыяд ратуючы ад голаду ўсю сям'ю.

Пасля атрымання атэстата сталасці, ва ўзросце 22 гадоў, Марыя Стасевіч вырашыла распачаць атрыманне вышэйшай адукацыі ва Ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні - на раманскай філалогіі.



***Студэнткі ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя Яніна Гуткевіч (Ганткевіч) і Марыя Стасевіч (другая злева), 1929 г.***

**1. Вучоба ва ўніверсітэце**

Ад факультэта раманістыкі ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, пра які Марыя так марыла, прыйшлося адмовіцца ўжо пасля першых лекцый. Пераканалася, што ўзровень універсітэцкай філалогіі быў непараўнальна вышэйшы за яе навыкі ў французскай мове, вынесеныя з гімназіі ў Лідзе. Патрэбныя былі прыватныя ўрокі ў рэпетытараў, аб чым у гэты час нельга было і падумаць, улічваючы фінансавыя цяжкасці, якія вынікалі з высокіх коштаў вышэйшага навучання ў Вільні. Пасля нарады з братамі (адзін з іх вучыўся на агранамічным, другі - на матэматычным), Марыя Стасевіч стала студэнткай Матэматычна-прыродазнаўчанага факультэта ўніверсітэта па спецыяльнасці “батаніка” ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя. Выбрала сельскагаспадарчую батаніку, пад кіраўніцтвам прафесара Юзафа Трабінскага пісала магістарскую працу на тэму "Назіранне за развіццём талакнянкі амерыканскай на агрэсце" (“Sphareotheca mors uvae”). Тэматыка была абраная нездарма, бо была магчымасць сачыць за талакнянкай на агрэсце ў лідскім садзе роднага дома студэнткі. І зноў вялі дарогі з Вільні ў Ліду. Навучанне пад добразычлівым кіраўніцтвам прафесара Трабінскага праходзіла вельмі добра, у той час як матэрыяльныя ўмовы ў Вільні былі не вельмі добрыя. Неаднаразова Марыя мусіла прымаць рашэнні: ці адмовіцца ад абеду - ці з’есці ўзамен свае ўлюбё-



***Батанікі ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя на практыцы (Марыя Стасевіч - другая злева), 1928 г.***



UNIWERSYTET Stefana Batorego w Wilnie
WYDZIAŁ Matematyczno-Przyrodniczy
L. 101

DYPLOM MAGISTRA FILOZOFJI.

***Дыплом магістра філасофіі Марыі Стасевіч***



***Шлюбны здымак Марыі і Вітольда Стасевічаў***



ARCHIDIECEZJA WILEŃSKA

ŚWIADECTWO ŚLUBU

***Пасведчанне аб шлюбе Марыі і Вітольда Стасевічаў***

ныя мандарынкі. Здымала пакой на Антокалі - разам з таварышкай Зофіяй Баярчык - дачкой заможнага юрыста з Ліды, якая вывучала медыцыну ва Універсітэце імя Стэфана Батуры, закончыла яго і падтрымоўвала кантакт з маёй мамай нават пасля Другой Сусветнай вайны. Марыя Стасевіч, якая тым часам стала ўжо жонкай Вітольда Стасевіча, атрымала 15 снежня 1930 дыплом магістра ва Ўніверсітэце Стэфана Баторыя, на Матэматычна-прыродазнаўчым факультэце, па спецыяльнасці "батаніка". Аднак перад атрыманнем дыплома яна мусіла здаць іспыты не толькі па прыродазнаўчых навуках, але і па матэматычна-фізічных навуках, а таксама па асновах філасофіі. У суме - 14 іспытаў і магістарская праца - шлях да дыплома магістра філасофіі ў прэстыжным універсітэце II Рэчы Паспалітаў не быў лёгкім; заканчэнне вышэйшай навучальнай установы патрабавала добрасумленных ведаў па спецыяльнасці і шырокага гарызонту здумення.

**2. Маладзечна і Ліда ў міжваенны перыяд**

Калі навучанне падыходзіла да завяршэння, 12 лютага 1929 года адбыўся шлюб Марыі Стасевіч з Вітольдам Стасевічам. Зашлюбіны, як ужо ўспаміналася, былі ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа Віленскай Архідыяцэзіі, а маладую пару сужонскай эпітрахіллю звязаў ксёнз-дэкан Гіпаліт Баярунец, агульна вядомы і шанаваны на Лідчыне. Адразу ж па вяселлі Марыя Стасевіч выехала з мужам у Маладзечна. Доктар медыцыны Вітольд Стасевіч, па заканчэнні медычнага факультэта Ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, заняў пасаду павятовага лекара ў тым жа Маладзечне, на рубяжах Рэчы Паспалітай, каля тагачаснай мяжы з Савецкім Саюзам. Доктару Стасевічу было ледзьве 27 год, калі ён заняў цяжкую і адказную

пасаду на той нервовай тэрыторыі. На прыняцце рашэнне паўплывала акрамя ўсяго блізкая адлегласць да Ліды, і эвентуальная перспектыва атрымаць пасаду павятовага лекара ў Лідзе, горадзе, які меў на той час статус важнага камунікацыйнага і вайсковага пункта, дзе дыслакавалася некалькі палкоў.

Як жа падавалася Маладзечна ў аповядах маіх бацькоў, якія там пражылі некалькі год, мабыць недзе да 1934 года? Было гэта малое, красовае мястэчка, асноўным насельніцтвам якога былі габрэі, што мелі тут невялічкія крамы, галоўным чынам спажывецкія, а таксама рамесніцкія майстэрні. Польскай інтэлегенцыі было не шмат: некалькі лекараў з мясцовага шпіталя, група выкладчыкаў з пачатковай школы і гімназіі, адзін ці два адвакаты, адзін ці два ксяндзы і некалькі чыноўнікаў, якія працавалі ў аддаленым ад мястэчка на некалькі кіламетраў старостве. Не ведаю, дзе жыў тады стараста з сям'ёю. Распавядала мне пасля мая мама, што пад апекай старасціхі была пэўны перыяд часу пасля смерці першай жонкі прэзідэнта Масціцкага, Міхаліны - яго будучая другая жонка.

Мая мама па прыездзе ў Маладзечна аказалася падхопленая вірам жыцця прафесійнага і грамадскага. У мястэчку не ставала польскай інтэлегенцыі, не кажучы ўжо аб жанчынах з вышэйшай адукацыяй. Была адразу працаўладкована ў гімназіі выкладчыцай батанікі. У Звязе Грамадзянскай Працы Жанчын маю маму абралі старшынёй. З яскравых аповядаў маёй мамы ў памяці я захавала штогадовыя візіты ў староства ў дзень 1 студзеня, дзе як старшыня Грамадзянскага Звязу, у першыя гадзіны новага году яна мусіла распісацца ў выкладзенай Кнізе Прэзідэнта Рэчы Паспалітай Польскай. Да дому пад'язджаў шафёр старасты на лімузіне, каб мая мама ў доўгай чорнай сукенцы паехала выконваць свой грамадзянскі абавязак.

Размяшчэнне ў Маладзечне не было лёгкім - знайсці чыстае памяшканне на здавальняльным узроўні - было амаль за цуд. Бацькі знайшлі ў канцы невялікі домік з двума пакоямі і кухняй у садзіку. Лекарскі кабінет майго таты месціўся ў шпіталі. З успамінаў мамы я запомніла, што нярэдка апоўначы грукалі ў акно і прасілі тату неадкладна дапамагчы. Часам, трэба было ехаць зімой у санях у вёску, а зімы на тамтэйшых тэрыторыях былі марозныя. Падчас тых начных падарожжаў ратавалі толькі два кажухі і так званая "бурка". Не раз тата вяртаўся пад ранак, і мусіў распачынаць нармальны дзень працы.

Якая была вёска на там-той, памежнай, усходняй тэрыторыі? Занядбаная і забітая. Падчас лячэння нейкай хворай кабеты ў занядбанай вёсцы, сутыкнуўся мой бацька з выпадкам "каўтуна". Калі ён прымусіў пацыентку зрэзаць валасы, сплеценыя ў каўтун, то вошай у іх аказалася так шмат, што яны пераходзілі з аднаго канца пакоя ў другі. Вітольд Стасевіч напісаў на тую тэму даклад з фатаграфіямі "каўтуна". Жыхары навакольных вёсак лічылі сябе "тутэйшымі"; размаўлялі на так званай "простай" мове - польска-беларускай.

Праца павятовага лекара ў Маладзечне была цяжкая і знясільвальная, але праз некалькі гадоў бацькі набылі аўтамабіль; выязджалі з шафёрам (бацька не навучыўся кіраваць гэтым новым набыткам тэхнікі) у нядзелю на возера, часам у кампаніі знаёмых.

Сціплая хатка ў Маладзечне была надзвычай гасціннаю, і яе ахвотна наведвалі. Мая мама "здабыла" нейкую знакамітую ў тых краях домработніцу - Касю, якая выбітна гатавала і ведала кулінарныя густы гасцей, якія адведвалі Маладзечна. З успамінаў мамы запомніў, што прыязджаў з Вільні лекар, даўні таварыш бацькоў з Універсітэта Стэфана Баторыя доктар Цукерман, як паказвае прозвішча - габрэйскага паходжання. Асабліва любіў ён стравы з косным шпікам; Кася - ведаючы загадзя пра адведзіны госця, рыхтавала для яго той кулінарны экзот.

Некалькі словаў аб Касі. Яна была сіратою, шмат год прабыла ў нейкім зямянскім двары, дапамагала па кухні. Там навучылася гатаваць і прыгожа размаўляць па-польску. Потым некалькі гадоў працавала ў сям'і натарыюса ў Маладзечне, а калі натарыюс змяніў месца жыхарства, прыняла яе мая мама. Калі бацькі пераязджалі ў Ліду, Кася вырашыла ісці замуж, бо мела ўжо нарачонага, культурнага, маладога рамесніка. Мая мама дабраславіла сірату - Касю, выпраўляючы яе да шлюбу. Ахвяравала таксама, як належала, паненскі пасаг на новую дарогу ў жыцці - абы шчаслівa! Пазней замужжа аказалася цалкам удачным!

У маёй памяці мама ўтрымала некалькі прозвішчаў маладзечанскіх знаёмых. Доктарка пані Пашкевіч была, здаецца, педыятр. Яна колькі год цяжка перажывала па прычыне смерці колькігадовай дзяўчынкі - Ванды, якую не здолела ўратаваць. Атруцілася тая нейкай раслінай у страве, зробленай для лялькі, якую з'ела сама. Мама паўтарала пазней гэты аповяд, які я захавала ў памяці да сённяшняга дня.

У бацькоў бывалі Маслоўскія - хірург са шпіталя і яго характарная для тых часоў жонка, якая ездзіла па ваколіцах Маладзечна на лыжах, што будзіла ў той час - на той тэрыторыі - здзіўленне, а таксама малявала акварэлі на прыродзе. Мама не мела на такое часу; яна мусіла наглядаць за пачатай у Лідзе будоўляй дома маіх бацькоў, якая павінна была скончыцца да 1935 года, бо майму бацьку паабяцалі месца павятовага доктара ў родным горадзе.

Затрымаемся яшчэ на хвіліну ў Маладзечне. Там, каля савецкай мяжы, стаялі вайсковыя часткі. Некалькі афіцэраў, згаладалых па кантактах з польскай інтэлегенцыяй, наведвалі дом маіх бацькоў. На заканчэнне маладзечанскіх успамінаў мамы перакажам яе ацэнку: *"Гэта быў рэгіён кантрастаў - з аднаго боку занядбаны, з другога выразна праглядаліся пачаткі сельскагаспадарчага і сацыяльнага развіцця; з аднаго боку змеі, якія лянiва грэліся на дарозе, выпаўзаючы з прыдарожных гушчароў, з другога - пралятаілі машыны самых найноўшых мадэляў."* Я ў сваю чаргу запомніла - не ведаю, ад каго, чутае - што вясковыя хлопцы ўсаджвалі ў бутэлькі гэтых гадаў нейкім вядомым ім спосабам і заносілі ў шпіталь, дзе іх залівалі ў тых бутэльках спіртам. Хлопцы атрымлівалі

ўзамен грошы. Кожная манета была для іх вельмі важнаю. Той свет з усходніх межаў, у першыя гады II Рэчы Паспалітай не толькі перастаў існаваць, але нават гіне ў закутках памяці нешматлікіх ужо асоб. Варта ўзнавіць хоць фрагменты той ужо далёкай рэальнасці.

**3. Бацькоўскі дом у Лідзе, на вуліцы 11 Лістапада, 4**

Атрымаўшы прыкры досвед у Маладзечне, дзе магчымасць знайсці нармалёвы дом, які падыходзіць па ўсіх параметрах, межавала з цудам, мае бацькі вырашылі пабудаваць уласны дом, які б адпавядаў іхнім патрэбам. Апроч жылых пакояў у тым доме павінны былі быць ізаляваны лекарскі кабінет з пачакальняй, збоку гараж для машыны, а таксама сад-агарод. Мама мела заняцца арганізацыяй пабудовы дома - пачынаючы ад апекі над мулярскімі работамі і заканчваючы ўнутранным інтэр'ерам.

Калі ў 1992 годзе першы раз пасля II Сусветнай вайны я адведала Ліду, а суправаджаў мяне мой муж Ежы Ясюк - па спецыяльнасці інжынер-будаўнік, то ён з гонарам пацвердзіў, што цэгла ў бацькоўскім доме на вуліцы 11 лістапада (цяпер 7 лістапада) знаходзіцца ў ранейшым стане, без ніякіх нішчэнняў, негледзячы на тое, што з тых часоў мінула болей за паўвеку!

Апека над будоўляй дома ў Лідзе давалася маёй мамы зусім нялёгка, бо яна пэўным часам мусіла прыязджаць з Маладзечна, выкладаючы далей у гімназіі, а таксама займаючыся малым дзіцяткам - ці мной - якраз у гэты час я і нарадзілася. Мяркую, што я ездзіла разам з мамай у Ліду, мы жылі тады ў бабулі Паўліны на вуліцы Сувальскай. Нажаль, не засталося ні аднаго ўспаміну, звязанага з тымі ваяжамі па трасе Маладзечна - Ліда. Тата мусіў працаваць выключна інтэнсіўна, каб забяспечыць фінансавыя сродкі на рэалізацыю найхутчэйшага заканчэння лідскага дома. Я дакладна не ведаю, у якім годзе дом быў гатовы, затое ведаю, што ў 1935 годзе мы ўжо жылі ў Лідзе. Тата займаў пасаду павятовага лекара. У лідскай гімназіі мама працавала адносна коратка, неўзабаве нарадзіўся мой брат Янак, і мама мусіла заняцца двойкай дзяцей і домам.

Як выглядаў той доўгачаканы дом на вуліцы 11 Лістапада? Дом стаяў на невялікім узгорку і складаўся з дзвюх частак. Уваходзілі па некалькіх прыступках да двух франтонных дзвярэй - адны з іх вялі ў прыватнае памяшканне, чатырохпакаёвую кватэру з кухняй і лазенькаю, другія дзверы вялі праз невялічкі калідорчык у лекарскую пачакальню і далей у кабінет, дзе тата прымаў хворых у пасляабедзенны час, бо да паўдня ён працаваў як павятовы лекар у старостве. Фактычна, мой тата працаваў цэлы дзень з кароткім перапынкам на абед і гадзінаю адпачынку.

Апроч франтоннага ўваходу у супрацьлеглым баку дома была кухонная частка з уваходам з боку падворку. Гэты ўваход вёў па ступенькам да другога калідора, з якога вяла лесвіца да некалькіпакаёвага памя-



*Дом Марыі і Вітольда Стасевічаў у Лідзе па вул. 11 Лістапада, 4 (цяпер 7 Лістапада, 4)*

шкання на гары, якое здымалі арандатары. З гэтага ж калідора можна было выйсці ў агарод - "каралеўства" маёй мамы - знаўцы батанікі. Ён быў злучаны з садам. Там раслі тры кусты ружаў - на кожным кусце былі двухкаляровыя кветкі, прышчэпленыя такім чынам, што ў адным пуку былі чайныя ружы і колеру цёмна-чырвонага віна, пераходзіўшага амаль у чэрнь. Была гэта выдатная справа маёй мамы, учыненая з дапамогай мясцовага садоўніка. З іншых кветак я запомніла таксама водар вячэрняй мацейкі і рознакаляровага гарошку. Малой дзяўчынкай я пазбягала настурцыі, якая расла каля плоту - прыгожай у колерах, дзе поўзалі шматлікія вусені касматыя і страшныя, якіх я баялася. Доўгі, высокі плот аддзяляў ад нашага саду-агароду вельмі вялікі ўчастак, які цягнуўся ўздоўж усёй вуліцы 11 Лістапада і заканчваўся ажно на вуліцы Школьнай. Непасрэдна да гэтага суседняга ўчастка належала прыгожая новая пачатковая школа з шыкарным спартовым стадыёнам. У школа, куды я пайшла праз два гады, заходзілі з вуліцы Школьнай.

Аднак вернемся да саду-агароду маёй мамы, бо ўласна ёй прысвечаны ўспаміны. Сад разрастаўся паступова, першыя дрэвы запладаносілі ў 1938 годзе з'явіліся на іх прыгожыя, пахучыя яблыкі, папяроўкі, а таксама асеннія чырвоныя аліўкі. Былі гэта цудоўныя плады з майго ранняга дзяцінства, а таксама сведчанне агранамічнага майстэрства маёй мамы. Напэўна, былі і іншыя гатункі пладовых дрэў, але я запомніла толькі тыя - улюбёныя.

Падчас майго знаходжання ў Лідзе ў 1992 годзе я папрасіла ў цяперашняга ўладальніка нашага даўняга дома аб мажлівасці агледзець сад-агарод з там-тых мінулых гадоў - больш чым праз паўстагоддзя. Дрэвы ацянялі ўсю тэрыторыю саду, які тануў у змроку, і разам з ім знікла маё вясёлае дзяцінства. Унутры дом я не аглядала, гаспадар дома не запрашаў мяне, а я не хацела параўнанняў з мінуўшчынай, якая мінула безпаваротна. Зрэшты, не люблю парушаць спакою і інтымнасці чужога дамашняга жыцця.

А што засталося ў атачэнні нашага дома з міжваеннага перыяду? Усё захавалася ў выдатным стане, у ідэальным парадку, як бы час затрымаўся на месцы. На падворку гараж для аўтамабіля, які запрашаў у нядзельныя выезды на Нёман; асфальтавы пад'езд да гаража, на якім мы гулялі ў мяч або ў гульню "ў класы" з нарысованымі крэйдай небам і пеклам. Тут адбываліся таксама спаборніцтвы ў скакалку. Дадам, што ў гэтай канкурэнцыі я была майстрам, а скакала ахвотна да гадоў пяцідзесяці. У лідскім дзяцінстве, падчас спаборніцтваў у скакалку дапамагала нам мама, прыносячы на падносе нам туды лусты выдатнага ржанога хлеба, з такім жа выдатным духмяным маслам. Да сённяшняга дня ўспамінаю той чорны хлеб.

У непарушным стане захаваўся высокі плот з прыгожых, жалезных шчыкетаў, які аддзяляў наш дом ад вуліцы 11 Лістапада. Паміж шчыкетамі квітнелі ружы, якія захаваліся да сённяшняга дня як успамін аб маёй маме. Калі ж у размове з гаспадаром дома падчас наступнага візіту ў Ліду я выказала радасць,



***Сям'я Стасевічаў з дачкой Ірэнкай***

што ружы, якія цвітуць пры плоце, такія прыгожыя, пачула словы: "Гэта для сябе". Мая рэпліка была наступная: "Магчыма, я больш ніколі не вярнуся ў Ліду, але мяне вельмі цешыць, што ў нашым даўнім сямейным доме яго новыя гаспадары жывуць так прыгожа і мірна".

На двары бракавала толькі сабачай будкі, дзе жыў сабака Рэкс, які выхоўваўся са мной з самых маладых гадоў, а быў застрэлены гітлераўцам падчас нямецкай акупацыі.

За гаражом і нашым падворкам, тут каля нашага дома паўстала ў палове трыццатых гадоў XX стагоддзя прыгожая сучасная пошта пры вуліцы Міцкевіча (роўнааддаленай да вуліцы Школьнай) - замяніўшая тую старую пошту, якая размяшчалася на вуліцы Сувальскай. Насупраць сучаснай пошты зараз парк. У часы маіх бацькоў на гэтым месцы быў так званы "выган". Частка тэрыторыі займалі кучы пяску, напэўна як матэрыял для будучых будынкаў, на нізейшым, гладкім участку зімой тут быў натуральны каток. Памятаю, як брала мяне маці на гэтую слізгаўку - без канькоў, але апранутыя паводле тагачаснага крыку моды, г. зн. з шапачкамі - “пілоткамі” на галовах, быць можа для падкрэслення дасягненняў польскай авіяцыі - перш за ўсіх Жвіркі і Вігуры. Памятаю нават колер гэтых пілотак - "марской хвалі" ў мамы і ружовая ў мяне, абедзве з футра ангоры. Мусела гэта быць нейкім дзяцінным перажываннем - не ведаю, з якой прычыны.

На рагу вуліцы Фалькоўскага, на баку, супрацьлеглым "выгану", у часе нямецкай акупацыі знаходзілася аптэка. Мая мама апавядала, што тата з'арганізаваў у закутках гэтай аптэкі патаемныя курсы для тэхнікаў дантыстаў - маладых хлопцаў, якія дзейнічалі ў АК. Пасля II Сусветнай вайны адзін з іх, калі мы жылі ў Беластоку пасля дэпатрыяцыі з Ліды, адзін з іх прысылаў майму бацьку кветкі на кожныя імяніны, бо атрымаўшы ў Лідзе спецыяльнасць, карыстаўся знакамітым рэнамэ тэхніка-дантыста на ўсёй Беласточчыне. Нажаль, забыла, якое ягонае прозвішча.

* * *

Якія перажыванні маёй мамы з міжваеннага перыяду запомніліся асабліва? Калі мае бацькі гасцілі ў бабулі Паўліны на вуліцы Сувальскай, домработніца - падаючы гарбату - неяк зачапіла маму шклянкай, выліўшы кіпень ёй на плечы. Апёкі муселі быць вельмі значнымі, і маму адразу адвезлі ў шпіталь пад нагляд таты. Я ж засталася на колькі дзён у бабулі пад апекай цёці Зіны. Не была гэта, на шчасце, найвышэйшая ступень апёкаў - загаіліся адносна хутка, а праз не вельмі вялікі тэрмін нарадзіўся мой брат - Янак*.

З-за Янка моцна перажывалі бацькі, бо ён доўга не пачынаў хадзіць. І, атож, неспадзявана, пад вечар летняга дня Янак самастойна вырушыў і пратупаў без ніякай дапамогі каля паўкіламетра, прайшоўшы па тратуары ад дома да рога вуліцы Школьнай без усялякай падтрымкі. Было гэта радаснае перажыванне для маёй мамы.

Штодзённае жыццё, ажно да II Сусветнай вайны, ішло вельмі хутка і спакойна. У Лідзе нярэдка гасцявалі заезджыя атракцыёны. На працягу тых некалькіх гадоў былі нават рознага роду прыгоды. Напрыклад, выезд бацькоў на 4 сакавіка - Казюка - у Вільню, дзе падчас знакамітага Казюковага кірмашу сустракаліся бацькі са знаёмымі з універсітэта Стэфана Баторыя на абедзе ў знакамітай рэстарацыі так званай "чырвонай" альбо "зялёнай" палатцы. Гэта быў для таты дзень вольны ад працы, а я па вяртанні бацькоў з Вільні я атрымлівала прэзент - Казюкова сэрца з паўкруглым надпісам "Любім цябе" і вязку смаргонскіх абаранкаў - маіх прысмакаў.

Ведаю, што толькі адзін раз за ўвесь міжваенны перыяд - не запомніла ў якім годзе - выехалі бацькі са мной у адпачынак у Друскенікі, але аказаўся ён аднак нешчаслівым. Прыйшла тэлеграма, што дзядуля з Маргоў атрымаў двухбаковае запаленне лёгкіх і тата вымушаны быў адразу вяртацца ў Ліду. На яго замену прыехала цёця Зіна, каб быць кампаніяй для маёй мамы; у тыя гады не выпадала маладой жанчыне на курорце быць адной, толькі з малым дзіцем. Запомніла, што хадзіла з мамай і цёцяй Зінай ў прыгожы сасновы лес на бераг Нёмана, а на супрацьлеглым беразе адпачываў з кніжкай маршал Юзаф Пілсудскі, што праўда, было гэта на некалькі гадоў раней - толькі да 1931 года, але звязаная з ім легенда была жывая. Захавалася фатаграфія з тога наднёманскага лесу - успаміны мамы аб адзіным даваенным адпачынку на знакамітым курорце.

Летнімі, сонечнымі нядзелямі мы ездзілі ўсёй сям'ёю на Нёман. Гэта былі цудоўныя, незабыўныя паездкі, калі конь рамізніка пасвіўся на сасновым узгорку, а мы купаліся ў празрыстай вадзе Нёмана, пры гэтым мая мама заўсёды спявала модную тады песню "Ах, як прыемна калыхацца сярод хваль, калі шуміць, шуміць вада і плыве сабе ў даль…" Пад вечар мы вярталіся адпачыўшыя, прапахлыя водарам наднёманскага паветра і сасновага лесу.

У іншыя нядзелі па паўдні ладзіліся доўгія пешыя прагулкі па-за Ліду - на так званыя "тры чвэрці", якія былі ўласнасцю таты. Упраўляўся там мабыць нейкі "палавінначнік". Памятаю, што ў жніўні адбывалася тут жніво на тым мініяцюрным полі, а тата адчуваў сябе яго гаспадаром тых "воласцяў". Калі адбываліся тыя нядзельныя пешыя вандроўкі, нам трапляла па дарозе вялікая сажалка. Запоўніў, што неяк адбываўся ў ёй досыць галаслівы канцэрт жаб. Тата пажартаваў, звяртаючыся да колькігадовага брата і сказаў, што гэта дужа прыгожа спяваюць салаўі. Янак ахвотна пацверджваў, выказваючы захапленне прыгажосцю салаўінага спеву.

Былі аднак і зусім іншыя забавы на выхадных - больш прыемныя для маёй мамы, чым некалькікіламетровыя выправы на "тры чвэрці", якія - паўтаруся - я вельмі лю-



***Над Нёманам ў Друскеніках, злева - Марыя Стасевіч, у цэнтры Ірэнка, справа - Зузанна Пракоф'ева (цёця Зіна), 1935 г.***

* Стасевіч Ян. Гастраэнтэролаг. Доктар медыцынскіх навук. Прафесар.

біла. Раз у год адбываліся вялікія балі розных вайсковых залогаў, якія дыслакаваліся ў Лідзе. Мама штогод замаўляла ў Вільні новыя строі - не магла прыйсці ў адным і тым жа двойчы. З'язджаліся землеўладальнікі з навакольных маёнткаў і з іншых месцаў: вельмі шмат людзей! Мама карысталася на балях вялікім поспехам. Адзначалася яе вялікае падабенства да знакмітай і любімай акторкі тых часоў - Ядвігі Смасарскай. А звыш таго мама была натуральная ў паводзінах і патрапляла цікава размаўляць на розныя тэмы.

На штодзень "убіралася" мама - як тады гаварылі - у краме пані Бялдоўскай, якая трымала краму і прысылала ў наш дом гатовыя сукенкі і гарсонкі на агляд і прымерку ў сябе - перад люстрам. Не памятаю, каб маці хадзіла да нейкай краўчыхі - купляла амаль усе гатовыя ўборы, прывезеныя з Вільні, найбольш модныя. Зрэшты ў нашым доме гэтыя справы не займалі надзвычай шмат месца - прабягалі мімаходам.

Апроч догляду дзяцей, мая мама дапамагала тату ў сакратарскіх справах, бо ён мусіў рэгулярна здаваць справаздачы па ўсіх праведзеных ім ускрыццях трупаў. Мама пісала вельмі старанна і чытэльна, вечным пяром, тыя пратаколы пад дыктоўку яе мужа, не прымянялі ў той час друкавання на машынцы. Праўдзеннем усякіх разлікаў з кватарантамі, якія - як я ўжо ўспамінала - жылі на гары і наймалі за лекарскім кабінетам два пакоі з кухняй і лазенькай - займалася мама. А звыш таго кантактамі са скарбовай адміністрацыяй, вядзеннем бухгалтэрыі бабулі Паўліны, якой яшчэ належаў вялікі мураваны дом з кватарантамі - мама была незвычайна абавязковай і адказнай. Апроч таго - падобна, як і ў Маладзечне - яна ўдзельнічала ў Грамадскім таварыстве працы жанчын.

Ці быў час на чытанне кніг? Не ведаю, але ў нашай бібліятэцы былі паміж іншымі аповесці і апавяданні Льва Талстога, Чэхава і Гогаля, аповесці Зофіі Косак-Шчуцкай, а таксама Тадэвуша Боя-Зяленскага. Гэтыя запомніла. Мяне цікавіла кніжка, якая была ў прыгожым чырвоным пераплёце - "Крэйцарава саната" і іншыя апавяданні Льва Талстога. Аднак мама расчаравала мяне сцверджаннем, што кніжка вельмі сур'ёзная і для дзяцей нудная. Газеты, якія сістэматычна чыталіся бацькамі, выкідваліся па прачытанні.

У нядзелю мы хадзілі ўсёй сям'ёй у касцёл Айцоў Піяраў на вуліцы Сувальскай. Пасля імшы ішлі ў цукерню "Амерыканка" на печыва або на марозіва - у залежнасці ад пары году. "Амерыканка" знаходзілася на рагу вуліцы Сувальскай і 3 Траўня. Мы падымаліся па некалькіх прыступках і сядалі за мармуровы столік. Памятаю асабліва выдатнае марозіва - шакаладнае, арэхавае, трускалкавае ці вішнёвае. З печыва - "напалеонкі" і трубачкі з крэмам. Падчас наведвання Ліды ў 1992 годзе я выглашыла паказаць майму мужу "Амерыканку". На жаль - засталіся толькі паклікання мной успаміны.

* * *

У салоне стаяла радыё - падаецца мне, што знакамітай, віленскай фірмы "Электрыт". Ці часта мы слухалі радыёперадачы? На жаль, не памятаю. Запомніла аднак у найдрабнейшых дэталях паведамленне па радыё, калі 1 верасня 1939 года было абвешчана аб пачатку II Сусветнай вайны. Тым ранкам сядзелі бацькі ў салоне перад радыёапаратам, слухаючы перадачы найсвяжэйшых паведамленняў. Праз хвіліну тата сказаў: "Пачалася вайна з немцамі. Якія будуць яе лёсы - убачым. Мусіце быць спакойнымі і стрыманымі. У старостве я даведаюся, якія будуць далейшыя інструкцыі". Мама была стрымана знешне, што адчувала ў сэрцы, не ведаю. У доме распачаўся звычайны, будні дзень. А адначасова закончыўся перыяд шчаслівага дзяцінства.

*Частка трэцяя*

## ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

### 1. Акупацыя савецкая (1939 - 1941)

У верасні 1939 годзе - пасля заключэння нямецка-расейскай дамовы - увайшло ў Ліду савецкае войска. Я выйшла з мамай і татам на вуліцу Школьную, дзе ішоў з песняю вялікі аддзел жаўнераў. Памятаю, што мела на галаве прыгожы чырвоны барэт, а мой тата пажартаваў, што для ўшанавання ўваходзіўшых у Польшчу саветаў. Мама адрэагавала са смуткам, што гэта не прыдатны момант для жартаў. І сапраўды ўжо праз колькі гадзінаў мы непасрэдна адчулі прадсмак пачатку акупацыі. Вечарам увайшоў у наш дом расейскі афіцэр - кіраўнік аддзелу, паведаміўшы, што каля 30 чалавек мусяць правесці двое сутак у нашым памяшканні: аддалі ім у карыстанне кухню і сталоўку - на шчасце неўзабаве яны вырушылі далей, да так званай Лініі Керзана, дзе пачыналася сфера нямецкай акупацыі. У нашых прыватных пакоях нас ніхто не чапаў, але рэквізавалі тры пакоі на другім паверсе,а таксама лекарскі кабінет таты і пазасталую частку на тым баку дома. Пасяліліся тут два афіцэры - лётчыкі высокіх рангаў з іх сем'ямі. Яны не былі канфліктнымі, а праваслаўная бацькі аднаго з маёраў-лётчыкаў намагаліся завязаць кантакт з маёю мамай, якая добра размаўляла па-расейску; хацелі акрамя іншага даве-дацца, як знайсці царкву - у поўнай таямніцы ад іхняга сына. З дачкой маёра, Ірмай, майго веку, я гуляла, дзкуючы чаму адносна хутка асвоіла расейскую мову. На дасвецці, недзе ў 6.30 ранку мы хадзілі з Ірмай па малако да бабулі на Маргі. Амаль штодзень адбываліся спаборніцтвы на скакалцы. Памятаю, як мама Ірмы прыносіла з нейкай афіцэрскай канторы поўныя торбы, запоўненыя пакупкамі, частуючы па дарозе дадому Ірму і мяне вельмі смачнымі, як яна казала, "канфетами".

Памятаю адну значную гісторыю, звязаную з Ірмай. У траўні я хадзіла а 18-ай гадзіне ў Фарны касцёл, каб удзельнічаць у працэсіі, носячы стужкі ад харугвы. Пасля цэлага дня бегатні я мусіла памыцца і перапрануцца ў белы працэсійны строй. Ірма, наглядаючы гэтую падрыхтоўку, была вельмі зацікаўленай, каб пагладзець пры касцёле тую працэсію. Яе мама

не дазваляла катэгарычна. Здарыўся аднак нейкі візіт яе бацькоў з дому. Ірма пабегла да касцёла, а паколькі працэсія зацягнулася, вярталася перапужаная перад гневам яе мамы. Паставіла тады Пану Богу ўльтыматум: "Калі мама да гэтага часу не вернецца, Бог ёсць; калі вернецца, Бога няма". Дадам, што Ірма не застала яшчэ бацькоў дома. Можа яна пачала верыць у Пана Бога? Гісторыю гэтую я памятаю да сённяшняга дня.

На першым паверсе жыла яшчэ адна мая аднагодка - дачка, мабыць, маёра-лётчыка Эма. Яна была антыпатычная. На працягу некалькіх гадоў не абмянялася са мной ні адным словам. Яна не гуляла на падворку, выходзіла выключна са сваёю мамай на шпацыр, прыгожа ўбраная. Здаецца, не мела кантакту нават з Ірмай, хоць, падобна, як і яна, расіянкай. Вернемся аднак да ніткі аповесці пра гісторыю маіх бацькоў з гадоў вайны...

* * *

Была спякотная чэрвеньская ноч, калі, мабыць, перад світаннем, загрукалі досыць гучна ў кухонныя дзверы. Была гэта хваля арыштаў польскай інтэлегенцыі і яе вывазкі ў Сібір. Мы ўсе прачнуліся. Пачула, скіраваныя да таты словы маёй мамы: "Мусіць прыехалі па нас". Калі мы адчынілі дзверы, то перад намі стаяла гадоў колькі пасля дзесяці Вэрця - дачка брата таты - Баляслава ў суправаджэнні чатырох савецкіх салдатаў. Аказалася, што ўся сям’я дзядулі на Маргах была забраная апаўночы для вывазкі ў Сібір. Усяго 9 чалавек: больш, чым сямідзесяцігадовы, хворы дзядуля, бабуля Стэфанія, дзядзя Баляслаў з жонкай і чатырма дзецьмі, а таксама цёця Марыя, якой удалося пераправіць свайго непаўнагадовага сына да сваёй сястры, пакідаючы яго ў Польшчы пад яе наглядам. Найстарэйшая з дачок Баляслава - Вэрця - сумела неяк пераканаць салдат, паведаміць майму тату-лекару, што прыгавораны да высылкі яго цяжка хворы бацька, якому патрэбны пастаянны лекарскі дагляд пры дапамозе спецыяльных медычных інструментаў. Тата не верыў, што дзядуля вытрывае шматдзённае падарожжа ў Сібір. Вырак савецкай улады быў непахісны. Мой тата перадаў сястры - Марысі - лекарскія інструменты і інструкцыі па іх ужыванні. Нельга было зрабіць нічога больш. Бацькі ведалі, што ў адну з наступных начэй чакае і нашу сям’ю высылка ў Сібір. Але насупраць таму прадбачанню, наш лёс склаўся інакш.

**2. Акупацыя нямецкая (1941 - 1944)**

У чэрвені 1941 года выбухнула савецка-нямецкая вайна. Мае бацькі спадзяваліся, што, вывезеная ў Сібір уся радня майго таты з-за выбуху вайны не здолела перасекчы мяжы і вернецца ў Ліду. На жаль не ўдалося. Тым часам у Лідзе чакалі нямецкіх бамбёжак. Падрыхтавалі для будучых раненых шпітальную залу ў гімназіі пры вуліцы Міцкевіча, тут жа за поштай - усе тыя найбольш рэпрэзентатыўныя будынкі горада знаходзіліся паблізу нашага дома пры вуліцы 11 Лістапада. У той сітуацыі, калі тата мусіў быць у шпіталі ў гімназіі, мама прыняла рашэнне пра пераход разам з Янкам і са мною да бабулі Паўліны - на вуліцу Сувальскую. Тое месца было прызнана за бяспечнае - на перыферыі горада, побач з лугамі і Лідзейкай; ніхто не спадзяваўся, што немцы заатакуюць гэты бок горада.

Быў прыгожы, сонечны дзень. Я была ў садзе, а Янак бавіўся на падворку, мама ў кухні мыла так званыя “колеры” - як у той час гаварылі. У гэты ж час увайшоў на вуліцу Сувальскую вялікі аддзел расейскага войска, размяшчаючыся пры платах дамоў і маскуючы тую тэрыторыю пры дапамозе вялікіх, зялёных галін дрэў, просячы ў бабулі Паўліны для спатолення смагі кубак вады. І ў гэты момант павылятал шыбы на кухні, і з’явіліся языкі полымя, расшыраючыся ў бліскавічным тэмпе. Пазней апавядала мне мама, што ў гэты час ускочыў у кухню Янак - яна схапіла яго за рукі, і яны абое выбеглі. Побач знайшлася бабуля. Тая кінулася шукаць мяне ў палаючым побач доме, яе валасы загарэліся - нейк патушылі, аднак мяне нідзе не было. Пажар пашыраўся - з нямецкіх, нізка кружыўшых самалётаў кідалі запальныя бомбы і вылівалі смалу - гарэла частка Сувальскай вуліцы. Мама, бабуля Паўліна, Янак і, быць можа, цёця Зіна, былі вымушаныя ўцякаць на так званы выган, дзе не было забудоваў.

А што ж сталася са мной? Я была ў садзе, аглушыў выбух запальнай бомбы ўпаўшай на мураваны дом бабулі Паўліны, які стаяў у полымі. Не было выйсця і цераз тыльную брамку, бо драўляны дом гарэў таксама. Я засталася зусім адна сярод агню, які расшыраўся. Убачыла перад сабой дзірку ў плоце і з натоўпам уцякаўшых людзей аказалася на выгане. Там я пачала выглядаць маму, Янка і бабулю, паблізу нікога не было, толькі тлум штурхаў мяне ўперад. Пад канец я аказалася недзе паблізу вуліцы Школьнай, на супрацьлеглым баку ад дома доктара Казубоўскага. Дзверы таго дома былі адчыненыя. Не ведаючы, што раблю і што рабіць, я ўвайшла ў чужы дом. Там размаўлялі па-габрэйску і пакавалі падушкі і коўдры, рыхтуючыся да ўцёкаў з пылаўшага горада на вёску. Праз нейкі момант у рэзруху заўважылі мяне: здаецца, дачка вядомага ў Лідзе лекара Вітольда Стасевіча. Мілая, культурная пані, запыталася мяне, ужо па-польску, ці я Стасевіч, і адкуль я ўзялася ў іхнім доме. Я распавяла. Паколькі гэтая сям'я неўзабаве збіралася пакідаць Ліду, параілі мне, каб я пабегла ў дом - на вуліцу 11 Лістапада, дзе няма пажару, і што напэўна там чакае ў роспачы з-за маёй гібелі мама. Мама была канешне ў роспачы, а таксама і мой тата, якога ў той час у аперацыйнай зале апавясціў нейкі “зычлівец”, што ў пажары на Сувальскай згарэла ягоная дачка. Маці паслала адразу вестку ў шпіталь з радасным паведамленнем, што я цэлая і здаровая.

На месцы дамоў бабулі Паўліны засталіся папялішчы. Мой кузен - Вова Пракоф'еў, разграбаючы попел, знайшоў у ім пярсцёнак маёй мамы, які пад уплывам жару змяніў колер з сапфіравага на апалавы. Адкуль ён узяўся на папялішчы? Калі мама мыла “колеры”, яна паклала на падаконнік зняты з пальца пярсцё-

нак, які, канешне, і застаўся там пасля ўцёкаў з пылаючага дома. Перажыў ён не толькі пажар, але і ўсё ваеннае пажарышча. Быў скрадзены - сорамна прызнацца - у Польскай Акадэміі Навук. Я атрымала ў прэзент ад мамы, захаваны з попелу талісман нетыповага колеру, злодзей на працягу некалькіх секунд украў яго ў туалеце, калі выйшла на момант.

За тое захаваўся да сённяшняга дня любімы мой збаночак з анёлкам для смятаны, які без найменшай шкоды ператрываў пажар і загартаваўся, набраўшыся прыгожай нештодзённай барвы. Збаночак той налічвае каля 100 гадоў - дзве сусветныя вайны і пажар.

* * *

Адразу пасля вялікага пажару ў Лідзе і пасля ўваходу немцаў уся нашая радня з вуліцы Сувальскай часова пасялілася ў нашым доме, на вуліцы 11 Лістапада. Дзядзька Вільгельм, аб якім я ўжо раней пісала, выратаваў жыццё майму тату, якога хацеў застрэліць гітлеравец, падумаўшы, што пакінутая ў суседнім пакоі расейскім афіцэрам-лётчыкам амуніцыя, належыць майму бацьку. У астатні момант перад драмай убег, спавешчаны мамай дзядзька Вілусь. Ён быў паліглотам, мовіў выдатна па-нямецку, з высакародным акцэнтам, што зрабіла на немца ўражанне. Той пасля высвятлення непаразумення нават папрасіў прабачэння ў майго бацькі. Дзядзька Вілусь - з прычыны пажару - аказаўся ў нашым доме і, дзякуючы гэтай прысутнасці, выратаваў жыццё майго таты. Такі быў бег падзеяў, над якім вітаў лёс.

Гэта быў пачатак гітлераўскай акупацыі. На самым ранні наведала бацькоў, напэўна іх знаёмая, вельмі прыгожая маладая пані. Памятаю да сёння, была гэта смаляна-чорная брунетка ў жоўтай, бананавай сукенцы - колер той аказаўся важны. Бацькі сядзелі ў салоне, і я разам з імі - вельмі зацікаўленая. Прыгожая пані без слова паднялася з фатэля і паказала прышытую на плячах сукенкі зорку такога з жоўта-бананавага колеру, якая амаль злівалася з усім уборам. Знаёмая дадала, што будучы пазначанымі кляймом зоркі: "Габрэй", не можа хадзіць па тратуары, а толькі па праезджай частцы дарогі. Яна прасіла рацэпт, каб тата выпісаў ёй які лек для заспакаення, каб да яе паляпшэння захавання спакою і чалавечай годнасці. Тата падаў рацэпт, а мама сказала: "Вы пані павінны, як мага хучэй, перабрацца на ненямецкую тэрыторыю." Я была ўражаная і не разумела ўсёй сітуацыі. Калі незнаёмка выйшла, бацькі растлумачылі мне, што такое антысемітызм і чаму ўсё больш нарастае перaслед габрэяў гітлераўцамі. Хапіла не цэлай гадзіны, каб некалькігадоваму дзіцяці адчуць жах гітлераўскай акупацыі.

Станавілася ўсё страшней. У блізкіх лясах расстрэльвалі ў першую чаргу неарыйцаў - габрэяў і цыганоў. Падчас майго апошняга наведвання Ліды завезлі мяне з маім мужам у блізкі лес, дзе знаходзіцца прыгожы помнік, які паказвае жанчыну і мужчыну ў натуральную велічыню. На гэтым месцы ў 1942 годзе расстралялі вялікую групу габрэяў.

Другая аповесць з там-тога перыяду носіць назву "Ванда". Я не ведаю, адкуль узялася Ванда ў нашым доме на вуліцы 11 Лістапада. Тата прывёў непаўнагадовую дзяўчынку, сказаўшы, што яна нашая вельмі далёкая сваячка, сірата, і што яна застанецца ў нас і будзе дапамагаць па доме. Нават мама падавалася захопленай знянацку, а, можа, толькі падавалася... Я канешне абрадавалася, што буду мець таварышку. Ванда, досыць дробная і нямоцная, была фактычна старэйшая, чым я думала. А сёння, праз гады, я абсалютна пэўная, што Ванда мела неарыйскае паходжанне. Яна прабыла ў нашым доме да канца II Сусветнай вайны. Дадам, што знікла (ўжо з Беластоку) так жа нечакана, як і з'явілася. Тата праінфармаваў нас, што яна паехала на так званыя "заходнія землі" і не захацела развітвацца, каб не расчуліцца пасля некалькіх гадоў сумесных перажыванняў. А можа Ванда называлася інача? Усялякі след яе знік.

З Вандаю мяне звязваюць шматлікія ўспаміны, але толькі адзін дэталёвы. Мама - спакойная і стрыманая - уся знервавалася, калі напэўна з яе згоды я паехала з Вандаю з Талачкоўшчыны ў Ліду фурманкай, везучы малочныя прадукты і яйкі з вёскі на Лідскі рынак. Я была ў той час з мамай, братам - Янкам і Вандай у той жа Талачкоўшыне ў сваяка - Зыгмунта Сегеня, на адлегласкі звыш дзесяці кіламетраў ад Ліды. Ванда ўмела бездакорна ўпраўляцца з канём, а пан Сегень абавязкова хацеў перадаць нейкім знаёмым з Ліды тую прадуктовую пасылку. Мама, пасля пэўных ваганняў, згадзілася, каб я суправаджала Ванду. Дарога ў абодва бакі і перадача каша знаёмым ў Лідзе аказаліся безаварыйнымі. У Талачкоўшчыне, калі мы шчасліва вярнуліся, мама, Ванда і я даведаліся, што перавозілі схаваную зброю. І ўжо тады дайшло да сур'ёзнай сваркі з панам Сегенем, што ён не меў права без згоды бацькоў падвяргаць мяне і Ванду смяртэльнай небяспецы. Пасля прыезду з Ліды таты, які вярнуўся са шпіталя, ён застаў спрэчку з гаспадаром дома залагоджанай.

Неўзабаве, непадалёк ад тога засценка, гітлераўцы ўчынілі ганебнае забойства маладых хлопцаў з Арміі Краёвай - ліцаістаў з Ліды, якія спалі ў гумне. Уночы немцы падперлі дзверы і падпалілі будынак. Усе загінулі ў агні. Была агульная жалоба і дыскусія аб бессэнсоўнасці смерці найлепшай польскай лідскай моладзі. Мама прызнала гэта за дадатковае пацверджанне дастаўкі ў Ліду зброі фактычна дзецьмі ў тыя некалькі гадоў.

Падчас нарастаўшай пагрозы планаваных гітлераўцамі экзекуцый над польскай інтэлегенцыяй у Лідзе бацькі вырашылі, каб мама, Янак і я выехалі на той найнебяспечнейшы перыяд ў Жамаслаў - да брата майго таты - дзядзі Вацлава. Ён быў адміністратарам найпрыгажэйшай перадваеннай рэзідэнцыі графаў Умястоўскіх, палаца, які быў спустошаны падчас савецкай акупацыі. Захаваўся флігель і гаспадарчыя будынкі: спраўна дзейнічалі бровар і цэх па вытворчасці знакамітых сыроў - так званых галяндэрскіх (галандскіх). А адначасова, дзядзя Вацлаў, супрацоўнічаў з Арміяй Краёвай, быў галоўным кватэрмайстрам, адказным за пастаўкі прадуктаў для падполля АК на

гэтай тэрыторыі. Якраз у гэтых умовах аказалася я з мамай і братам у Жамаславе.

Прыехалі мы пад вечар. Мінаючы шмат разбураных пакояў, правёў нас дзядзя да месца побыту, недзе ў вуглавой частцы палаца. Прывіталі нас яго жонка і дачка - цёця Ўладзя і Крыся - крыху старэйшая за Янка. На 5 чалавек мелі мы для жыцця два ўпарадкаваныя пакоі, а таксама больш, чым 50-пакаёвы палац, уражвальна пусты і разбураны. Дзядзька жыў у флігелі, мяркую, што ноччу там бурліла падпольнае жыццё. У флігелях жылі работнікі рэзідэнцыі і нямецкія жандары, якія пільнавалі аб'ект, і якія - карыстаючыся з вырабаў бровара - былі неаднаразова не цвярозыя, што давала майму дзядзю магчымасць для супрацы з Арміяй Краёвай. Палац ніхто не наведваў. Як пераносіла мая мама той манаскі побыт у Жамаславе - не ведаю. Янак і кузінка Крыся, калі не было пагодна, бегалі па пакоях, дабягаючы да тэрасы, якая знаходзілася над вадою. Я замест гэтага марыла пра як найхутчэйшае вяртанне ў Ліду з жахлівага, асабліва начамі, Жамаслава. А што я рабіла падчас таго побыту? Вучыла на памяць вельмі доўгі верш "Марафон" Карнеля Уейскага. Паколькі па розных прычынах мы прапускалі заняткі ў таемных класах, задавалі нам для засваення на памяць нейкія тэксты - каб трэніравалася памяць і ўтрымоўваўся патрыятычны змест. Да сёння магу прадэкламаваць па памяці:

*"У Сузе на двары кароль Дарый частуе,*
*сто цудоўных дзяўчын яму слугуе*
*сто нявольнікаў на каленях гаруе..."* і г.д.

Мама глядзела на мяне з разуменнем. На шчасце мы пакінулі Жамаслаў.

Калі Таварыства польскай культуры на Лідчыне зарганізавала прыбылым з Польшчы некалькі гадоў назад наведванне Жамаслава, я не хацела адважыцца заглянуць яшчэ раз у той край. Ніколі не размаўляла з мамай на тую тэму, зрэшты, не ведаю - чаму?

* * *

Калі мы вярнуліся з Жамаслава ў Ліду, то даведаліся, што немцы зрэквізавалі наш дом па вуліцы 11 Лістапада. Нам далі досыць кароткі тэрмін, каб знайсці запасное жыллё. З вялікай цяжкасцю знайшоў тата невялікі драўляны дом на вуліцы Касцюшкі - непадалёк ад будынку пажарнай часткі і побач з вуліцай Сувальскай, якая спаленая ў пажары ўжо не існавала. Падменны дом, які належаў нейкаму пану Мамчыцу, знаходзіўся ў агародчыку і знадворку выглядаў не згорш, але ўнутры ён быў жудасна заінфекцыяваны. Вытручванне тога паскудства ў тым ліку і з дапамогай палення серы цягнулася некалькі дзён. Пазней усё ўнутранае памяшканне было памалявана. Дом быў гатовы для ўсялення. Наша мэбля з вуліцы 11 Лістапада, не змясцілася б ў новым невялікім жыллі. Мама, якая ўпарадкавала перад вайной яе дом-мару, мусіла што найменш палову мэблі раздаць па знаёмых - на перахаванне: каму і куды? Выбар мэблі аказаўся аднак досыць латвы: мама вырашыла, што забярэ ў дом Мамчыца - як гаварылі - толькі тое, што неабходна: шафкі з лекарскім начыннем, стаўшага асновай нашага тагачаснага жыцця, ложкі для спання, шафы для вопраткі, стол для яды і пісьма, крэслы. Нічога больш не магло змясціцца. Любімага сабакі Рэкса ўжо не было пасля яго ваенных прыгодаў.

Павяртаецца ў маю памяць драматычная аповесць, як нямецкі агент застрэліў маладога чальца Арміі Краёвай, які, уцякаючы ад немцаў, бег праз сад ля дому Мамчыца, дзе мы жылі. Тут перад адкрытай брамкай агароду АК-вец выкінуў у кусты рэвальвер, які ўяўляў "corpus delicti" прыладу барацьбы. Гэтым спосабам захаваў бы жыццё, калі б не неспадзяваны стрэл з рук агента. Стрэл той аказаўся смяртэльным. Уся акцыя разыгралася бліскавічна.

Мама была перапужаная, ведаючы, што яна, Янак і я маглі быць расстралянымі гітлераўцамі, як сведкі здарэння ў агародзе нашага дома. Рашэнне маці было маланкавае: мы ў той жа час перайшлі ў кухню, з якой не бачна агароду, які знаходзіўся на супрацьлеглым баку дома. Мама пачала абіраць бульбу, а мне сказала мыць нейкія шкарпэткі. На шчасце, немцы не ўвайшлі ў нашае жыллё. Пасля таго, як перажыванні мамы астылі, я сказала ёй, моцна ўражанай, што ведала загінулага АК-аўца. Распавяла, што падчас побыту ў Ёдках - у цёці Стасі, татавай сястры, якую мы часам адведвалі (Ёдкі знаходзяца некалькі кіламетраў за Лідай), я была запрошана паплаваць на лодцы з кузінкай і тым жа АК-ўцам. Мы плавалі па Лідзейцы ці Дзітве, і ён падараваў кузінцы букет жоўтых вадзяных лілей, а мне - адну белую лілею, сказаўшы, што гэта дар ад русалкі - на шчасце. Пасля выслухвання гэтай аповесці мама станавілася ўсё больш і больш знепакоеннай: яна тлумачыла мне, якая небяспека магла пагражаць кузіне і сваякам у Ёдках, калі б гітлераўцы западозрылі іх у супрацоўніцтве з Арміяй Краёвай на тых абшарах. Падсумоўваю: катэгарычным патрабаваннем мамы было выкрэсліванне з маёй памяці гісторыі пра спатканне ў Ёдках. А цяпер, пры аказіі хачу колькі слоў дадаць аб сабе самой. Тры ці чатыры гады назад я ўдзельнічала ў выязной навуковай сесіі Польскай Акадэміі Навук на Пінскім Палессі. Едучы аўтакарам уздоўж канала Агінскага, я атрымала ў прэзент другі раз у жыцці белую вадзяную лілею, сарваную на водах таго ж канала Агінскага, які знайходзіўся перад II Сусветнай вайной на крэсах Рэчы Паспалітай. Ход падзей падаецца часам непрадбачным. Белая, красовая вадзяная лілея ў пачатку дзяцінства, захаваная ў памяці праз шмат гадоў, і - зноў - белая красовая вадзяная лілея, пасля майго пераходу мяжы ценю.

### 3. Ізноў савецкая акупацыя (1944 - 1945)

Па адступленні немцаў з Савецкага Саюзу ў 1944 годзе ў Ліду зноў увайшлі расейцы. Пачаўся другі этап Савецкай акупацыі. Для мамы - падобна, як і для ўсёй польскай інтылегенцыі - гэта быў час асабліва цяжкі. Не было нават і гаворкі пра вяртанне ў наш дом на вуліцы 11 Лістапада. Знайшлі мы вельмі сціплую двухпакаёвую, але на шчасце чыстую, кватэру

на вуліцы Крупаўскай, каля чыгуначнага пераезду, на адлегласці некалькіх кіламетраў ад Крупава. Нашая сям'я з чатырох чалавек мясцілася ў адным пакоі, а ў другім знаходзіўся псеўда-кабінет лекара, што давала магчымасць атрымаць сродкі на жыццё. Пазней тата пачаў працаваць у заразным шпіталі, але - на жаль, не доўга, быў арыштаваны і пасаджаны ў Лідскую вязніцу. Умовы былі цяжкія, заўшывелая камера на некалькі чалавек і пастаяннае праслухванне. Мама, акрамя сістэматычных перадач ў вязніцу пакункаў з прадуктамі і вопраткай, пачала спробы вызвалення таты з вязніцы. Вялікую спагаду і канкрэтную дапамогу аказалі расейкі - санітаркі з заразнага шпіталя, з якімі бацька працаваў. Супольны план дзейнасці маёй мамы і тых санітарак быў наступны, але не найпросты для рэалізацыі. Падчас нямецкай акупацыі, калі мы яшчэ жылі ў доме на вуліцы 11 Лістапада, мае бацькі пэўны час хавалі - як правіла на адну ноч - тых, каму пагражала смерць, і хто мусіў выбірацца з Лідчыны. Былі гэта найчасцей АК-аўцы, але аднойчы ў нас аказаўся нейкі расеец - камандзір “з лесу”, які аказаўся пасля пераправы ў Савецкі Саюз знакамітым саноўнікам. Маці напісала яму ліст з вялікай просьбай дапамагчы арыштаванаму тату, якому кожную хвіліну пагражала смерць. Адна з расеек-санітарак згадзілася паехаць у Менск (ці ў Маскву - не ведаю), каб дабрацца да гэтага саноўніка і перадаць ліст маёй мамы, пацвердзіўшы каментарам. План удаўся цалкам. Дзякуючы неадкладнаму ўмяшанню гэтай выбітнай асобы з Савецка Саюза, тата неўзабаве быў на свабодзе. Удзячны расіянін (не ведаю, кім ён быў), за выратаванне яго жыцця ў драматычнай сітуацыі, адказаў выратаваннем ад смерці майго бацькі. Доўг быў заплачаны. Рашучасць і мудрая дзейнасць маёй мамы значна паўплывала на вызваленне таты з савецкага вязнення, з якога, як правіла, не вярталіся на свабоду. Мама пасябравала з расейскімі санітаркамі, расейкамі, якія выказалі шмат зычлівасці і дапамогі ўсё нашай сям’і - таксама і ў недалёкай будучыні. Да тога фрагменту аповесці я вярнуся неўзабаве.

* * *

Мама мусіла спаліць, прынесеныя з вязніцы вопратку і бялізну таты - яна была так заінфекавана, што заразіла б усё жыллё. Пасля двух дзён адпачынку, акліматызацыі на свабодзе, бацька вярнуўся на працу ў заразны шпіталь, дзе яго сустрэлі з вялікай радасцю. Але не на доўга. Праз некалькі тыдняў адна з прыязных расеек праінфармавала з вялікай таямніцай маіх бацькоў, што яны знаходзяцца ў спісе асоб, вызначаных НКУС на высылку ў Сібір. Адзіным ратункам магла быць неадкладная рэпатрыяцыя ў Польшчу - у сакавіку 1945 году з Ліды меўся вырушыць першы транспарт рэпатрыянтаў на польскія землі. Часу было няшмат, трэба было атрымаць згоду на рэпатрыяцыю з Савецкага Саюза, рэпатрыяцыйныя дакументы, запакаваць рэчы і пакінуць у Лідзе амаль усё набытае ў жыцці. Але што значыла гэта ўсё ў параўнанні з высылкай у Сібір?

Пры Божай і людской дапамозе ўдалося нам у бліскавічным тэмпе здабыць рэпатрыяцыйныя дакументы і палову таварнага вагона пад упакоўку рэчаў. Другую палову вагона атрымаў ветэрынар з сям'ёю, які выязжаў у Любартава, што на Люблінщчыне, дзе жылі ягоныя сваякі, якія паабяцалі яму будучую працу і жыллё. Нам таксама было прапанавана пасяліцца ў тым жа самым месцы і праца лекара; гэта былі прыгожыя планы, але мае бацькі думалі толькі аб перасячэнні мяжы Савецкага Саюза.

* * *

У тым часе, калі мы рыхтаваліся да выезду ў Польшчу, здарылася ў Лідзе досыць гучнае, драматычнае здарэнне, звязанае з Вандай Баярчык - сястрой даўняй мамінай прыяцелькі Зофіі Баярчык-Чыжэўскай, з якой мама падчас вучобы ва Ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні жыла ў адным пакоі на Антокалі. Не ведаю, што сталася з прыяцелькай мамы, лекаркай паняй Зофіяй, а пані Ванда Баярчык пасля смерці бацькоў жыла з малым дзіцём у прыгожым, бацькоўскім доме па вуліцы 3 Траўня. Савецкія афіцэры канфіскавалі, канешне, значную частку дома, пакінуўшы - як гаварылася - “гаспадыню”. Калі адзін з афіцэраў атрымаў узнагароду, то ён папрасіў паню Ванду засмажыць пару курачак, каб адзначыць той факт урачыстай вячэрай. “Гаспадыня” не магла, канешне, адмовіць яму ў той паслузе, тым больш, што яе не выгналі - як гэта рабілася найчасцей - з роднага, уласнага дому. Яе таксама запрасілі на вячэру. Афіцэры, выпіўшы добрую дозу алкаголю, вырашылі пазабаўляцца стральбой па курах. Забава аказалася з трагічным канцом: першая куля патрапіла ў сядзеўшага найбліжай маёра, і тая ж самая куля патрапіла ў пані Ванду. Таварышы адразу павезлі раненага ў шпіталь і ўратавалі яго, а пані Баярчык засталася адна, без ніякай дапамогі. Яна выбралася неяк з дома на пустую ў поўнач вуліцу. Сцякаючы крывёй і млеючы дабралася да шпіталя, але для выратавання было позна. Яна памерла. Жыхары Ліды былі ўзрушаныя тым здарэннем - трагічным і нялюдскім.

* * *

Выезд у Польшчу набліжаўся ўсё хутчэй. Рэпатрыяцыйны цягнік мусеў выехаць з Ліды ў Вялікі Тыдзень - якраз перад Вялікаднем, які ў той год прыпаў досыць рана. Бацькі прасілі, бабулю Паўліну і нашых сваякоў, каб яны не праводзілі нас на вакзал - развітанне было б надзвычай цяжкім. І так, напрыклад, дзядзя Вілусь прыняў канчатковае рашэнне, што не пакіне Ліду да канца жыцця, цёця Зіна з сынам і нявесткай мела ехаць у Польшчу адным з наступных транспартаў, бабуля Паўліна не рашалася. Шчыра гаворачы, я не памятаю, дзе яна жыла пасля пажару на вуліцы Сувальскай. Мае бацькі былі яшчэ маладыя і поўныя энергіі, лічылі, што само жыццё развязвае самыя найцяжэйшыя праблемы. Калі цягнік выехаў з Ліды, была ўжо самая пара вырашаць, куды маем

ехаць: у Любартава, як раіў нам ветэрынар, або ў Кракаў, дзе, як казалі, чакала нас жыллё. Там знаходзіўся ўжо некалькі месяцаў дзядзя Вацлаў - брат таты, які выбраўся з Жамаслава, і разам з жонкай - радавітай кракавянкаю - і дачкой, дабраўся да Кракава пад змененным прозвішчам з-за дзейнасці ў Арміі Краёвай на Крэсах. Верагодна, але толькі верагодна, чакала нас кракаўскае жыллё. Ці ж напэўна?

У Беластоку, пасля перасячэння савецкай мяжы, нашыя ваганні развязаў сам лёс. Ад цягніка, які меў ехаць далей, адчапілі наш вагон і паставілі яго недзе ў самым канцы станцыі. Як на зло, падаў тыповы сакавіцкі снег з дажджом, а дзверы былі адчыненыя насцеж без магчымасці іх зачыніць. Што вырашылі з іншымі рэпатрыяцыйнымі вагонамі з Ліды - не ведаю. Бацька знайшоў нейкія кавалкі брызенту, каб прыкрыць рэчы і вырашыў пайсці ў горад, дзе жылі і працавалі ягоныя таварышы - выпускнікі ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Пасля спаткання дапамога прыйшла маланкава. Нашыя рэчы перавезлі ў нейкі гараж, а нас з двума чамаданамі - у пакойчык у прыюце ў цэнтры Беластока на вуліцы Элізы Ажэшкі. У пакоі былі чатыры ложкі і ўмывальнік з вадою. На Вялікдзень мы падзяліліся яйкам, пасвенчаным у Беластоцкім касцёле, і з’елі святочны сняданак на чамаданах, пакрытых белым абрусам. Мама нават купіла ў цукерні сапраўдны святочны куліч. Ванда, якая прыехала з намі з Ліды і прабыла ў нас кароткі адрэзак часу, спала - памятаю - у нейкім калідоры, на складным ложку.

Што было далей? Таварышы майго таты ўгаварылі яго застацца ў Беластоку - не хапала лекараў, абяцалі хуткую дапамогу з жыллём. А акрамя таго гэта былі Крэсы, а не далёкі Кракаў ці Любартаў, з вялікай колькасцю пытальнікаў. Тата прыняў рашэнне - застаўся ў Беластоку. Як пасля аказалася - ужо на ўсё жыццё. А працу лекара атрымаў адразу.

А як склаўся лёс мамы? Працавала і пражыла да 1989 года. Гэта значыць ажно 44 гады пасля выезду з Ліды. Быў гэта прыгожы лік гадоў, а таксама прыгожае і годнае жыццё. Эпілог аднак будзе сцiслы і згорнуты па часе. Усе ўспаміны лідзянкі я змясціла толькі ў Лідзе і ў часах, з ёй звязаных. У свой родны горад і на свае, тыя Крэсы мая мама не вярнулася ўжо ніколі. Ці магла пачувацца некалі чужой ва ўласнай Айчыне, калі вырасла на карэнях з-над Лідзейкі, Дзітвы і Нёмана? Не ведаю, але беластоцка-варшаўскія ўспаміны ўжо пісаць не буду. Тая эпоха - разлеглая ў часе і ў яе перажываннях ужо канчаткова закрытая.

**Эпілог**

Пасля таго, як мы аселі ў Беластоку, мая мама адразу ж вырашыла пачаць працаваць, найахвотней па сваёй спецыяльнасці, настаўніцай батанікі ў сярэдняй школе. Але аказалася, што ўсе штаты ў гэтай вобласці ўжо былі занятыя. Маме прапанавалі працу на санітарна-эпідэміялагічнай станцыі пасля сканчэння двухмесячных курсаў у Варшаве. Мама адважылася на выезд з Беластока, хоць цяжкасці існавалі: дагляд за намі, за Янакам і мною - паколькі тата быў заняты з рання да вечара. Дадам, што Ванда ўжо ў гэты час выехала ў так званыя вернутыя землі. Мама, пасля вучобы прапрацавала на санэпідэмстанцыі некалькі год.

Пазней, калі ў Беластоку пачала арганізоўвацца Медыцынская Акадэмія пад кіраўніцтвам прафесара, доктара медыцынскіх навук Тадэвуша Келяноўскага, нанава прызначаны рэктар мусіў стварыць адміністрацыйную секцыю. Ён запрасіў на працу маю маму. Яна такім чынам стала першым работнікам Беластоцкай медыцынскай вучэльні. Пра тое забыта, а ўсё ж варта адсланіць тую белую пляму, запоўніўшы яе прозвішчам Марыі Стасевіч, сціплага працаўніка з 1949 года.

Пасля стварэння Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку паўстала неабходнасць стварэння бібліятэкі медыцынска-прыродазнаўчага профілю - мая мама стала яе арганізатарам і ў першы перыяд дырэктарам: неўзабаве на яе месца ўзялі лекара - доктара медыцынскіх навук Берту Шайкоўскую. Як захавальніца фондаў бібліятэкі мама заставалася ў той інстытуцыі ажно да выхаду на пенсію ў 1972 годзе. У Медыцынскай Акадэміі правяла амаль чвэрць стагоддзя, расставалася з жалем. Яна хацела працаваць далей, бо адчувала і фактычна была ў бібліятэцы патрэбнай. Але з адбіццём пенсійным гадзіннікам 70 гадоў мусіла сысці.

У Беластоку мама асвяжыла кантакты са знаёмымі з універсітэта Стэфана Баторыя: прафесар доктар Вітольд Славінскі выкладаў у Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі батаніку. З той жа віленскай альма матар спаткалася мама з таварышкай - паняй магістрам Янінай Ганткевіч, якая выкладала батаніку ў ліцэі.

Бабулю Паўліну, якая адважылася пакінуць Ліду і пасяліцца ў маіх бацькоў у Беластоку, некалькі разоў адведваў яе лідскі "палавіначнік" - пан Бенька. Дадам, што з Сібіры вярнулася бабуля Стэфанія - мама таты, якая жыла таксама ў нас, у доме бацькоў.

Якою засталася мама ў маёй памяці? Была сумленнаю, незвычайна адказнаю, амбітнаю, з вялікім пачуццём годнасці - таксама і ў адносінах да сям'і; вельмі чулая; завязвала непасрэдны кантакты, у той жа час без ценю фамільярнасці, без пранікнення ва ўласнае жыццё. Беручы пад увагу асабістыя якасці маёй мамы, яе інтэлегентнасць і выбітныя здольнасці да навукі, - чаму доказам яе захаваныя пасведчанні і дыпломы - лічу, што была яна недаацэненаю - вельмі сціплаю і незалежнаю.

* * *

Адыйшла яна 26 снежня 1989 года, у другі дзень Свята Божага Нараджэння. Спачывае на Беластоцкіх каталіцкіх могілках каля магіл яе мужа - Вітольда Стасевіча і яе мамы - Паўліны Стасевіч - самых найбліжэйшых для яе людзей. А Беласток - ён таксама красовы, не такі далёкі ад Ліды.

*Пераклад з польскай*
*Кірыла Сыцько і Наталлі Шышкінай*
*(Здымкі з архіву Ірэны Стасевіч-Ясюковай перадаў Аляксандр Колышка.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Паварот**

Нарэшце прыйшла вестка пра аднаўленне лекцый. Прыехаў як найхутчэй, поўны цікавасці і апасення адначасова.

Пра "орган" ужо ніхто не памятаў. Але эндэцыя кавала жалеза, пакуль гарачае, мабілізуючы супраць Дамбінскага ўсё, што толькі ўдавалася. Таксама і Дамбінскі не спаў у шапку.

"Жагары" выходзілі, як дадатак да "Слова", раз на месяц, чатыры малыя староначкі. Апрача таго, рыхтуючыся да блізкай ужо выбарчай расправы, апекуны Дамбінскага стварылі яшчэ адно выданне: "Воўчыя зубы". Так быццам называўся герб Баторыя, вышыты на нашых баторaўках. І тое выданне выходзіла адразу як дадатак да "Слова".

Становішча Дамбінскага значна паправілася. Пасля той антыгабрэйскай правакацыі, калі істэрыя запанавала ў асяроддзі, людзі неяк супакоіліся і, як часта бывае, зразумеўшы правакацыю, хіснуліся ў бок супраціўны ёй.

У мяне і Шрэдара праз тыя два тыдні нарасталі элементы светапогляднага крызісу. Цяжка мне цяпер прасачыць усе яго этапы. Думаю, што вырашыў таварыш з жывоцікам. Не паддаваўся вытлумачэнню, пакуль я заставаўся на платформе эндэцкай. Ба, па нейкім часе зразумеў, што і на платформе супрацьстаяння эндэцыя - санацыя справа была не да развязвання. Памятаў перш за ўсё папярэднюю восень і маёра рэзервы Карвацкага.

Пэўна хутчэй удалося б мне зрабіць з сабой парадак, калі б той трэці бок стаўся адразу нейкім значнейшым.

Не забыў аднак, што быў і той трэці бок. І што Дамбінскі цалкам яшчэ да яго не належаў.

Штогод у выбарах удзельнічалі тры спісы. Эндэцыя і санацыя здабывалі па некалькі сот галасоў. Той трэці спіс меў заўсёды 30-35 галасоў.

Быў гэта спіс СНМС -у. Хутчэй левы, здаецца, чым які інакшы, быў ён аднак вельмі сектанцкі, не ўмеў патрапіць да больш шырокіх колаў моладзі і на агульных сходах абмяжоўваўся толькі абвяшчэннем дэкларацыі, не разлічваючы нават на магчымасць прарыву да ўлады. Не, я не ўмеў зразумець яго слушнасці, наогул не патрафіў пачуць яго галасок паміж рыку дуэту эндэцка-санацыйнага.

І ўсё ж мы ішлі, ішлі што раз хутчэй да нечага зусім іншага, чым было дагэтуль.

Мабыць яшчэ ў перыяд хваляванняў Шрэдар дабіўся сваёй першай палітычнай пасады. Не памятаю ўжо, выбралі яго ці прызначылі віца-прэзідэнтам Усяпольскай моладзі, і аж па справах ідэйных.

Павінны былі кепска ведаць яго і яго перакананні. Або не ведалі, што робіцца ў яго душы, або ведалі і таму рызыкавалі каркаломна ў спробе ратунку, загадзя вызначанай на няўдачу.

Якраз у той час наш "ідэйны" віца-старшыня што раз з большым імпэтам граз у "жыдакамуне". Нейкі час ён спрабаваў гэтаму супраціўляцца. Потым раптам паддаўся і, як рушыў з месца, дык ужо не мог затрымацца ажно да самага канца...

Не памятаю нічога са святаў. Памятаю першыя месяцы 1932 года. Якраз закончвалася ўва мне мутацыя.

**Бура з "заслонай"**

І тут найперш была паэзія. Як я ўжо пісаў сямтам ("Як я стаў пісьменнікам" у томе паэзіі "Тры павароты") пасля прыгоды на дзядзінцы Пятра Скаргі звярнуўся да нас Загорскі. Бачыў нас на сходзе САП, ведаў што вучымся на паланістыцы. Ішлі туды - акрамя дзяўчат, якія хацелі выйсці замуж - перш за ўсё паэтыпачаткоўцы. Загорскі разбіраўся ў людзях, нават не пытаўся, ці пішам, па-просту захацеў паглядзець.

Я выцягнуў з шафы сшытачак з апошнімі сваімі "творамі", зрэшты напісанымі некалькі гадоў назад. Леан таксама даў чарнавік. З вялікімі эмоцыямі мы ішлі на дагавораную з Загорскім сустрэчу. Трымаўся з намі па-людску, не рассыпаў кампліментаў, не граміў. Далікатна даў зразумець, што ўсё гэта нічога не вартае. Зважаючы на тое, што мы самі былі ў тым перакананы ўжо не менш за год, не было гэта для нас ніякай катастрофай.

Што больш важнае, Загорскі даў нам досыць дакладныя інструкцыі. Выйшаў ужо другі нумар "Лініі". Мы пільна вывучалі яго. Чатыры паэты, надрукаваныя ў ёй (Пшыбас, Ялю Курак, Чухноўскі і Бранкоўскі) сталіся цяпер прадметам нашай дэталёвай увагі.

Той уласна пачатак 1932 года належыць мабыць прызнаць за найвышэйшы перыяд віленснага ўні-

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

версітэцкага рэнесансу.

Студзеньскі (у суме трэці ці чацвёрты) нумар "Жагараў" прынёс перш за ўсё новы падвал Дамбінскага з метафарычным загалоўкам "Падымаем заслону". Некалькі прэтэнзійны ў загалоўку (у наступным нумары Дамбінскі скончыў сваю лекцыю, назваўшы яе "Падымаем заслону - другое тузанне за шкурок"), быў гэты артыкул далейшым і значна менш мэтаскіраваным сведчаннем заангажаванасці Дамбінскага на баку рэвалюцыі.

Цяпер бухнула крыкам. Ужо пасля першага нумара "Жагараў" падшчыпвалі Мацкевіча то тут, то там ў яго ўласным лагеры. Эндэцыя таксама не шкадавала яму шпілек. Але цяпер “падняцце заслоны" Дамбінскім мусіла развязаць сапраўдную сумятню.

Зрэшты цалкам зразумелую. Незразумелае - маю ўражанне - для сённяшняга чытача ёсць нешта цалкам іншае: тое, што яшчэ два месяцы група "Жагараў" трымалася "Слова".

Уласна гэты факт падкрэслівае выключную маляўнічасць тагачаснай Вільні. Ва ўсёй Польшчы ёсць толькі адно выданне, галоўны рэдактар якога праграмна абвяшчае сябе манархістам. Ці ёсць ён сапраўды, сказалі б сёння, "манархістам з прынцыпамі", ці - хутчэй з прынцыпамі, але на практыцы з'яўляецца ваяўнічым "санатарам", і ў найбольш кансерватыўным выглядзе - "нясвіжскім". Яго выданне - добра рэдагаванае - дэфіцытнае. Фінансуе яго не нейкі ваяводскі ўрад, як гэта ёсць з "Курвелем" або "Кур'ерам Віленскім", а найзаможнейшая частка красовай земскай - магнатэрыі. Словам, паводле нашых паняццяў - дно.

І ўласна пры "Слове" выбухаў скандал з "Жагарамі". Уласна ў "Жагарах" Дамбінскі апавяшчае палымяныя філіпікі супраць капіталізму наогул, і супраць польскага капіталізму, хілага, абапёртага на заграніцу і на тую ж земскую магнатэрыю, у прыватнасці.

Гэта мусіла зрабіць ураженне ашаламляльнае. Не маю паняцца, які ход меў скандал. Без цяжкасці ўяўляю сабе матывы, якія схілілі Мацневіча да прыгарнення "Жагараў" і Дамбінскага. Без цяжкасці добра рознакаляровую, сапраўды рэнесансовую (хоць з легкім запашком ужо барокавым...) асобу Мацкевіча. Акрамя таго не магу сабе ўявіць аргументаў, якімі спрабаваў супакоіць хваляванне сваіх найшматлікіх прыяцеляў ад сэрца і кішэні. Можа тлумачыў ім, што павінны пачакаць, што гэта толькі пачатак ідэйнай эвалюцыі такога незвычайнага чалавека, як Дамбінскі, і што гэта толькі - як у драме, або хутчэй у фільме - для выклікання напружанасці, але што заканчэнне будзе, напэўна, добрае.

Бура мусіла быць шматкірунковая і шматплоскасцевая. Тагачасная Польшча была тэрыторыяй дзейнасці наўсцяж яшчэ вельмі шматлікіх партыяк і палітычных арыентацый. Сакацыйны націск вёў іх паволі да ўніфікацыі, але нават аб'ядноўваючыся, захоўвалі яны свае асаблівасці і на кожнае большменш важнае здарэнне рэагавалі не цалкам аднолькава. Толькі ўсе адценкі эндэцыі мелі адносна Дамбінскага адносіны недвузначна негатыўныя. Народнікі былі ў Вільні не заўважныя. Але ППС (Польская сацыялістычная партыя), акрамя сваёй вялікай слабасці ў Вільні і праваапартуністычнай арыентацыі, мусела ў той час разгледзець Дамбінскага. Першыя кантакты, як мне здаецца, не былі ўдачныя. З аднаго боку падтрымлівалі яго ўлады, а з другога боку ў яго выступах грымелі громы супраць дэмалібералаў. Патрэцяе, зрэшты, і той каталіцкі пах не аднаму перашкаджаў, засланяючы ад праўдзівага палітычнага аналізу казус Дамбінскага.

Цытавалі - ужо ў "Па-просту" - сатырычны верш Тувіма, надрукаваны, здаецца , у "Літаратурных ведамсцях", пра "мутнага Генія" і пра "буйду" ім абвешчаную. Вось знакамітае двухрадкоўе:

*І так расла буйда што раз большая,*
*А на вяршыні стаяў амаль крыж.*

"Па-просту" зласліва дадало:

*Ведаю, мой коню, чаму дрыжыш.*
*Мне і табе баліць крыж.*

Звярніце ўвагу, Дамбінскі сам па сабе не быў з'явай непаўторнай. Польшча гадоў вялікага крызісу праходзіла праз вялікае разумовае браджэнне, праявы якога ў палітычным руху былі нязвыкла яскравыя. У той самы час, г.зн. у гадах 31-33, паўсталі або набралі размах некалькі моладзевых груп з вельмі прынцыповымі палітычнымі праграмамі. Я ўжо пералічаў уласна віленскія. Але, напрыклад, у Кракаве паўстала ў той самы час больш-менш такая напрыклад Вялікадзяржаўная Думка, моладзевая кансерватыўная арганізацыя, членам якой праз нейкі час быў Ксаверы Прушынскі, а кіраўніком - сённяшні рэдактар парыжскай "Культуры" Гедройць. І яна, шукаючы папулярнасці, не гідзілася "рэвалюцыйнай", калі не ідэалогіі, то фразеалогіі. Там жа паўстала пазней у Легіёне маладых фронда сапраўды левая, здаецца са Збігневам Запасевічам і Казімірам Намыслоўскім на чале. Сам зрэшты Легіён маладых быў ужо спробай працягу санацыі на моладзь і з той мэтай какетнічаў сваёй маладосцю, навізной, "рррэвалюцыйнасцю". Нават эндэцыя паддалася той напрузе, найперш заклікаючы Усяпольскую моладзь, а потым пазбягаючы оэнэраўскага канфлікту (оэнэраўцы - члены фашысцкай арганізацыі "Нацыянальна-радыкальны лагер" - “Oboz Narodowo-Radykalny”). Нават "сяляне " (дзеячы Сялянскай партыі) у той жа больш-менш час ствараюць “Весткі”.

У паветры вісіць мода на нешта новае, левае і сама меншае радыкальнае. Нічога дзіўнага, што ў хаосе тых ініцыятыў той і гэты фальшыва адчытваў таго і гэтага.

Здаецца і КПП, і КПЗБ спачатку дапусцілі тую самую памылку і не патрафлілі распазнаць у Дамбінскім таго, што ў ім - у будучыні - мела дамінаваць. Ва ўсякім разе ў той самы час было ва ўніверсітэце пару чалавек, пра якіх шапталі, што яны камуністы, якія выступалі на сходах, прамаўляючы з марксісцкіх пазіцый (напр. Варона). Не падтрымлівалі яны Дамбінскага і нават тое-сёе з яго праграмы крытыкавалі.

У арганізацыйна-ідэйным раздраі, якім была Польшча пачатку трыццатых гадоў, рэкорд балагану біла ўладная санацыя. Беручы груба, сабраліся ў ёй элементы трох радоў. Па-першае - згаданыя ўжо сферы кансерватыўна-абшарніцкія. Па-другое - людзі, звязаныя тагачасна з Пілсудскім, якія пайшлі за ім з ППС, і ў якіх не прайшлі да канца нейкія сціплыя "левыя" сімпатыі. Па-трэцяе - нарэшце, элементы, звязаныя з адпаведнымі буйнакапіталістычнымі коламі, якія арыентаваліся што раз выразней на фашысцкую мадэль дзяржавы.

Гэта падзел тэарэтычны. На практыцы кожная з тых арыентацый мела па некалькі груповак, зрэшты, звязаных з сабой персанальна, не даючы развязацца.

У тых варунках кожны новы выбітны чалавек, які сустракаўся з санацыяй, выклікаў у ёй узрушэнні і рэакцыю, пралічыць якія не патрапілі б нават найлепшыя электронныя мазгі. Уласна гэта пачыналася пасля апублікавання такой пракламацыі, як "Падымаем заслону".

**"Сялянка"**

Канешне, мы не мелі пра гэта зялёнага паняцця. Сядзелі са Шрэдарам на Гандлёвай, пісалі вершыкі і адразу дралі іх на шматкі.

Сама справа тэарэтычна была простая. Ведалі па-над усялякім сумненнем, што рытм, што "катарынка" ("шарманка") ёсць рэч аднолькава непрыдатная, як выціранне носа двума пальцамі: Пшыбас нас гэтаму навучыў. Рыфмы таксама былі не добрыя, але менш. Ну і ўсё павінна было быць антыкапіталістычным. Гэтаму нас навучыў і Дамбінскі, і Мілаш.

Напісаў пару такіх проб. Некаторые мелі рысу касмічную. Загорскаму аднак не падабалася залішняе перапаўненне іх паняццямі заміж вобразаў. Сабраўся яшчэ раз да работы. За тэму ўзяў нешта, што было (і застаецца ў рэшткавай форме да сёння) мабыць найлепшым маім маральным шокам, няроўнасць грамадскіх лёсаў, свядомасць, што ты з'яўляешся прывіліяваным паводле астатніх. Нешта, чым, калі і не ганарыўся, то прынамсі карыстаўся без ніякіх згразот сумнення, без неадкладнай літасці да бедакоў.

Можа гэта быў той элемен мутацыі? Я быў сынам палкоўніка. Ад дзесяці гадоў, ад прыезду ў Польшчу гэты факт у многіх сітуацыях уладкоўваў мне жыццё, даваў "фору" перад іншымі. Я прывык да падсвядомага разліку на той козыр і пачуваўся пакрыўджаным, калі тых "фораў" мне забракавала.

Наступаўшая ўва мне змена паняццяў перавярнула гэтае перакананне ўверх нагамі. Я пачаў адчуваць сябе вінаватым перад тымі пакрыўджанымі. Вінаватым за свае прывілеі, за свой узровень жыцця, за сваю павольна нарасталую адукаванасць.

Вершык называўся "Сялянка". Быў ён спробай перакладу тога пачуццёвага стану на адзін вобраз і адно лірычнае ўзнаўленне.

Быў вельмі кепскі. Але якое гэта мае значэнне! У лютаўскім нумары "Жагараў" пад велізарным артыкулам Дамбінскага вершык убачыў дзённае святло.

Параўноўваючы свае пачуцці з іншымі, апісанымі шматразова рэакцыямі на такі самы факт, не бачу ў сабе ніякай арыгінальнасці. Быў аслеплены. Хадзіў па ўніверы, як лунацік. На кожнага глядзеў, як на чалавека, які не толькі мусіў заўважыць і прачытаць, але і захапіцца.

Смешна, але ў тым душэўным стане было нешта са спорту. У студзеньскім нумары надрукавалі "Жагары" першы верш Маслінскага. Ён быў на год старэйшы за нас, тое, што нас апярэдзіў, было цалкам натуральна. Але паміж мной і Шрэдарам завязалася падсвядомае спаборніцтва: хто першы. Ну і вось вынік.

Надрукаванне "Сялянкі" прыкметна дапамагло мне ў адным: наступныя вершы, пісаныя новай манерай, ішлі мне латвей і атрымоўваліся лепей. На самім сабе пераканаўся пра існаванне жалезнага правіла: паэт не развіваецца ў шуфлядзе. Толькі выключна моцная асоба патрафіць заўважыць глыбшыя слабасці яшчэ ў рукапіснай стадыі маладога твору. А можа справа тут не толькі ў слабасці, а ў пэўнай цэльнасці бачання рэчы. Толькі наданне твору аб'ектыўнага існавання, г.зн. апублікаванне яго дазваляе аўтару, як гаворыцца, пайсці далей.

Хадзіў трыумфальна некалькі дзён. Не гледзячы на тое, што ніхто неяк не заахвочваў мяне захапленнем. На семінары ў Калбушэўскага дзяўчаты хіхікалі, тыкаючы ў верш пальчыкамі. Не праймалі. Меў ужо ў сабе выпрацаваны імунітэт, ці адпор на такія рэчы. Вынікаў ён з вельмі простай пазіцыі: што там яны разумеюць! Яны былі пасэісткамі ці старамоднымі. Будучага мастацтва былі зразумець не ў стане.

Той такі аптымістычны, выратавальны для самапачуцця маладога паэта пагляд у нашым выпадку станавіўся тым мацнейшым, што быў абапёрты на "класавы" фундамент. Яны былі прадстаўніцамі згнілой звышэстэтычнай буржуазіі. Мы ў той час бяссумнеўна прадстаўляліся маладым, рэвалюцыйным пралетарскім мастацтвам.

**Выбары**

Да такіх даходзіла абагульненняў у паэзіі ў той час, калі рэальнасць празаічная, ці рэалістычная, была яшчэ зусім іншая. Мы яшчэ працягвалі належаць да эндэцыі.

Усвядамлялі сабе абсурднасць гэтага. Усе нашыя сімпатыі былі ўжо на баку Дамбінскага і нават яшчэ далей. Але праз нейкі час мы не маглі з тога зрабіць арганізацыйных высноваў.

Справа была простая. Дамбінскі быў пры ўладзе - і ўдвайне. Яшчэ доўга ён меў падтымку ўплывовых санацыйных сілаў. Трымаў таксама "стырно ўрадаў" ва ўніверсітэце, як старшыня братняка. Уласна падходзіла да канца зацятая выбарчая кампанія.

Мы са Шрэдарам, Штахэльскім, Пачынскім, Главацкім і яшчэ некалькімі чалавекамі былі ўжо цалкам пад уплывам Дамбінскага. Аднак мы лічылі, што не выпадае нам пераходзіць на яго бок перад выбарамі.

Адбываліся яны ў велізарнай аўдыторыі імя Снядэцкіх. Нармальна праводзілі ў ёй лекцыі для

найшматлікіх факультэтаў і курсаў - напрыклад, для першага году права. Размяшчалася яна на трэцім паверсе галоўнага гмаха.

Была гэта вялікая зала з закругленай галярэяй, гіпсавымі вазамі, пэўнай колькасцю драўляных калон, сцэнай і морам крэсел. Магло ў ёй змясціцца звыш тысячы чалавек. Паралельна з ёю ішоў калідор, любімае месца шпацыраў тых, хто не мог вытрымаць гаварыльні; вялі з яго ў залу двое дзвярэй - вялікія і малыя. Былі яны вельмі важнымі, таму што галасаванне адбывалася якраз праз уваход ці выхад праз адны дзверы ці праз другія.

Прыхільнікі Дамбінскага многія годы ішлі цераз вялікія. Называлі нават сябе Лагерам вялікіх дзвярэй. Эндэцыя хадзіла цераз малыя. Трэцяя сіла, ЗНМС, была дастаткова малой, каб яе накіраваць на галярэю.

Не шмат мне засталося ў памяці з гэтага пераломнага сходу. Ён быў дастаткова прыстойны, бо таму што без боек. Эндэкі на самай справе падрыхтавалі пару нейкіх скандалікаў, у т.л. у апошнюю хвілю пускаючы ўлётку, якая абвінавачвала адміністрацыю Дамбінскага ў нейкіх злоўжываннях, але не зрабіла яна асаблівага ўражання.

Дыскусія была доўгая і нудная. Ужо тады я не ўмеў слухаць балбатню. Пару разоў прамаўляў Дамбінскі. Ён меў надзвычайны ўплыў на настроі залы. Прызнаюся, што на мяне ўздзейнічаў не столькі яго талент красамоўны, як палітычная пазіцыя, якую ён пачынаў займаць.

Але прамовы прамовамі, а значная большасць прысутных прыйшла на сход ужо з гатовым рашэннем. Пішучы сатырычны рэпартаж з выбараў я ўзгадаў, што пасля некалькігадзіннай дыскусіі аратарам удалося пераканаць аднаго не перакананага - ён пастанавіў: устрымацца ад галасавання...

Галасаванне - два віры пры дзвярах. Ідзём яшчэ цераз "малыя". Відаць адразу, што тут перавага. Абодва натоўпы выходзяць на калідор і перакідваюцца кіслымі ўколамі.

Абвяшчаюць вынікі: эндэцыя - пяцьсот з нечым, навуковае кола - трыста з нечым, ЗНМС - трыццаць з нечым.

Такая вялікая перавага эндэцыі вынікала з дзвюх прычын: амаль усе "малькі" пасля асенніх прыгод пайшлі з эндэцыяй, і па-другое, прыведзеныя ў астатнюю хвілю клерыкі з тэалагіннага падтрымалі з'яднаным блок праціўнікаў Дамбінскага, не гледзячы, што ён усё ж католік.

Выбух энтузіязму ў “Лагеры малых дзвярэй”. Амаль што спевы.

Выходзім, не далучаемся да той радасці. Назаўтра Шрэдар складае абавязкі віца-старшыні па ідэйных справах Усяпольскай моладзі. Разам з ім выходзіць цэлая група.

**К. І.**

Тыя выбары адыгралі вялікую ролю ва ўніверсітэцкім жыцці і ў далейшым развіцці Дамбінскага.

Уплыў той быў поўны спрэчнасці. У жыцці навучальні абазначаў ён пачатак безагляднай перавагі эндэцыі. УСБ у тым годзе выраўняў сваю палітычную лінію паводле пераважнай колькасці вышэйшых навучэльняў. Ад гэтага часу аж да вайны ані разу эндэкам ніхто сур'ёзна не пагражаў на іхніх пазіцыях, не гледзячы на тое, што да канца выступалі на выбарах антыэндэцкія групы часткова - санацыйныя, потым - пераважна левыя.

У самой універсітэцкай эндэцыі прайшлі, зрэшты, сур'ёзныя змены. Адышлі ў цень больш памяркоўныя, культурныя лідары накшталт Ахоцкага ці Галабурды. Пачалі выплываць дэмагогі з выразнымі фашысцкімі рысамі, як напрыклад такі Лахцін, па паходжанні белы расеец, эндэцкі правадыр аж да выбуху вайны, на сёння - эміграцыйны дзеяч.

Паволі пачалі мяняцца таксама форма барацьбы. Замест дыскусіі пачала выходзіць на пярэдні план бойка. У 1930 годзе эндэцыя баранілася ад баевікоў Стральца. Ужо ў наступным годзе яна сама арганізавала антыгабрэйскія выступленні і з кожным годам пашырала фронт авантур - недзе ў 1937 стварыла крытынскі "Альказар" у Акадэмічным доме на Боўфалавай гары і бадай што ў наступным давяла да лаўкавага гета, сапраўды вялікай "перамогі", як на час за год перад Вераснем.

Можна сказаць, што ўласна гэтая палітычная эвалюцыя паклала канец адраджэнню, пра якое я столькі тут пішу. У атмасферы заядлай палітычнай барацьбы муселі паволі замоўкнуць музы, таварышы пераставалі знацца, замест жарту што раз часцей пачаў гучаць паклёп.

Калі на УСБ уплыў гэтых выбараў быў безумоўна адмоўны, то на самога Дамбінскага і на тое, што пазней назвалі яго "групай", тая параза - як мне здаецца - аказала ўплыў дадатны.

Перш за ўсё разбурыла сумненні, аблегчыла рашэнні. У санацыйных колах ужо пару месяцаў ішла барацьба на фоне адносінаў да Дамбінскага. "Слова" адраклося ад яго, цяпер, пасля паражэння, тым латвей далося тое самае рашэнне іншым санацыйным катэгорыям. Быў збянтэжаны, калі меў уладу, цяпер не павінен быў гэтага саромецца, разлука сталася простай.

Уласна Дамбінскі скончыў вучобу. Страціўшы Братняк, страціў найважнейшую сваю апору - Кола праўнікаў (юрыстаў). Канешне, не застаўся адзін, толькі што змянілася яго атачэнне.

"Адышло" ад яго шмат студэнтаў з Кола праўнікаў, тых, якія былі ў кіраўніцтве Братняка, а часта нават гралі значную ролю. Пакінула яго пераважная большасць Адраджэння.

Частка з Адраджэння аднак засталася: такая, напрыклад, Муха Жаромская, Уладак Барысевіч, Курачыцкі. Засталося з ім пару даўніх сяброў Легіёна маладых, напрыклад, Ендрыхоўскі. Засталося шмат "неарганізаваных": дзве сястры Дзявіцкія, Ганначка Кампельская, Казімір Петрусевіч, Гуга Савіцкая, Ян Друта. Нарэшце аб'явіліся мы - Шрэдар, Штахельскі, Пачынскі.

У той вельмі цмяны перыяд, я круціўся на перыферыі - не шмат бачыў і разумеў. "Група" праводзіла

раз-пораз нейкія арганізацыйныя накіды. Нейкі час, напрыклад, існаваў Клуб інтэлектуалістаў, ці "Каі". Я канешне належаў да яго. Былі нейкія сходы. Атрымліваў часам паперкі з такімі, напрыклад, тэкстамі: "К.І. Шэфства дысцыпліны".

У паперцы "стаяла" нешта пра прыход на сходы ці аплату падаткаў. Так называліся складкі. Вызначалі іх прапарцыйна ад даходаў. Не думаю, аднак, каб тыя платы трывалі даўжэй, чым да канікулаў. Як ва ўсіх студэнцкіх імправізацыях канец школьнага года быў канцом арганізацыйнай актыўнасці.

Але пакуль К.І. скончыўся, я перажыў многа. Памятаю, напрыклад такую дэталь. Прыходжу нечага ў "Курвель". Бачу аднаго з найбліжэйшых нядаўна да Дамбінскага, Рыньцу. Хачу пра нешта з ім пагаварыць, але ён сухі, маўклівы. З'яўляецца Ежы Загорскі, нехта яшчэ і нейкі незнаёмы студэнт. Яго міна звяртае маю ўвагу на выключнасць сітуацыі - чырвоны, змешаны, вочы бегаюць. Загорскі і Рыньца дыстанцыйна развітваюцца са мной. Я выходжу.

Толькі пазней даведаўся: гэта быў суд над шпікам! Загорскі на нейкай справе пайшоў у нейкую гарадскую паліцэйскую ўправу. Мусіў чакаць, машынальна зайшоў у суседні пакой. А там сядзеў той студэнцік і заўзята пісаў. Падняў галаву, убачыў Загорскага і расцвіў:

- А нас усё болей! Клега таксама супраць тых бальшавікоў. Віншую, віншую.

Калі спахапіўся, што даў маху, выскачыў за Загорскім на калідор, плакаў, кляўся, што яго прымусілі. Ужо тады лайдакі апраўдваліся, што сіла вышэй...

**Казік**

Той канец года я пражываў у выключнай эйфарыі. Выхад з "Усяпольскай моладзі" і "пераход" да Дамбінскага быў толькі знешнім дробным праяўленнем перамен, якія ўва мне адбываліся. Важны быў іх аўтаматызм.

Недзе восенню супольнымі высілкамі Шрэдара, Пшыбыся, Мілаша і "таварыша з жывоцікам" былі ўва мне зрушаны салідныя, хоць не глыбокія светапоглядныя традыялістычна - антысанацыйна - эндэцкія пазіцыі. І ўжо раз зрушыўшы з месца, не ўмеў затрымацца.

Не гавару ўжо пра санацыю з цэлай гамай яе ньюансаў. Ані хвіліны не думаў пра такую прыстань, Усе "дэмаліберальныя" прытулкі загідзіў мне Дамбінскі сваімі "падваламі" ў "Жагарах". *Eo ipso* не да прыняцця станавіўся сацыял-дэмакратызм.

Раз зрушыўшыся з месца, я не мог ужо затрымацца нідзе, акрамя як у канцы, гэта значыць - у камунізме.

Для хлопца ў маёй сітуацыі абазначала гэта - паставіць на галаў усё, што дагэтуль думаў пра справы "апорныя". О дзіва, такі паварот усяго дагары нагамі не з'яўляецца, як аказалася, ані выключна цяжкім, ані надмерна нявыгадным.

На працягу гэтай зімы пачаў спасцігаць не без здзіўлення, што пэўныя мае настаўнікі як бы застаюцца ззаду. Так Шрэдар раз-пораз выказваў дзіўную засцярогу там, дзе для мяне ўсё выглядала проста і зразумела. Так і ў К.І. - дзе змагаліся, або проста сутыкаліся паміж сабой досыць розныя палітычныя адценні - я адразу пачуўся на найбольш левым крыле, недзе каля, напрыклад, Казіка Петрусевіча.

Была гэта нязвыкла маляўнічая постаць. Малы, з рудымі вусікамі і блакітнымі вачыма, вельмі рухавы, з моцным, хоць тонкім галаском - меў не адну нагоду, каб навязаць уяўленні маладым адэптам К.І.

Ужо само паходжанне: ён быў сынам знакамітага менскага, а потым віленскага адваката, які трыццаць з нечым гадоў таму назад браў удзел у першым з'ездзе РСДРП у 1898 годзе ў Менску.

Ведаю, што з'езд быў нешматлікі, няўдачны і закончаны правалам. Стары Петрусевіч на той час быў ужо, бадай, астатнім жывым яго ўдзельнікам. Была гэта жывая рэліквія міжнароднага рабочага руху, хоць ён даўно ўжо адышоў ад палітычнай дзейнасці.

Яго сын за тое якраз у яе ўваходзіў. Смутна на паўслоўца дазваляў нам жоўтадзюбым, падазраваць, што меў ужо дачыненні з праўдзівым нелегальным камунізмам. Нейкі час працаваў матросам на караблі. Гэтым хваліўся надмерна. Пры кожнай аказіі сыпаў праклёнамі на незразумелых мовах, гаворачы проста, забойнымі. Напрыклад, "сатана пергола". Гэта мела быць па-фінску.

Але і па-за гэтай знешняй маляўнічасцю Петрусевіч у К.І. пачаў адыгрываць што раз большую ролю, асабліва адносна навіцыятаў майго кшталту. Стаўся ён для мяне нечым накшталт свецкага ці хутчэй палітычнага капелана. Яго ўхвала пачала што раз больш уплываць на мае погляды і пазіцыі.

Разважаю часам над механізмам той маёй змены поглядаў. Адносна камунізму з дзяцінства займаў пазіцыю рашуча неахвотную, хоць агульную. Успаміны з 1920 году плюс тэксты белагвардзейскіх выданняў, плюс усё, што на тую тэму афіцыйна гаварылі ў тагачаснай Польшчы, зрабілі так, што калі глядзеў на ўсход, то бачыў традыцыйнага калматага бальшавіка з нажом у зубах.

Што сталася асноўным маторам такіх радыкальных зменаў?

Думаю, што перш за ўсё ролю сыгралі негатыўныя моманты. А менавіта: чарговае, год за годам скампраматаванне дзвюх найсаліднейшых антыкамуністычных сіл у Польшчы.

На ўласныя вочы бачыў напад санацыйных баевікоў на эндэцкі мітынг. Праз год на маіх вачах білі выцягнутых з майстэрні габрэяў. Адно і другое чынілі сілы, якія камуністаў абвінавачвалі ў негуманнасці. Тыя два факты, калі папраўдзе, не даказвалі, што камуністы вельмі гуманныя, але затое наогул перасоўвалі дыскусію з гэтай плоскасці ў іншую.

Адапхнуты і ад санацыі, і ад эндэцыі іхняй практыкай, я пачаў пагарджаць што раз з большым непрыняццем іхняй антыкамуністычнай прапагандай. У той час я пачаў спатыкацца з савецкай літаратурай, напрыклад з Маякоўскім. Адначасова на свеце адбываліся два паралельныя, але наўпрост супрацьлеглыя працэсы: крызіс, які ў гэтым годзе дасягнуў дна ў капі-

талістычным свеце і пяцігодка. У той час польская прэса яшчэ не была так выдрасіравана ў антысавецкай прапагандзе, пра будоўлі пяцігодкі пісалі досыць часта і абшырна.

Грамадскі лад, збанкрутаваны ў плоскасці міжчалавечых стасункаў, банкрутаваў па чарзе ў плоскасці гаспадарчай.

Я паступова даходзіў да абагульненняў, якія тлумачылі цяжкую атмасферу грамадзянскай вайны. Да таго яшчэ, як спазнаў бальшавіцкую аргументацыю, я ўжо быў гатоў прабачыць ім вельмі шмат: прынамсі нешта робяць, прынамсі будуюць. А гэтыя тут і эндэкі, і санатары далёкія ад гуманізму і ў дадатак не маюць ніякай праграмы.

Характэрная камуністычная прапаганда прыйшла пазней. Трапіла на падатны грунт у плане кампраментацыі тых дзвюх сілаў. Думаю, што чарговасць працэсаў змены поглядаў ёсць правільная. Заўсёды спачатку ломіцца старое, і толькі потым здабываецца здольнасць спасціжэння новага. Найлепшая, найспрытнейшая прапаганда нічога не зробіць, пакуль не скампраментуецца "папярэдняя" ідэалогія.

**"Перпендыкуляры"**

У сакавіку "Жагары" надрукавалі мой новы верш і маленькую нататку пра асананс. Калі папраўдзе, то нейкую зацемку надрукаваў таксама і Шрэдар, Маслінскі ж апублікаваў цяпер свой найлепшы верш ("Раўт герояў аповесці"), але гэта мне не перашкодзіла перажыць нязвыкла інтэнсіўную радасць.

Пасля двух надрукаваных вершыкаў я пачаў адчуваць сябе, як знакаміты паэт. Папраўдзе павінен быў дадаваць "малады". Але і той прыметнік падаваўся мне незвычайна ганаровым. Малады - гэта значыць такі, ад якога ўсяго можна спадзявацца. Немалады, гэта значыць - той які не расце.

"Немаладосць" для нас пачыналася ад трыццаці. Са спачуваннем глядзеў на Буйніцкага, якому да яе было найбліжай. Цудоўны перыяд у жыцці, так капітальна сфальшыўлена оптыка жыццёвых пераваг і дасягненняў. Два вершыкі, абодва слабыя, дазвалялі мне глядзець з непадробным спачуваннем на ўсіх прызнаных ў паэтыцкай славе.

Вялікдзень мінуў якраз на той эйфарыі. Мімаходзь зляпіў сваю першую "заангажаваную" паэмку.

Недзе ў той час (а можа ў 1933?) зачынілі ў Варшаве легальнае камуністычнае выданне "Літаратурны месячнік". Пры гэтым дайшло да арыштаў. Быў арыштаваны нават адзін паэт: Аляксандр Ват.

Уласна яму я пасвяціў свой твор. Назваў: "Аляксандр Хват" - як вядома, якраз так называецца аўтар "Беспрацоўнага Люцыпара". Не чытаў да гэтага тога "Люцыпара". Пракламаваў толькі вершам свае новыя пагляды і свой погляд на іх тагачаснага суносьбіта.

Былі яны зрэшты вельмі яшчэ агульныя і смутныя. У той самы час (зноў не ўпэўнены, ці не на год пазней) у Польшчы пакаралі смерцю двух украінскіх нацыяналістаў - Біласа і Данілішына, здаецца, забойцаў Галоўкі. І тым таксама я прысвяціў верш.

Тым часам бура вакол Дамбінскага нарастала. "Жагары" перасталі выходзіць. Разарвалі стасункі са "Словам" таксама "Ваўчыя Зубы". Нейкі час выходзілі самастойна, як "Воўчыя Іклы", але пасля паразы Дамбінскага сканалі канчаткова.

Калі я прыехаў у Вільню пасля Вялікадня, выйшаў здаецца, першы нумар "Перпендыкуляраў". Папросту суполка "Жагараў", якой Мацкевіч выгаварыў прытулак, прымяніла тады ўжо прыём так папулярны сёння ў міжнародных стасунках, г.зн. - пайшла да іхняга найзацятага канкурэнта, ці ў "Кур'ер Віленскі".

Пры "Кур'еры" ўжо колькі месяцаў назад паўстала нешта, што мела канкураваць з "Жагарамі". А менавіта сабралася групка маладзёнаў, не запрошаных у "Жагары", і заснавала сваё контрвыданне. Называлася яна "Паласа" ("Стужка").

Без ніякай палітычнай праграмы і без ніякай індывідуальнасці паэтычнай - выданне гэтае не было ў стане канкураваць з "Жагарамі". Хто чуў у Польшчы прозвішчы Юзафа Буйноўскага, Мечыслава Катліцкага, Давідовіча. Той, апошні яшчэ быў паэтычна найцікаўшы, але з літаратурай парваў вельмі рана. Буйноўскі - вельмі прэтэнзійны эпілон, ад часу да часу публікуе нейкія дробязі на эміграцыі. Катліцкі прызямліўся ажно ў Новай Зеландыі як апякун групы польскіх дзяцей, вывезеных туды з Блізкага Ўсходу.

Быў яшчэ чацвёрты паласіст, Анатоль Мікулка, найбольш з іх маляўнічы. Студэнт медыцынскага факультэта трапіў нейкім цудам у "Кур'ер" карэктарам, а потым начным рэдактарам. Здаецца, гэта якраз ён рабіў пэўныя крокі для залатвення пераходу жагарыстаў да новага апекуна.

"Перпендыкуляры" мелі той самы фармат, што і "Жагары". Не памятаю ўжо, ці друкаваў у іх нешта Дамбінскі. У кожным разе выданне гэтае адразу страціла палітычны размах. З дзвюх палавін, з якіх складаўся калектыў "Жагараў", г.зн. паэычнай і палітчнай, тая другая змену памяшкання адчула вельмі хваравіта.

Нічога дзіўнага. "Слова" рэдагаваў фантастычны чалавек, парадаксальны палітык, вядомы публіцыст, залежны па самай справе ад фундатараў (як быццам ёсць дзе на свеце рэдактары выданняў, ні ад кога не залежныя), але па-першае - ад многіх, па другое ад такіх, якія дастаткова далёка былі ад палітыкі. У такой сітуацыі, калі нават выбухне скандал, як з "Жагарамі", то заўсёды нейкі час міне, пакуль непаслухмяных заклічуць да парадку.

Тым часам "Курвеля" рэдагаваў чалавек без фантазіі, палёту, надмерных амбіцый - Казімір Акуліч. Сапраўды, адзінай яго амбіцыяй было трыманне за "Слова" і нейкае такое датрыманне кроку Мацкевіча. Пра тое суперніцтва я пісаў ужо сям-там ("Рэчаіснасць"), жартаўліва або вельмі каротка.

Пры Акулічу, які атрымоўваў датацыі на выданне непасрэдна з Ваяводскай адміністрацыі, цяжка было дасягнуць размаху. Палітычнае крыло суполкі хутка згарнулася.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, выйшла факсімільнае выданне кнігі Вацлава Ластоўскага “Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі”, 814 ст.**
**Наклад 500 асобнікаў.**






**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор”, выйшла кніга Кастуся Тарасава “Выбранае”, 592 ст.**
**Наклад 1000 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Элайда”, выйшла кніга В.В. Навасельскага “История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии. Великие князья Ольгерд и Кейстут (1341 - 1377)”, 248 ст. Наклад 500 асобнікаў.**






**У Менску ў выдавецтве А.М. Вараксіна, выйшла кніга С.В. Барыса “Беларускія песні і гімны”, 380 ст.**
**Наклад 300 асобнікаў.**



**У Менску ў выдавецтве “Элайда”, выйшла кніга В.В. Навасельскага “История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии. Великие князья Кейстут и Ягайло. События в Золотой Орде и Северо-Восточной Руси (1377 - 1382)”, 296 ст. Наклад 750 асобнікаў.**




**У Менску выйшла кніга Леаніда Лыча “Беларуская нацыянальная ідэя”,**
**448 ст. Наклад 290 асобнікаў.**



**Дом Лідскага павятовага лекара Вітольда Стасевіча (30-я гады XX стагоддзя, вуліца 11 Лістапада, 4; цяпер - вуліца 7 Лістапада, 4).**
*Здымак С. Судніка (снежань 2012 г.)*